


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

2 КАСТРЫЧНІКА 1998 Г. | № 40/3968 | КОШТ 4 000 РУБ.








*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі маэстра Генадзь ПРАВАТОРАЎ падчас рэпетыцыі.*

*Фота К. ДРОБАВА*

# Ёсць у Музыкі дзень...

***Новы канцэртны сезон распачала ўчора Беларуская дзяржаўная філармонія. Гэта ўрачыстая падзея ўжо каторы год адбываецца менавіта 1 кастрычніка — так адзначае наша культурная грамада Міжнародны дзень музыкі. Традыцыя, да якой мы прызвычаіліся. Якая дае надзею на добры настрой і абнаўленне эмоцый. Абяцае непаўторнасць творчых імгненняў, бо яны абавязкова бываюць там і тады, дзе і калі гучыць жывая музыка. Традыцыя, з якой мы звязваем простую магчымасць сустрэць адразу амаль усіх, каго бачыш рэдка, з кім прыемна перакінуцца добрым слоўкам.***

Надзейная "традыцыя надзеі"! Яна робіць трывушчым наш аптымізм. Бо ўрэшце мы так або іначай пераконваемся ў недарэмнасці спадзяванняў. Сімфанічны канцэрт, які адбыўся ўчора ў Вялікай зале сталічнай філармоніі, адпавядаў традыцыйнай атмасферы нашых сур'ёзных музычных святаў. Афіша вабіла салідным і густоўным зместам: "Манфрэд" П. Чайкоўскага. Моцартаў фартэпіянны канцэрт з выбітным салістам Іосіфам Сяргеем, якога ведаюць-шануюць не толькі на Беларусі, новы твор Уладзіміра Дарохіна для аркестра. Знаны маэстра Генадзь Праватораў упершыню быў прадстаўлены як галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра краіны...

Што ж, афіцыйны, каляндарны Дзень Музыкі ўжо мінуў. Ды 61-шы філарманічны сезон будзе багаты на новыя мастацкія падзеі. Неўзабаве пройдзе дэкада народна-інструментальнай творчасці "Славянскі вянок", зладкаваная па ініцыятыве вядомага нашага музыканта і педагога Мікалая Марэцкага з удзелам расійскіх выканаўцаў —


*(Працяг на стар. 3)*

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Скончыўся верасень — месяц жніва і копкі бульбы, стварэння запасаў на зіму, клопатаў пра будучы ўраджай, а яшчэ — і месяц слаўных Нясвіжскіх дажынак з двухдзённым размахам, з дарагімі, як на "Полі цудаў", падарункамі, з танцамі самога віцэ-прэм'ера...***

***Неўпрыкмет пачаўся кастрычнік, першы ўжо дзень якога прынёс зусім позневосеньскі холад з калючым дажджом і мокрым снегам, надта ж раптоўна нагадаўшы, што зусім неўзабаве можа легчы і зіма.***

***Час быццам бы не стаіць на месцы, толькі вось...***

***Агледзіны з верталётнага вакенца вераснёўскіх палёў, калгасных мехдвароў ды фермаў добрага дзесятка раёнаў Міншчыны і Віцебшчыны паказалі, што весяліцца ў Нясвіжы было няшмат падстаў. Недаробак, упушчэнняў, безгаспадарчасці — хоць адбаўляй. І пайшла зверху вышэйшая ўрадавая тэлеграма, у якой звяртаецца ўвага, падкрэсліваецца, патрабуецца...***

***Вось і выходзіць, што час не тое што не рухаецца наперад, а нібы вяртаецца назад, у тыя савецкія гады, калі ўсё рабілася акурат пры дапамозе вялікіх і малых нарад актыву, указанняў, распараджэнняў, даручэнняў, тых самых урадавых вышэйшых тэлеграм...***

### УЗНАГАРОДА ТЫДНЯ

"Знамянальна, што першую ў сваім жыцці ўзнагароду я атрымліваю ад Праваслаўнай Царквы", — сказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, прымаючы з рук Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II ордэн Крыжа Прападобнай Еўфрасінні Полацкай, заснаваны Сінодам Беларускай Праваслаўнай Царквы па благаславенні Яго Свяцейшаства. Вядома ж, знамянальна! Шчыры ўсё ж чалавек, наш спадар Прэзідэнт...

### МАНЕТЫ ТЫДНЯ

Аказваецца, ёсць, не зніклі яны з нашага жыцця, хоць і даступны сёння выключна нованароджаным таўстасумам. Нацыянальны банк краіны зацвердзіў план выпуску такіх манет на будучы год. Называюцца яны памятныя і вырабляюцца з каштоўных металаў. Прысвечаны яны будуць Мінску ў сувязі з пяцісотгоддзем атрымання ім Магдэбургскага права, вядомым нашым дзеячам навукі і культуры, а на адной будзе адлюстравана гродзенская Каложа — царква XII стагоддзя.

### ЗАРПЛАТА ТЫДНЯ

Каму на Беларусі жыць добра? Адвечнае пытанне, адказ на якое, здавалася б, і знайсці немагчыма. Ды, дзякуючы Дзяржкамстату, адказ, як кажуць, на далоньцы. Сярэднямесячная зарплата сярэднестатыстычнага беларуса за восем месяцаў сёлетняга года склала 3 мільёны 829 тысяч рублёў. На жаль, сярэднестатыстычнага беларуса не існуе ў прыродзе. Ёсць канкрэтныя індывіды — рабочы, калгаснік, работнік культуры, сацыяльнай сферы і гэтак далей, ажно да банкаўскіх служачых. Дык вось, аказваецца, між імі — "дистанция огромного размера". У работнікаў банкаў гэтая самая сярэдняя зарплата 7 мільёнаў 613 тысяч рублёў, у работнікаў культуры — 2 мільёны 533 тысячы, а ў згаданых работнікаў сацыяльнай сферы — "ажно" I мільён 990 тысяч рублёў. Бог па-ранейшаму дзеліць няроўна...

### ДЫПЛАМАТ ТЫДНЯ

Услед за Пятром Краўчанкам "здаўся" і другі непрымірымы апазіцыянер — адзін з лідэраў ПКБ Васіль Новікаў. Ён атрымаў прызначэнне на пасаду саветніка па палітычных пытаннях пасольства Беларусі ў Малдове. Сам Васіль Мікалаевіч гэтак патлумачыў карэспандэнту "Звязды" сваю згоду пайсці на дзяржаўную службу: "А што, камуністы не хочуць есці? Два гады я быў беспрацоўным, з перабоямі атрымліваючы тую ж дапамогу па беспрацоўі... Так што нічога сенсацыйнага ў тым, што я паеду працаваць, няма. Я заўсёды служыў справе, дзяржаве, людзям". І ці знойдзецца той, хто кіне ў яго каменем?

### КРАСАМОЎСТВА ТЫДНЯ

Газеты апублікавалі даклад прэм'ер-міністра С. Лінга на апошнім пасяджэнні Савета Міністраў Беларусі. Аптымізму спадара Лінга можна толькі пазайздросціць! Вось, калі ласка: "За сем месяцаў гэтага года (у параўнанні з 1997 годам) рэальныя грашовыя даходы насельніцтва павялічыліся на 23 працэнты. Калі ў 1996 годзе рэальная зарплата павялічылася на 5,1 працэнт, у 1997 годзе — на 14,5, то за 8 месяцаў гэтага года - на 36,8 працэнта". Тут, як кажуць, хоць стой, хоць падай! Чаму ж тады, Госпадзе, мы, грэшныя, ледзь зводзім канцы з канцамі?!

### ЗАКОН ТЫДНЯ

Польскі сейм прыняў закон "Аб інстытуце народнай памяці". У адпаведнасці з ім асобы, якія падвяргаліся праследаванням па палітычных матывах у Польскай Народнай Рэспубліцы, змогуць не толькі азнаёміцца са сваімі дасье, але і даведацца прозвішчы людзей, якія забяспечвалі спецслужбы такой інфармацыяй. Рашэнне, пэўна ж, не адназначнае, тым не менш яно сведчыць, што Польшча намагаецца падвесці рысу пад мінулым, каб не дапусціць вяртання колішніх парадкаў.

### ПАЦВЯРДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Тое, што Францішак Скарына не меў ніякага другога імя, было вядома і раней, аднак жа быў час, калі імя Георгій ледзь не цалкам выціскала з ужытку звыклае імя Францішак (Францыск). І вось цяпер вядомы скарыназнаўца, загадчык аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі Георгій Галенчанка знайшоў у гарадскім архіве Познані арыгінал выдадзены Ф. Скарыне каралеўскай граматы. У ёй перад імем "Францыск" напісана зусім не "Georgii", а "egregii", што азначае "знакаміты", "славуты". Усяго Г. Галенчанка выявіў там пяць новых скарынінскіх дакументаў, якія ўдакладняюць факты біяграфіі нашага слыннага першадрукара. Сапраўды, няма нічога тайнага, што б не сталася яўным...

### КАМПАНІЯ ТЫДНЯ

Друк паведамляе, што "ў бліжэйшы час усе 32 гарады, гарадскія пасёлкі, а таксама вёскі Брэстчыны, якія калісьці карысталіся Магдэбургскім правам, зноў будуць мець уласныя гербы — сімвалы яднання жыхароў". Што ж, як той казаў, — добрая справа. Вяртацца да вытокаў трэба, і рабіць гэта ніколі не позна. Вось толькі насцярожвае дух кампанейшчыны — у бліжэйшы час забяспечыць гербамі акурат усе 32 населеныя пункты! Каб пры гэтай спешцы і ўсеагульнасці не здарылася прыкрых казусаў ды недарэчнасцяў, накшталт таго, што здарылася з вяртаннем герба старажытнаму Лагойску, калі на Тышкевічаўскі герб патрапіла раптам пяціканцовая зорка...

ШЛЯХІ

# Беларуская ідэя — наш ратавальны круг!

Яшчэ Уладзімір Ленін пісаў, што царская Расія была турмою народаў. Але як сам ён, так і ягоная бальшавіцка-камуністычная партыя, нямала садзейнічалі таму, што і Савецкі Саюз працягваў быць такою ж турмою. Для тадышняга НКУСа-КДБ не было страшнейшага ворага, чым так званы нацыяналізм. Самому гучанню гэтага слова быў нададзены сэнс амаль што не лаянкі, хоць Даль, напрыклад, азначаў тое слова, як проста любоў да свайго народа. Таму яно гэтак не падабалася партыйным ідэолагам, і тым больш ненавіснай была нацыянальная ідэя. У баязлівых па прыродзе сваёй камуністычных цэрбераў на небяспеку быў востры нюх і, як дастаткова ўжо вопытныя каты, яны разумелі, што каб прыдушыць пачуццё самастойнасці народа і пазбавіць свабоды, яго трэба пазбавіць ягонай душы — нацыянальнай самасвядомасці. А ў культуры, як вядома, гэтую самасвядомасць выражае менавіта філасофія. Таму ўсе іх высілкі і накіроўваліся на тое, каб не дапусціць узнікнення беларускай нацыянальнай філасофіі. Усё духоўнае жыццё народа, яго культура і яго інтэлігенцыя былі падпарадкаваны афіцыйна адштампаванай ідэалогіі марксізму-ленінізму і пралетарскага інтэрнацыяналізму, што кожнай нацыянальнай культуры пакідала толькі значэнне знешняй формы, набіваючы яе аднатыпным сацыялістычным зместам і ствараючы ў выніку ўжо не нацыянальную культуру, а нейкае звыродлівае чучала гэтай культуры.

Для стварэння прафесійнай нацыянальнай філасофіі ў беларускага народа па ўсё тых жа прычынах доўгія стагоддзі не было, як вядома, адпаведных умоў. Ён быў змушаны выражаць свой светапогляд і светаадчуванне пераважна праз фальклор і мастацкую культуру. Ды і тут тыя цэрберы імкнуліся вытравіць нацыянальны дух і замяніць яго на гатовыя штампы сацрэалістычнай эстэтыкі. Малейшыя спробы самастойнага мыслення бязлітасна падаўляліся, як тое было, напрыклад, з маімі кнігамі, дзе якраз і зроблена была такая спроба. А ўжо чыстая філасофія трымалася пад найстражэйшым кантролем з боку не толькі ЦК КПСС, але і самога КДБ, афіцэры якога не саромеліся час ад часу чытаць інструктажныя лекцыі для выкладчыкаў, дацэнтаў і прафесараў філасофіі, як тое не раз адбывалася, напрыклад, у БДУ. Не саромеліся і вербаваць прафесійных філосафаў у шэрагі так званых сексотаў, стварыўшы нябачаную і нечуваную яшчэ ў гісторыі ганебную постаць філосафа-асведаміцеля тайнай паліцыі. І такіх пачварных, як гаварыў некалі Гегель, амфібій было нямала сярод тых, хто насіў у нас само па сабе ганаровае званне філосафа. Ды й набор студэнтаў на філасофскі факультэт меў таксама вельмі спецыфічны характар. Прымалі туды пераважна па рэкамендацыях партыйных органаў, беларусаў — толькі пэўны працэнт, старанна разбаўляючы іх абітурыентамі з другіх рэспублік (нешта падобнае праводзілася і адносна студэнтаў юрыдычнага факультэта). Існавала закрытая пастанова ЦК КПСС, згодна якой было дазволена выдаваць падручнікі па гуманітарных навуках толькі ў маскоўскіх выдавецтвах, чаму, зноў-такі, і мне не давялося ў свой час выдаць уласны падручнік па эстэтыцы, які не адпавядаў маскоўскім ідэйным нарматывам. У кіруючых колах доўгі час мусіравалася нават думка пра тое, каб увогуле філасофскія факультэты мець толькі ў Маскве і Ленінградзе, выпускнікоў якіх рассылаць затым па нацыянальных рэспубліках для адпаведнай уніфікацыі і інтэрнацыяналізацыі іх светапогляду.

І сёння яшчэ, на жаль, працягваецца тая ж самая палітыка недапушчэння таго, каб узнікла беларуская нацыянальная філасофія як аснова беларускай духоўнай культуры і ідэйны гарант суверэнітэту беларускай незалежнай дзяржавы. Недапушчэння свядомага, або проста па своеасаблівай інерцыі і прафесійнай, так бы мовіць, лянотце. Характэрна, што вольна ці міжвольна прымаюцца часам на ўзбраенне сродкі і зусім процілеглага характару. Калі стала, напрыклад, немагчымым у сваім недаверы да беларускай ідэі як асновы беларускай філасофіі абапірацца на традыцыйны марксізм-ленінізм, некаторыя выхаванцы нашага філасофскага факультэта пачынаюць запазычваць філасофію з Захаду, зусім без уліку таго, што і на сённяшнім Захадзе не ўсё падыходзіць для нас, што і там ёсць свае праблемы і нават прыкметы выразнага крызісу духоўнасці, як, напрыклад, у крайне скептычнай і нігілістычнай філасофіі постмадэрнізму, якая сёння якраз і пачынае настойліва нам рэкамендавацца. Прычым не толькі ў філасофіі, але і ў мастацкай культуры, як, напрыклад, той жа абсурдызм, які для працэсу адраджэння нашай культуры і самасвядомасці можа адыграць толькі ролю чыгуннага ратавальнага круга.

І гэта ў той час, як на тым жа Захадзе існуюць і вельмі пазітыўныя цячэнні і кірункі ў філасофіі неатамізму, у сучаснай пратэстанцкай філасофіі, у філасофіі Тэйяра дэ Шардэна. Словам, у тых філасофскіх кірунках, што шукаюць ідэйных кантактаў з рэлігіяй, як таксама адной з важнейшых духоўных асноў сацыяльна-здаровага грамадства. Але і тут нам не трэба адмяжоўвацца толькі звычайным запазычаннем гэтай філасофіі, бо філасофія ёсць самасвядомасць народа, а народную самасвядомасць, як і свядомасць індывідуальнага "я", запазычыць немагчыма ў прынцыпе.

Менавіта ў гэтым напрамку трэба шукаць нам выйсце з сучаснага крызісу, шукаць з апорай на ўласныя, захаваныя яшчэ ў фальклоры і народным мастацтве, традыцыі і ўласную, яшчэ толькі ствараемую прафесійную філасофію, каб адрадзіць нашу шматпакутную нацыянальную самасвядомасць і духоўную культуру.

А тым самым і адстаяць незалежнасць і суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, што падвяргаецца сёння небяспецы з наступствамі проста катастрафічнымі для беларускага народа і яго існавання іменна як народа.

**Мікалай КРУКОЎСКІ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі**

ДРУК

# Ад старажытнасці па сённяшні дзень

Яшчэ ў 1995 годзе ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі пабачыў свет энцыклапедычны даведнік "Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі". Ахопліваў ён перыяд ад старажытнасці да пачатку XX стагоддзя. Летась з'явілася другая частка гэтай унікальнай кнігі. Гэтым разам знайшлося месца матэрыялам у прамежку 1919 — пачатак 1997-га года. І вось дзве часткі сабраны пад адной вокладкай, а каб пашырыць кола чытачоў, найперш тых, хто жыве ў блізкім замежжы і хоча пабольш ведаць пра нашу краіну, "Ілюстраваная храналогія Беларусі" выдадзена на рускай мове.

Атрымаўся даволі аб'ёмны том, значэнне якога цяжка пераацаніць. Упершыню ў выдавецкай практыцы з'явілася адрасаванае найперш падрастаючаму пакаленню выданне, якое дае даволі поўнае і вобразнае ўяўленне пра ўвесь ход гістарычнага працэсу на Беларусі. Вобразнасць жа дасягаецца дзякуючы таму, што змешчаны дзесяткі каляровых і чорна-белых ілюстрацый, фотаздымкі, малюнкі, творы выяўленчага мастацтва, партрэты гістарычных дзеячаў, дакументы з архіўных сховішчаў і бібліятэк, карты.

Але галоўнае, канечне, сам матэрыял. На аснове археалагічных даследаванняў навуковых абагульненняў даюцца храналагічныя рамкі самых старажытных перыядаў гісторыі, а гэта каменны, бронзавы і жалезны вякі, у прывязцы да тэрыторыі Беларусі. Можна знайсці звесткі пра плямёны, якія здаўна жылі ў тамашніх мясцінах; княствы, якія існавалі ў розны час; пра найбольш важныя бітвы і паходы, пра выдатных дзеячаў тых часоў.

Шырока адлюстраваны падзеі той эпохі, калі існавала Беларуска-Літоўская дзяржава, што ўвайшла ў гісторыю як Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Больш за 500 гадоў існавання гэтай дзяржавы, прытым найбольш буйной для свайго часу ў Еўропе, гэта дасягненні і страты, бясконцыя войны. Як і што было, расказвае поўна і ўсебакова даведнік. Гаворыцца і пра ўваходжанне Вялікага княства Літоўскага ў федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую, а потым, з канца XVIII стагоддзя, — у склад Расійскай імперыі.

Глыбока і ўсебакова адлюстраваны і падзеі, што мелі месца ў нашым стагоддзі. А яны, безумоўна, вельмі складаныя і не заўсёды ў ацэнцы іх можна дасягнуць нейкай пэўнай высновы. Але энцыклапедыя на тое і энцыклапедыя, каб не забываць аб аб'ектыўнасці, не паддавацца пэўным плыням і настроям. Шмат матэрыялаў знаёмяць з актывізацыяй нацыянальнага руху ў пачатку стагоддзя, з падзеямі пасля кастрычніка 1917 года, расказваецца пра калектывізацыю, калі рушыліся спаконвечныя сялянскія ўстоі. Па-новаму асэнсоўваюцца падзеі Вялікай Айчыннай вайны. І, вядома ж, гаворыцца пра наш сённяшні дзень, пра новую Беларусь.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

ІМПРЭЗЫ

# Душой напоўнены канон

Самабытная і незалежная. Натхнёная і працавітая. Мае ўласную пазіцыю ў творчым жыцці, мае сваё месца ў айчыннай культуры. Людмілу Шлег не зблытаеш ні з кім. І не таму, што жанчын сярод кампазітараў — адзінкі.

Хто яшчэ з яе калег мае такі ёмісты і стракаты спіс праграмных твораў, у якім суседнічаюць рэквіем "Помніце!" паводле кнігі "Я з вогненнай вёскі...", опера "Тараканище" на тэкст К. Чукоўскага, араторыя "Сказ пра Ігара" на тэкст "Слова аб палку Ігаравым" у Купалавым перакладзе, вакальна-сімфанічнае дзеянне "Гуканне вясны" (спяванне без слоў), канцэртны трыпціх "Santa Mater" на лацінскія кананічныя тэксты, канчэрта-рэтра "Алілуя", сімфанічная карціна "Несцерка", аркестравая паэма "Сымон-музыка", канцэрт-феерыя "Юр'еў дзень" для габоя з аркестрам, "Серыя кароткіх інтэрв'ю" для струннага квартэта, хор "Мастер и верблюд" на ўласныя словы, рамансы на тэксты санетаў Шэкспіра, "Гимн в честь Кирилла и Мефодия" на літургічныя тэксты, канты на тэксты царкоўнаславянскіх малітваў, харавыя апрацоўкі беларускіх народных песень...

Доўгі пералік? Але гэта толькі частка створанага Людмілай Шлег. І красамоўнае сведчанне рознабаковасці яе таленту, бязмежнасці фантазіі. Дапытлівы мастак, яна нібы наноў перастварае ў музыцы архаічныя беларускія абрады й рытуалы, вобразы паэтычнага фальклору і рэальнай гісторыі, імкнецца асэнсаваць будову Сусвету і "сэрцам прачытаць" хрысціянскі закон.

Сёлетні год у яе жыцці — "залаты", юбілейны. З гэтай нагоды ў Нацыянальнай бібліятэцы прайшла незвычайная мастацкая імпрэза. Сустрэча з харавой музыкай Людмілы Шлег адбывалася ў атмасферы вернісажу яе жывапісных работ. Выявы кананізаваных святых асоб, напісаныя рукою кампазітара, былі выстаўленыя ўпершыню, і гэтая своеасаблівая прэм'ера сталася адкрыццём для большасці прысутных.

**Н.К.**

*На здымках: кампазітара Людмілу Шлег (справа) вітае ўладыка Філарэт. Рэпрадукцыя адной з работ, прадстаўленых на выстаўцы.*

*Фота К. ДРОБАВА*

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

## Жыццём слугуючы Айчыне

На чарговую сустрэчу ў навукова-асветным цэнтры імя Уладзіміра Калесніка, што, як вядома, працуе ў Берасцейскім універсітэце, гэтым разам сабраліся студэнты і выкладчыкі філалагічнага факультэта, каб адзначыць 80-годдзе з дня нараджэння мовазнаўцы, прафесара Фёдара Янкоўскага.

Адметнасць гэтае сустрэчы ў тым, што многім выкладчыкам-берасцейцам слынны вучоны дапамог стаць на крыло, а з незабыўным Уладзімірам Калеснікам яны былі сапраўднымі сябрамі. Гучала слова пашаны і ўдзячнасці вядомых сёння ў нашай краіне вучняў юбіляра Міколы Мішчанчука і Галіны Малажай, Станіслава Рачэўскага і Валянціны Мароз, Марыі Новік і Міколы Аляхновіча... Прысутныя паглядзелі кавалак інтэрв'ю з У. Калеснікам, дзе той расказвае пра свайго сябра яшчэ са студэнцкіх часоў Ф. Янкоўскага.

Мовазнаўчыя кафедры ВНУ мяркуюць правесці і рэгіянальную навуковую канферэнцыю "Жыццём слугуючы Айчыне", прысвечаную Ф. Янкоўскаму.

## Палессе, маё Палессе

Напрыканцы лістапада Брэсцкі дзяржаўны універсітэт праводзіць рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю "Рэгіянальныя асаблівасці Берасцейска-Пінскага Палесся ў літаратуры, фальклоры, мове і культуры". Навукоўцы плануюць абмеркаваць такія пытанні, як "Літаратура Берасцейскага краю: гісторыя, сучаснасць, перспектывы развіцця", "Фальклор паўднёва-заходняга Палесся", "Літаратурная мова і палескі дыялект", "Гісторыя і культура Берасцейска-Пінскага Палесся". Па выніках работы канферэнцыі будзе выдадзены зборнік матэрыялаў.

Тым, хто зацікавіцца мерапрыемствам, можна звярнуцца на кафедру беларускага літаратуразнаўства.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

*ГОМЕЛЬ...*

## Напярэдадні з'езда

Напярэдадні юбілейнага з'езда Саюза мастакоў Беларусі ў Гомелі адкрылася чарговая выстава. У мясцовай карціннай галерэі экспануюцца работы знакамітых землякоў: народных мастакоў Беларусі Віталя Цвірко і Гаўрылы Вашчанкі, заслужаных дзеячаў мастацтваў Беларусі Барыса Звінагародскага, Дзмітрыя Алейніка, Мікалая Казакевіча, Мікалая Пушкара, Анатоля Отчыка, Роберта Ландарскага, Уладзіміра Лосева...

На адкрыцці выставы прысутнічалі адказныя работнікі абл- і гарвыканкамаў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБСК...*

## Імя вяртаецца нашчадкам

Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя Машэрава сумесна з Полацкім гісторыка-культурным музеем-запаведнікам рыхтуюць другія міжнародныя літаратурныя чытанні, прысвечаныя творчасці Яна Баршчэўскага. Пройдуць яны 11—12 лістапада ў Полацку, у бібліятэцы імя С. Полацкага.

— Напрыканцы XX стагоддзя імя славутага песняра вяртаецца яго нашчадкам, — гаворыць першы прарэктар універсітэта прафесар Анатоль Дарафееў. — Нашы філолагі і студэнты штогод выязджаюць у экспедыцыі ў Расонскі раён на радзіму пісьменніка. Мясцовы краязнаўчы музей рыхтуе пастаянную экспазіцыю аб аўтары "Шляхціца Завальні".

У міжнародных чытаннях возьмуць удзел даследчыкі з Польшчы, Літвы, Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, цэнтра імя Францішка Скарыны.

## Перамога Лявона Неўдаха

Судовая справа па абароне гонару члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, рэдактара наваполацкай газеты "Хімік" Лявона Неўдаха цягнецца ўжо больш за тры гады. У час перадвыбарнай кампаніі ў Вярхоўны Савет рускамоўны літсаюз "Полоцкая ветвь" абразіў Неўдаха ў лістоўцы, якая выйшла накладам у ІІ тысяч асобнікаў і была раскідана ў паштовыя скрыні навапалачан. Днямі Полацкі гарадскі суд вынес вердыкт: акрамя 5 мільёнаў рублёў, якія літаратурная арганізацыя павінна выплаціць пацярпеламу, "Полоцкая ветвь" абавязана выдаць лістоўку тым жа накладам з прабачэннем перад пісьменнікам і журналістам.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

## З ласкі боскай

Народнай харавой капэле г. Бабруйска 40 год. Яна была створана А. Куцэнка пры клубе завода гумава-тэхнічных вырабаў. Затым ёю кіравала А. Вечар. Зараз лідэрам капэлы з'яўляецца Т. Мальчаўскене. Кожны з кіраўнікоў калектыву зрабіў усё для таго, каб голас капэлы пачулі не толькі ў горадзе на Бярэзіне.

Сваё мастацтва капэла паказвала ў Магілёве, Адэсе, Мінску, Кішынёве, Севастопалі, Еўпаторыі, Ленінградзе, Пскове і іншых вялікіх і малых гарадах. Яна — лаўрэат другога і трэцяга ўсесаюзных фестываляў народнай творчасці, першага рэспубліканскага фестывалю харавых калектываў імя Рыгора Шырмы, удзельнік Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа".

У капэле пяць салістаў, два вакальныя ансамблі: жаночы "Сузор'е" і мужчынскі "Акцэнт". Рэпертуар калектыву складаецца з твораў духоўнай і свецкай музыкі. З высокім майстэрствам капэла выконвае раманс А. Варламава на верш М. Лермантава "Бялее ветразь адзінокі", "Ойча наш" П. Чайкоўскага, "Пад тваю міласць" Д. Бартнянскага, беларускую "Купалінку", рускі "Стэп шырокі" і іншыя творы.

З 1995 года капэла працуе пры Цэнтры выхаваўчай работы Першамайскага раёна Бабруйска.

## Ад прадзедаў спакон вякоў

Як жаданыя святы прайшлі на Магілёўшчыне Еўрапейскія дні спадчыны. Так, у вёсцы Гарбацэвічы, што на Бабруйшчыне, адзначаўся Багач. У краснапольскай вёсцы мясцовыя артысты правялі вячоркі, дзе паказалі абрад "Радзіны". Члены аматарскага клуба "Алеся" ў вёсцы Канічы Касцюковіцкага раёна сваё чарговае пасяджэнне прысвяцілі стравам абрадавай кулінарыі. У Хоцімску адбылася прэм'ера аматарскага тэатра "Прымакі" па аднайменнай п'есе Я. Купалы. У Бабруйску гараджан весялілі народныя фальклорныя ансамблі "Весялуха" і "Бабруйскія музыкі". Па ўсёй вобласці прайшлі канцэрты, праграмы якіх складзены з народных твораў, гутаркі і ўрокі ведання роднага краю, яго гісторыі, літаратуры і мовы.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Чаму каты ненавідзяць сабак? Таму што сабакі ненавідзяць катоў. А што яшчэ больш раз'ядноўвае, як адсутнасць адзінага ворага. Прапаноўвалі злучаць зайца з мышшу, дык гэта біёлагаў не калыша. Лепш, кажуць, напрасцяк злучыць катоў і сабак. Значыць, на бліжэйшыя гады ўсё застаецца так: сабакі ненавідзяць катоў, каты — сабак. І не трэба за алегорыяй бачыць якіясьці гісторыі.

●

Згодны на любую дыскрэдытацыю... толькі была б кампенсацыя. На любыя прыцясненні... толькі каб у грашовым вылічэнні. Доўга, аднак, не пажыруе... аднойчы ўсё дэкампенсуюць.

●

У крамцы, дзе прадаюць падношанае адзенне і пенсіянеры капаюцца ў шмацці "з Еўропы", чарговае павышэнне цэн. "Не можам іначай, — мармыча прадавец, — ведаеце, наколькі долар падаражэў. Няхай у нас, як вы кажаце, лахманы, але крызісу падуладныя і яны".

●

На конкурсе помнікаў спаленым вёскам увагу прыцягнуў праект бетоннага дрэва без адзінага лістка на вецці. Колькі такіх помнікаўдрэў варта было б паставіць па ўсёй Беларусі — цэлы лес. А стаіць лес помнікаў аднаму чалавеку, па помніку ў кожным раённым "улусе". Што гавораць яны сёння сэрцу беларусаў?

# Чалавек і яго здароўе

У Мінску, у памяшканні інстытута па радыеэкалогіі імя А.Д. Сахарава 22—26 верасня прайшла міжнародная канферэнцыя "Новыя веды аб здароўі чалавека XXI стагоддзя". У працы канферэнцыі, арганізатарам якой стаў Астраэзатэрычны універсітэт, прынялі ўдзел духоўна-аздараўленчыя цэнтры з Масквы, Саранска, Адэсы, Мінска, а таксама Беларуская педагагічная ліга. Здароўе чалавека ўключае не толькі здавальняючы стан фізічнага цела, таму, акрамя медыцынскіх работнікаў, чыталі лекцыі і праводзілі заняткі ў творчых лабараторыях і псіхолагі, і педагогі. Кожнаму слухачу канферэнцыі было прапанавана з дапамогай так званага "матрычнага метаду", які выкарыстоўваецца ў астрапсіхатэрапіі, атрымаць дыягназ уласнага энергапатэнцыяла, кароткую характарыстыку па схільнасцях і захворваннях. Калі слухачоў цікавіла пэўная тэма, якая, вядома, не магла быць асветлена ў дастатковым аб'ёме падчас сціслага даклада, азнаёміцца з ёй больш глыбока можна было, набыўшы адпаведную літаратуру, што прадавалася на канферэнцыі ў вялікім асартыменце.

Праграма канферэнцыі вылучалася разнастайнасцю і насычанасцю. Тэмы дакладаў закраналі самыя надзённыя праблемы, з якімі ў жыцці сустракаецца амаль кожны. Прычым канферэнцыя дазволіла падысці да здароўя чалавека з зусім іншага боку, чым гэта робяць і звычайная медыцына, і нетрадыцыйныя спосабы лячэння. Дакладчыкі на чале з рэктарам Астраэзатэрычнага універсітэта Віталіем Паляковым робяць усе намаганні, каб у аснову сучаснай медыцыны легла найперш духоўнае аздараўленне асобы. "Чалавек—Планета—Законы Сусвету. Прычыны скажэнняў у развіцці чалавека" — менавіта так гучала тэма выступлення В. Палякова, аўтара кніг "Астрасінтэз", "Тэорыя адноснасці свядомасці", "Астраэзатэрычная і кардынальная астрапсіхатэрапія" і іншых. Астраэзатэрычная школа лічыць, што да аздараўлення чалавека вядзе толькі асэнсаванне схаваных заканамернасцей у развіцці. Яна прапаноўвае прынцыпова новы, навукова абгрунтаваны падыход да гэтых праблем. Сістэматызуючы веды, выкладзеныя "трыма, вялікімі вучаніцамі Іерархіі" А. Блавацкай, А. Рэрых і А. Бейлі, сваю мэту яна фармулюе так: навучыць чалавека быць стваральнікам планетнай эвалюцыі. Стваральнікам (менавіта з вялікай літары), які спасцігне ўласную місію і мэту развіцця ўсяго чалавецтва. Чалавек павінен уяўляць сабе прычыну і вынік кожнага свайго кроку, думкі, учынку. Калі цытаваць В. Палякова: "Пасля 28 гадоў большасць людзей, як кажуць, паступова "пачынаюць усё болей і часцей працаваць на аптэку". І прычынай гэтага з'яўляецца і няправільнае харчаванне, і скажоны спосаб жыцця. Але ўсё ж галоўнай (і ўпарта непрыкмячаемай) прычынай з'яўляецца няведанне Законаў развіцця жыцця. Аднак "няведанне закона не вызваляе ад адказнасці за іх парушэнне". У выніку чалавек абрастае праблемамі, нават не падазраючы аб іх ісцінных "каранях".

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

# Ёсць у Музыкі дзень...

(Працяг. Пачатак на стар. 1)

прынамсі, чакаецца прыезд віртуоза-дамрыста Аляксандра Цыганкова. Сузор'е маладых салістаў прадставіць у сваёй новай праграме Акадэмічны народны аркестр імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам маэстра Міхала Казінца. Адкрые свой сезон у сталіцы і Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі. А пры канцы кастрычніка мае адбыцца святочнае ўшанаванне патрыярха беларускай кампазітарскай школы Анатоля Багатырова. Як мы паведамлялі, з нагоды яго 85-годдзя ладкуецца вялікая музычная імпрэза: два аўтарскія канцэрты, а таксама Міжнародная тэарэтычная канферэнцыя, удзельнікі якой абгавораць розныя праблемы стасункаў цывілізацыі і культуры — зразумела, у аспекце музычным і, магчыма, грунтуючыся на багатым творчым ды педагагічным досведзе прафесара А. Багатырова.

Вось такія музычныя дні ды вечары абяцае кастрычнік. Увогуле ж, як заўважана, вакацыі ў музыкантаў — рэч адносная. Улетку большасць з іх мела гастролі. З верасня пачала працаваць філармонія для дзяцей і юнацтва (пра што мы таксама пісалі), адкрыліся сезоны ў камерных залах сталічнай вобласці... Але чым далей у восень, чым бліжэй да халадоў, тым больш "гарачыя" дзянькі ў жыцці музычным: час новых канцэртных праграм, час фестываляў.

**С. Б.**

## Паказваюць стыпендыяты фонду

**У Музеі сучаснага мастацтва Спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі пры дапамозе Міністэрства культуры РБ прадставіў выставу сваіх стыпендыятаў за 1996—98 гг. Сярод іх — найбольш перспектыўныя навучэнцы і студэнты абласных дзіцячых школ і студый, Мінскага мастацкага ліцэя пры Беларускай акадэміі мастацтваў, Рэспубліканскага каледжа мастацтваў, Мінскай мастацкай вучэльні імя Глебава, Беларускай акадэміі мастацтваў. За час існавання фонд выдаў ужо 150 стыпендый у галінах музыкі, літаратуры, харэаграфіі, кіно, а цяпер і выяўленчага мастацтва. Фонд не абмяжоўваецца грашовымі прызамі, ён падтрымлівае цікавыя творчыя праекты моладзі з узроставым абмежаваннем да 25 гадоў.**

## БУК: інаўгурацыя-98

**Інаўгурацыя або прадстаўленне новага навучальнага года стала ўжо традыцыяй для Беларускага універсітэта культуры, які сёлета ў шосты раз праводзіць яе для сваіх студэнтаў і выкладчыкаў. На свята прыязджае шмат сяброў і гасцей, якія заўсёды з задавальненнем і цікавасцю прысутнічаюць і нават удзельнічаюць у мерапрыемстве.**

**Новы навучальны год для Беларускага універсітэта культуры, зразумела, пачаўся, як звычайна, 1 верасня, але ўліцца ў Alma-mater, пазнаёміцца са сваім новым домам, адчуць сябе яго часцінкай дапаможа менавіта "Інаўгурацыя". Мерапрыемства штогод рыхтуе адна з вядучых кафедр універсітэта — кафедра рэжысуры святаў (загадчык — П. Гуд, выкладчыкі — Ф. Фядотаў, В. Сідранок і галоўны рэжысёр менавіта "Інаўгурацыі-98" — В. Мароз).**

**Традыцыйна "Інаўгурацыя" будзе складацца з двух частак. Першая, класічна-ўзвышаная, — непасрэдна сам рытуал інаўгурацыі, тэатральная дзея з урачыстым пасвячэннем у студэнты, дзе адзінства мінулага і будучыні адчуваецца прысутнасцю высокіх вобразаў Еўфрасінні Полацкай, Францішка Скарыны, Сымона Буднага, дзе перад першакурснікамі адкрываецца сімвалічнае таінства не толькі "Агню Ведаў", але і "Дрэва Ведаў", дзе гучыць клятва студэнтаў і ўсе прысутныя маюць магчымасць праспяваць вечна маладыя "Gaudeamus". Другая частка "Інаўгурацыі", якая, па сутнасці, з'яўляецца прадстаўленнем лепшых творчых калектываў Беларускага універсітэта культуры, пачнецца "Паланезам" Ст. Манюшкі ў выкананні канцэртнага аркестра народных інструментаў пад кіраўніцтвам В. Валатковіча. Гонар універсітэта культуры будуць абараняць такія знакамітыя калектывы, як "Валачобнікі" (мастацкі кіраўнік — прафесар С. Дробыш), "Баламуты" (мастацкі кіраўнік — дацэнт В. Трамбіцкая), "Віват" (мастацкі кіраўнік — прафесар А. Пякуцька), "Светач" (мастацкі кіраўнік — дацэнт В. Парамонаў), "Мара" (дырыжор — Я. Равутовіч), "Дабравест" (мастацкі кіраўнік — А. Пякуцька), "Грамніцы" (мастацкі кіраўнік — У. Зяневіч), якія з'яўляюцца неаднаразовымі лаўрэатамі рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў.**

**Будзе паказана шырокая палітра творчых дасягненняў у галіне вакальна-харэаграфічнага, эстрадна-інструментальнага і харавога мастацтва. У праграме будуць выкананы як вядомыя і прызнаныя творы, так і новыя, упершыню зробленыя калектывамі БУКа да "Інаўгурацыі-98", якая адбудзецца 2 верасня а 18 гадзіне ў Доме афіцэраў.**

МЕРКАВАННЕ

***Драматычныя падзеі, што адбыліся апошнім часам у Расіі, неяк міжволі выклікалі ў памяці радкі вельмі папулярнай падчас перабудовы песні Ігара Талькова пра Расію, дзе аўтар ніяк не мог уцяміць, як гэтая вялікая і магутная краіна "могла себя отдать на растерзание вандалам". Вядома ж, калі б нашая Беларусь знаходзілася на якой-небудзь Алясцы, нас такое пытанне мала хвалявала б. Але ж собіла нам нарадзіцца пад самым бокам гэтай неўтаймоўнай і "нерастраченной силы", і ўсе яе праблемы, хочаш не хочаш, закранаюць і нас. Асабліва закранаюць, бо сусед табе яшчэ і бліжэйшы сябар. Праўда, народная мудрасць перасцерагае ад празмернай сардэчнасці да каго б там ні было, папярэджваючы, што ўрэшце самому мала што застанецца. Можа, таму, на нашае вялікае шчасце, далёка не ўсе ў Беларусі пакуль яшчэ з імпэтам даводзяць, што, маўляў, "у нас, у рускіх..." Да гэтага стану мы не паспелі дайсці, інакш цяпер "у нас, у рускіх" былі б зусім іншага маштабу праблемы і настрой быў бы вельмі невясёлы.***

# За паўгадзіны да рэвалюцыі

I

Зрэшты, сёння і ў нас, браткоў-беларусаў, не нашмат весялей. Але, прынамсі, параўнальна з расійцамі нейкая розніца выяўляецца. Шматкроць праклятая і апляваная многімі нашымі суайчыннікамі, у тым ліку і самага высокага рангу, незалежнасць чарговы раз закрыла сабою амбразуру. Пры ўсёй яе фармальнасці ўсё ж дзякуючы ёй мы маем хоць нейкую адтэрміноўку (у параўнанні з усходнімі "братамі") ад імклівага падзення ў бездань. А пры разумных і рашучых кроках кіраўніцтва маглі б сёння ад тае бездані і ўвогуле адысці...

Адным словам, больш канкрэтна вызначыць на сённяшнім этапе свае ўласныя інтарэсы, як кажуць, і сам Бог загадвае. А этап, відавочна, такі адказны, што вымушае гэта рабіць нават нашае "прарасійскае" кіраўніцтва, бо іншага выйсця проста няма. Падобна на тое, што беларуская палітычная эліта і пачала сёння гэтым займацца, пры ўсіх гучных дэкларацыях, што "мы не здрадзім Расіі". Ніхто, дарэчы, не заклікае "здраджваць" і кідацца ў адбымкі Захаду, бо яшчэ нашыя продкі добра разумелі малую розніцу паміж агнём і полымем. Рэч толькі ў канкрэтных нацыянальных інтарэсах Беларусі, і, як гэта ні парадаксальна гучыць, і ў канкрэтных (нават уласных) інтарэсах нашага палітычнага істэблішменту...

Здаецца, цяперашняе кіраўніцтва Беларусі пачынае паціху разумець небяспеку для сябе гэтак чаканай раней новай бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расіі, нягледзячы на вялікую ідэалагічную ідэнтычнасць з пэўнымі расійскімі палітычнымі коламі. Бо не сакрэт, што сённяшні крызіс у Расіі — не адзін з чарговых, якіх мы па-суседску нагледзеліся шмат. Гэта нешта больш драматычнае для расійскага народа. Гэта канец ельцынскай эпохі, прычым канец беспаваротны, нават калі і сам "патрыярх" і застанецца на троне да 2000 года. Хвароба злачыннай бяздарнасці, безадказнасці расійскай палітычнай эліты рана ці позна мусіла праявіцца радыкальна, бо зайшла вельмі далёка. Сталася так, што гэтая краіна замест рашучага прарыву да "цывілізаванага" свету патрапіла з рук адных "вандалаў" у рукі яшчэ больш выкшталцоных, а па сутнасці проста крымінальных, якія, лёгка адцясніўшы рыначнікаў-рамантыкаў, у сваім цынізме і нахабстве, у сваёй прагнасці і бесцырымоннасці ўжо не ведалі аніякай меры...

Найбольш актыўныя і прадпрымальныя з іх, як толькі атрымалі рэальную ўладу, замест таго, каб "ратаваць Расію", пачалі інтэнсіўна гнаць на Захад бясконцыя эшалоны з каштоўнай стратэгічнай сыравінай, найперш каляровымі металамі, рэзка павялічыўшы таксама перакачку туды нафты і газу. Заганялі оптам і ў розніцу, прадавалі ў дзесяткі разоў болей, чым бралі і бяруць крэдыты. Сёння, з прычыны неверагоднага прытоку сыравіны з Расіі (ды і не толькі з яе!) па дэмпінгавых цэнах, на Захадзе назіраецца нечуваны спад патрэбнасцяў і, як вынік гэтага, значнае падзенне коштаў гэтае сыравіны. У тым ліку, вядома, і нафты — стратэгічнага прадукта, які ўжо больш як 30 гадоў вызначае стан рэчаў у расійскай эканоміцы. У выніку новыя "гаспадары Расіі", у руках якіх вокамгненна аказаліся (разам з грашыма партыі) нечуваныя фінансавыя сродкі, з гэтае прычыны проста ашалелі і замітусіліся, як тыя мухі па шкле. Пра які цвярозы палітычны, эканамічны аналіз, разлік, пра якую адэкватную рэакцыю на рэчаіснасць магла ісці размова? Пра якое "адраджэнне Расіі" маглі думаць людзі, якія нечакана хутка вырваліся "з гразі ў князі", якія ў наркатычнай эйфарыі ад нечуванага багацця і ўлады не маглі нацешыцца сваёй новай роляй? Як жа можа не ўскружыцца галава ад салодкай магчымасці змяніць, напрыклад, на свой густ той жа расійскі ўрад? Дзе тут да лёсу краіны, да лёсу многіх дзесяткаў мільёнаў людзей, якія, згодна закону захавання энергіі, гэтак жа вокамгненна і гэтак жа моцна збяднелі?..

Такім чынам сённяшні крызіс у Расіі быў прадвызначаны ў самым пачатку новага "вялікага шляху". Уладная каманда, хацела яна таго ці не, працавала на разбурэнне ад пачатку, і ў выніку краіна апынулася сапраўды на парозе новай рэвалюцыі. Цяперашняя сітуацыя там, дарэчы, вельмі нагадвае час напярэдадні "Вялікага Кастрычніка", нават храналагічна па месяцах. Да ўлады, які тады, зноў рвуцца бальшавікі. Як і тады, некалькі цэнтраў улады (цяпер іх называюць кланы), моцна скампраметаваныя і бяздарныя, аніяк не могуць зладзіць між сабою. А, значыць, і аб'яднацца напярэдадні чарговага Кастрычніка супраць сённяшніх бальшавікоў з іх бясспрэчна правільнымі папулісцкімі лозунгамі. Вялікай нашай суседцы аніяк не ўдаецца на працягу сваёй гісторыі выбіраць паміж дабром і злом. Яна з жахлівай няўхільнасцю вымушана выбіраць паміж дрэнным і надзвычай дрэнным. Вось вам і дыялектыка, і свабода выбару! На расійскім прыкладзе мы відавочна бачым няслушнасць практычна ўсіх заходніх філасофскіх дактрын канца XIX—пачатку XX стагоддзя, што абапіраліся на тую няшчасную дыялектыку...

II

Але давайце ўсё ж вернемся да нашых бараноў. У чым небяспека новай рэвалюцыі і новай рэстаўрацыі бальшавізму для сённяшняй беларускай уладнай эліты? Здаецца, як мы адзначалі вышэй, практычна поўная ідэалагічная ідэнтычнасць, тыя ж стратэгічныя мэты. Усе параметры, быццам бы, сходныя. Але ў тым і справа, што параметры гэтыя ўсё больш прапагандысцкія. Як толькі справа даходзіць да рэальных рэчаў, г. зн. да рэальнай улады, выяўляецца зусім іншы малюнак. Сапраўды, што могуць прапанаваць у выпадку сваёй новай трыумфальнай перамогі неабальшавікі сваім сардэчным аднадумцам з Мінска? У самым лепшым выпадку — губернскі кіраўнічы маштаб, накшталт Саратава або Курска. Тады для многіх з нашых сённяшніх "элітарыяў" назаўжды бывай блакітная мара высока "паруліць" самім. Бывай тады і ўсялякая палітычная слава і вядомасць еўрапейскага, нават сусветнага маштабу, хай сабе і сумніўная, але ж рэальная ў варунках гэтай нялюбай і клятай незалежнасці.

Сённяшнія нашыя правадыры, відаць, усё ж трохі памятаюць з гісторыі, як абышліся бальшавікі з усімі без выключэння сваімі тактычнымі саюзнікамі і "попутчиками". А хто, як не часовыя тактычныя саюзнікі, для расійскіх ленінцаў нашы цяперашнія "бацькі"? Нават такая, як сёння, умоўная наша дзяржаўнасць і незалежнасць ні пад якім соўсам не будзе нашчадкамі Леніна-Сталіна прынята і прызнана, нягледзячы на ўсе цяперашнія пераканнні. Бальшавікі не ўмеюць ісці ні на якія кампрамісы ні з якімі саюзнікамі. Або ўсё, або нічога. Няцяжка прадбачыць, што гэтае "ўсё" для іх не будзе вельмі ўжо недасягальным, улічваючы шчыльнасць нашых эканамічных стасункаў і моцную энергазалежнасць Беларусі. Не трэба нават і паглыбляцца ў статыстыку, каб зразумець, што пры ўмове захавання сённяшняй "блізкасці" Беларусь зможа паставіць на калені адзін сярдзіты "чых" у "лепшым горадзе зямлі".

III

Мяркуючы па ўсім, у нас гэта паціху пачынаюць разумець і нават высновы рабіць. Нездарма неяк Прэзідэнт Беларусі згадаў пра добра ўсім вядомы "Тытанік"... Што ж, ад вялізнай махіны, якая тоне, трэба трымацца як мага далей, каб не пацягнула за сабою. Нават калі і надта шкада, бо там, на борце, засталося шмат чаго дарагога і блізкага. Але з-за немагчымасці выратаваць тое, што гіне, неабходна ўмець выратаваць тое, што засталося. У гэтым і ёсць вышэйшая мудрасць палітычных кіраўнікоў.

Што да самога расійскага "Тытаніка", то, дасць Бог, ён усё ж застанецца на плыву, калі каманда зможа залатаць прабоіны. Ды і, па шчырасці кажучы, наўрад ці дарагія заходнія сябры цяперашняга "капітана" Барыса — Біл, Гельмут, Жак і іншыя — моцна зацікаўлены ў ягоным патапленні. Ліквідацыя Расіі як дзяржавы і распад яе не ўваходзяць пакуль ў іх планы. Расія яшчэ патрэбна ім як монадзяржава для вельмі пэўных геастратэгічных мэтаў. Дастаткова кінуць нават няўзброеным вокам на Поўдзень і Усход, каб пабачыць, якія сілы падымаюцца там сёння. Расійскі "буфер" яшчэ не да канца выканаў сваю гістарычную ролю...

Цяжка, бадай што, дапусціць, што "сябры Расіі" і тыя, хто стаіць за імі, захочуць бачыць на расійскім капітанскім мастку неабальшавікоў, нават моцна змадэрнізаваных, асацыялдэмакратычаных. Капіталісты, як пісаў Маркс, а асабліва некаторыя з іх (якраз тыя, хто вызначае ў многім сёння надвор'е ў свеце), добра ўмеюць лічыць сваю ўласную выгоду і за пэўную яе велічыню не пашкадуюць і роднага бацьку. А ў Расію ўжо паспелі ўкласці зусім нямала сродкаў, якія бальшавікі вельмі добра, накшталт вядомага Папандопула, навучыліся дзяліць. Там, у буржуяў, як кажуць, амаль што няма дурных! Дык што, адбой рэвалюцыйнай трывогі?

Па логіцы, так. Але, як і ў жыцці людзей, не ўсё ў жыцці дзяржаў, нацый паддаецца логіцы. Да таго ж, у гістарычным шляху Расіі вельмі моцную ролю заўсёды адыгрываў эзатэрычны момант. Злавесны ірацыянальны цень даўно ўжо, не першае стагоддзе, навісае над гэтай краінай, вызначаючы яе лёс насуперак усялякай логіцы, усялякаму розуму.

Можа, якраз таму гэтак настойліва і гераічна нашы продкі трымалі "сяброўскі" расійскі напор, адстойваючы сваю незалежнасць. Праўда, урэшце ўсё ж не ўтрымалі, бо спрацаваў фізічны закон паглынання вялікай масы малой. Але небяспеку таго цёмнага, ірацыянальнага нашы продкі адчувалі вельмі добра і супраціўляліся, пакуль маглі. У сённяшніх іхніх нашчадкаў трохі іншыя арыенціры і прынцыпы...

IV

Але як бы там ні было і што б там ні здарылася ў ельцынска-беразоўскай Расіі, якія б рэвалюцыі і катаклізмы там ні адбываліся, нам найперш неабходна думаць пра свой лёс, пра будучыню сваіх уласных дзяцей. Гэта мусіць быць не толькі нашым клопатам і болем, але і самым непасрэдным клопатам нашай улады. Гэта іх непасрэдныя функцыянальныя абавязкі. У гэтых варунках "чысціць" сябе "пад Леніным" ці пад "Зюганавым" аніяк не выпадае, бо магчыма "вычысціць" і зусім... На сённяшнім этапе інтарэсы ўсіх беларусаў як ніколі супадаюць — не даць зацягнуць нашу краіну ў варонку ад якіх бы там ні было "Тытанікаў" і "Аўрораў"...

І ўсё ж нейкае дзіўнае адчуванне пакідаюць сённяшнія вэрхал і вакханаліі на ўсходзе ад нашай мяжы — "чаму так горка, не магу я зразумець"!...

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ**

**МЕРКАВАННЕ**

***Нейкі час таму Беларускі “ПЭН-цэнтр” ладзіў міжнародны семінар на тэму “Свабода і адказнасць”. Я таксама меў гонар быць запрошаным выступіць са спавешчаннем на гэтай імпрэзе, хаця, шчыра кажучы, у мяне не было асаблівага жадання рэфлексаваць над праблемай свабоды і адказнасці за яе. Для гэтага не-жадання мелася як мінімум дзве вельмі грунтоўныя падставы. Першая з іх звязана з тым, што чалавецтва ад веку толькі тое і робіць, што рэфлексуе над трыма сімулякрамі: Бог, Любоў і Свабода. Уласна, уся сусветная літаратура, як інтэлектуальная, гэтак і мастацкая, ёсць, па сутнасці, адной мега-рэфлексіяй над гэтай трыядай. Дык што тут яшчэ можна дадаць?***

***Другая падстава была не менш істотнай. Я нарадзіўся, вырас і асталеў у татальна не-свабоднай краіне сярод спадчынна не-свабодных людзей. Тых некалькі гадоў канца васьмідзесятых — пачатку дзевяностых, якія досыць умоўна можна назваць парой свабоды, натуральна, было замала, каб зразумець, чым насамрэч ёсць рэальная свабода. Іх хапіла, бадай, адно на тое, каб усвядоміць увесь папярэдні досвед жыцця, як досвед не-свабоды. Адным з фрагментаў гэтага досведу, які мне бачыцца нечым падобным да прамовы адваката на судовым працэсе над не-свабодай, я і хацеў бы падзяліцца з чытачом “ЛіМа”.***

# Вандэя,

## альбо Свабода, як форма выяўлення волі да ўлады

Валянцін АКУДОВІЧ

Як гэта ні дзіўна, але пафаснае меркаванне, сфармуляванае ў больш рамантычныя ад нас эпохі, што чалавек нараджаецца свабодным і таму скрозь усё сваё жыццё імкнецца да свабоды як да найвялікай каштоўнасці, усё яшчэ застаецца ва ўжытку. Хаця сёння кожны добра ведае, што ўсе тыя свабоды, якія ў сярэдзіне XX стагоддзя зафіксавала “Дэкларацыя правоў чалавека”, былі літаральна з а в а я в а н ы я ў сацыяльных войнах і рэвалюцыях, гэта значыць — гвалтам, праз крыўду, кроў і прымус навязаны адной часткай чалавецтва другой частцы.

Але калі свабода — гэта найвялікая каштоўнасць для ўсіх і кожнага, то чаму яна ўсталёўваецца не праз згоду, зусім натуральную ў такім выпадку, а праз гвалт адных людзей над другімі? Ды пэўна ж таму, што сацыяльна свабода ніколі не была для чалавека абсалютнай каштоўнасцю, прынамсі, яна ніколі не была каштоўнасцю большай за не-свабоду, і прыкладаў таму лічыць — не пералічыць. Падчас Рымскай імперыі свабодныя плямёны варвараў добраахвотна прасіліся да рымлянаў у рабы (і яшчэ не ўсіх і не заўсёды бралі), бо стан рабства забяспечваў больш высокі ўзровень дабрабыту, чым жыццё ў беспрытульнай волі. Рабынегры поўдня Паўночнай Амерыкі самаахвярна падтрымлівалі сваіх рабаўладальнікаў у вайне з федэратамі, якія хацелі іх вызваліць ад рабства... Найбольш незадаволенымі адменай прыгоннага права ў Расійскай імперыі былі не памешчыкі, а прыгонныя. Зрэшты, рэч не ў асобных прыкладах, дзе памкненне да не-свабоды кожны раз можна патлумачыць ці то гістарычнымі, ці то сацыяльнапсіхалагічнымі матывамі. Рэч у тым, што ўся зафіксаваная гісторыя чалавецтва сведчыць аб заўсёднай і таму, пэўна ж, натуральнай патрэбе сацыяльнага чалавека не-свабоды. І дэмакратычны лад жыцця мы сёння лічым за найлепшы з пакуль магчымых не толькі таму, што з яго чалавек мае права на свабоду, але яшчэ і таму, што тут чалавек гэтаксама мае права выбраць сабе не-свабоду.

Канстытуцыя кожнай дэмакратычнай краіны, як і “Дэкларацыя правоў чалавека” — гэта кансенсус паміж правам чалавека на свабоду і правам на не-свабоду. І хаця права на апошняе ўсе канстытуцыі, як і “дэкларацыя”, сарамліва ўтойваюць, але насамрэч яно заканстытуяванае ў той жа меры, як і першае. І гэтым правам на не-свабоду людзі раз-пораз карыстаюцца, праўда, з рознымі для сябе, а здараецца, і ўсяго чалавецтва, вынікамі. Так ім скарысталіся ў 1933 годзе ў Нямеччыне, падчас апошняга рэферэндуму ў 1991 годзе ў Савецкім Саюзе, вясной таго ж года ў Беларусі, калі калоны рабочых мінскіх заводаў рушылі праз увесь горад на плошчу Незалежнасці.

Некалькі дзён запар усе буйнейшыя тэлекампаніі свету ў аглядах навін паказвалі сваім гледачам гэтае ўнушальнае відовішча. Паказвалі, як прыклад абуджэння беларускага народа ад таталітарнага сну, як жаданне і здольнасць рэалізоўваць заваяваныя маладой беларускай дэмакратыяй правы і свабоды. Прыкладна ў такім жа ракурсе асвятлялі і аналізавалі гэтую падзею айчынныя і замежныя публіцысты, палітолагі, тэарэтыкі. Зянон Пазняк даваў шматлікія інтэрв’ю амерыканскім журналістам (ён тады быў у Амерыцы), дзе казаў, што ганарыцца беларускім народам, які гэтак магутна і цывілізавана прадэманстраваў усяму свету прагу свабоды, незалежнасці і дэмакратыі. Зрэшты, так казаў не толькі ён адзін. Праўда, у беларускіх незалежных мас-медыя праз агульны хор захаплення няўзнак праслізгвала адчуванне нейкай насцярожанасці, бо было абсалютна незразумела, з чаго гэта беларускаму рабочаму аднойчы ранкам захацелася не піва, а свабоды?

Але ні тады, падчас тых падзей, ні да гэтага часу, здаецца, ніхто так і не ўсвядоміў, што ў тыя дні з розных канцоў Мінска рухалася ў адным накірунку не свабодная, незалежная, дэмакратычная Беларусь, а ў маўклівых, бясконцых калонах рушыла тады на плошчу Незалежнасці беларуская Вандэя!

Менавіта так, на галоўную плошчу сталіцы мерным крокам рухалася беларуская Вандэя, сацыяльная правінцыя нашай краіны, якая ў 60—70-х гадах пераехала ў Мінск з вёсак і мястэчак і цяпер патрабавала ад, у пэўным сэнсе, ужо дэмакратычнага Вярхоўнага Савета вяртання сабе сітуацыі не-свабоды. І хаця над стотысячным натоўпам сям-там луналі бел-чырвона-белыя сцягі і ў прамовах выступоўцаў паміж патрабаваннямі падвышэння зарплаты і зніжэння цэн чуліся палітычныя заклікі да адстаўкі ўрада (між іншым, у нейкай меры ўжо таксама прызначанага праз дэмакратычныя працэдуры), і хапала слоў пра свабоду і дэмакратыю, але насамрэч гэта быў магутны пратэст супраць перабудовы, рэформ, блізкага развалу Савецкага Саюза, ліквідацыі сацыялізму і ўсталявання дэмакратыі, пратэст, які беларуская Вандэя тады яшчэ не магла ці пакуль не адважвалася адэкватна сфармуляваць. Але міне некалькі год і наша сацыяльная правінцыя сфармулюе свае патрабаванні ў адэкватных формулах, калі на выбарах прэзідэнта аддасць свае галасы не Шушкевічу, а Лукашэнку, калі на рэферэндумах прагаласуе супраць роднай мовы, нацыянальнай сімволікі, незалежнасці і нават супраць таго, каб самім свабодна выбіраць сабе мясцовую ўладу.

Але я не маю намеру, як магло падацца з папярэдняга, нагружаць метафару Вандэі негатыўнымі значэннямі (менавіта ў негатыўным значэнні аднавіў яе на Беларусі Алесь Адамовіч у пару перабудовы). Бо памкненне сацыяльнай правінцыі да не-свабоды кажа не пра ўласна не-свабоду, а толькі пра тое, што каштоўнасці гэтых людзей палягаюць не ў дыскурсе свабоды, а ў нейкім іншым дыскурсе.

Шматкроць і недвухсэнсоўна выказаны пратэст беларускай сацыяльнай правінцыі супраць шматлікіх спроб навязаць ёй паўз яе волю палітычныя, грамадскія і эканамічныя свабоды пераканаўча сведчаць, што яна выразна ўсведамляе: гэта не яе свабоды і яны не для яе, а для некага іншага і таму ёй гэтыя свабоды для іншага не сёння дык заўтра, але напэўна вылезуць бокам.

Не думаю, што наша сацыяльная правінцыя моцна памылялася тады і памыляецца цяпер. Бо няма ў прыродзе ніякай абстрактнай свабоды, нейкай адной свабоды для ўсіх. Кожная свабода — гэта свабода для некага. Свабода, як зубная шчотка, рэч надзвычай канкрэтная і ў кожнага свая. Крот у нары не менш свабодны за ластаўку ў небе. Проста ў іх розныя кшталты і гарызонты свабоды. І калі крата ўхапіць за карак і шпурлянуць у неба, то ён пэўна будзе мець рацыю, калі палічыць гэта за гвалт, а не за дараваную яму свабоду трохі палётаць.

Свабода слова, свабода друку для мяне, як літаратара, гэта не абстракцыя, а такая ж канкрэтная прылада працы, як асадка і аркуш паперы, гэта значыць — зусім рэальная каштоўнасць, за якую мне мае сэнс змагацца, бо без магчымасці нязмушана выказваць свае думкі я не здолею паўнавартасна рэалізаваць сябе ў сваёй дзейнасці, а з гэтага як бы не дажыву наканаваны мне век. І таму той, хто адымае ў мяне свабоду слова, адымае ў мяне не нешта абстрактнае, а крадзе ў мяне маё, забірае ў мяне частку мяне самога. З гэтага зусім натуральным будзе, калі я крыкну яму: “Злодзей”!..

Але калі нехта забірае ў мяне мае каштоўнасці ў выглядзе свабоды друку, то адсюль зусім не вынікае, што гэтым ён абірае і ўсіх астатніх. Бо якую каштоўнасць могуць уяўляць свабода слова, свабода друку, скажам, маім бацькам, якія за ўсё сваё дарослае жыццё бадай не прачыталі ніводнай кніжкі, ніколі не гарталі газет (за выключэннем хіба тых выпадкаў, калі там друкаваліся тэксты іх сына з ягоным фотаздымкам), а па тэлевізары глядзелі ўсё, што заўгодна, акрамя інфармацыйных і палітычных перадач. Дык што ім да таго, ёсць там нейкая свабода слова ці яе няма, забараняюць выдаваць нейкія газеты ці не. Вось калі б па вясне забаранілі бульбу садзіць, а перад калядамі калоць парсюка — тады іншая рэч. З газет і парламента сытым не будзеш, а з бульбы ды парсюка сам пражывеш, дзяцей выгадуеш і на ўнукаў яшчэ ўспееш пацешыцца...



*Фота А. Мацюша*

Адсюль іхні недавер да ўсялякіх свабод, што разумнікі ў сталіцах выдумляюць, бо не бачна з тых свабод ніякай карысці чалавеку, які жыве з мазаля. Пэўна, разумнікам з іх свабод і станецца нейкая выгода, а для паспалітага люду пры любой уладзе адна свабода: жыццё паміж хлявом і полем да рэшты стаптаць (гарадскі варыянт: паміж фабрыкай і аўтобусным прыпынкам).

Зразумела, што стаптаць сваё жыццё паміж хлявом і полем і стаптаць яго на аркушы паперы — гэта два розныя лады жыцця, якія абапіраюцца на канцэптуальна розныя каштоўнасці. У першым выпадку на анталагічныя каштоўнасці быцця, дзе дамінуюць забеспячэнне самога сябе існаваннем і працяг роду, у другім — на экзістэнцыйныя, дзе вядуць рэй праблемы выбару і рэалізацыі патэнцыялу індывідуальнага “я”.

Быццё не ведае катэгорыі свабоды (свабода ёсць выключна катэгорыяй экзістэнцыі). Таму сацыяльная правінцыя, у сваёй арыентацыі на анталагічныя каштоўнасці, якія забяспечваюць яе існаванне быццём, выбірае сабе не-свабоду, а свабоду пакідае сацыяльнай сталіцы, як месцу, дзе акумулююцца экзістэнцыйна актыўныя суб’екты.

Менавіта высілкамі экзістэнцыйна заклапочаных, якія імкнуцца да пошуку і выяўлення межаў уласнага “я”, катэгорыя свабоды і набыла тое значэнне, якое яно сёння мае, але прыгожы вобраз якога зусім не падобны на яго сутнасць. Ідэалізуючы катэгорыю свабоды, нагружаючы яе значэннем абсалютнай каштоўнасці, сацыяльная сталіца, па-расійску кажучы, “лукавит”. Нічога прыгожага і гуманнага ў свабодзе няма. Шматлікія свабоды — гэта тыя ж “правы” больш моцных, больш актыўных, больш разумных, больш прагавітых выяўляць сваю ўладу над менш моцнымі, менш разумнымі, менш прагавітымі, — толькі ўжо не самачынным гвалтам, а пад абаронай канстытуцыі і дэкларацыі аб правах.

Увогуле, трэба досыць выразна ўсведамляць, што свабода — гэта ўсяго толькі адна з форм выяўлення волі да ўлады. Як толькі недзе завялася прага свабоды, то значыць там нехта ці нешта набрыняла патэнцыялам волі да ўлады. І гэта тычыцца не толькі свабоды палітычных партый, якія адкрыта маніфестуюць свабоду, як патрэбу ўлады, гэта тычыцца і кожнай іншай свабоды. Пакуль Гутэнберг не выдумаў друкарскі варштат, нікому нават да галавы не было казаць пра нейкую там свабоду друку. Але як толькі гэты варштат даў магчымасць далучыцца да вырабу слоў сотням тысяч разумных, актыўных, прагных, то яны адразу запатрабавалі сабе свабоды, каб мець канстытуцыяй гарантаваную магчымасць рэалізаваць сваю волю да ўлады над чытачом... І ўрэшце яны яе атрымалі, у XX стагоддзі прэса рэальна стала чацвёртай уладай, хаця гэтая ўлада пакуль што яшчэ і застаецца юрыдычна не аформленай.

І калі мы тут, на Беларусі, ужо патрабуем розных свабод, то гэта значыць, што ў нашай сацыяльнай сталіцы выспела значная колькасць экзістэнцыйна заклапочаных асоб, якія прагнуць рэалізаваць сваю волю да ўлады праз свабоду слова, свабоду друку, свабоду палітычных і грамадскіх арганізацый і ўсялякія іншыя свабоды. І гэта вельмі добра (шкада толькі, што іх пакуль замала, каб стварыць тую крытычную масу, якая адсуне сацыяльную правінцыю ад сацыяльнай сталіцы на належнае ёй месца — у “Вандэю”). Бо Беларусь толькі тады рэальна стане суб’ектам гісторыі, калі сама ператворыцца ў аб’ект рэалізацыі экзістэнцыйных памкненняў тых, хто прагне свабоды Беларусі, як магчымасці дэмакратычнай формы выяўлення ўласнай волі да ўлады. Але, імкнучыся рэалізаваць гэтыя ўласныя памкненні, наўрад ці мае сэнс наракаць на сацыяльную правінцыю, якая, замест таго, каб дапамагаць нам праз розныя свабоды рэалізоўваць нашу волю да ўлады, затулілася ў сваю не-свабоду і турбуецца адно пра тое, каб у пару забуяла бульба і не спазніліся завезці торфабрыкет на зіму. У нас з сацыяльнай правінцыяй проста розныя меры адказнасці. Яна адказвае за быццё ў яго анталагічным цэлым, а мы — толькі за ўласную экзістэнцыю, якая прагне выразіцца праз розныя свабоды, як найбольш эфектыўныя і цывілізаваныя формы выяўлення волі да ўлады. Між іншым, і праз нацыянальна зарыентаваныя формы.

## Жыве яго паэзія

*Мне даспадобы*
*Верасень заўжды.*
*І не таму, што ў ім я нарадзіўся.*
*У верасні мне свет увесь адкрыўся...*

**Гэта радкі з верша "Зноў верасень" лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатоля Грачанікава, якім пачалася вечарына, прысвечаная 60-годдзю з дня яго нараджэння. На жаль, паэт не дажыў да свайго юбілею, але тыя, хто прыйшоў у Дом літаратара, засведчылі, што памяць пра А. Грачанікава жыве, бо жыве яго паэзія.**

**Успамінамі пра свайго земляка і сябра падзяліўся рэдактар часопіса "Вясёлка" Уладзімір Ліпскі. А дзяўчынкі і хлопчыкі з дзіцячага садка "Ліхтарык" праспявалі песні, напісаныя А. Грачанікавым спецыяльна для дзяцей. Нечаканасцю для прысутных стала з'яўленне на сцэне Анатоля Грачанікава — унука паэта, які хораша прачытаў творы свайго дзеда, якога памятае і любіць.**

**Мікола Аўрамчык доўгі час працаваў рэдактарам аддзела паэзіі часопіса "Маладосць", і праз яго рукі прайшлі дзесяткі і сотні пачынаючых літаратараў. Сярод іх быў і Анатоль Грачанікаў. Пра пачатак літаратурнага шляху юбіляра і расказаў М. Аўрамчык.**

**Кампазітар Ігар Лучанок успомніў сваё і паэтава камсамольскае юнацтва, калі імі сумесна былі напісаны песні, якія і сёння не сышлі з нябыт.**

**Прадстаўнікі Беларускага саюза моладзі (былы камсамол) выказалі сваё захапленне творчасцю і асобай А. Грачанікава, які быў адным з лаўрэатаў камсамольскай прэміі за кнігу вершаў "Грыбная пара".**

**Успомнілі паэта добрым словам Уладзімір Скарынкін і Яўген Каршукоў, прачыталі вершы, прысвечаныя паэту.**

**Алесь Бадак асабіста не ведаў А. Грачанікава, але на пачатку свайго літаратурнага шляху, пазнаёміўшыся з творчасцю паэта, прыняў яго як свайго настаўніка, і на вечарыне выказаў сваю ўдзячнасць і павагу да яго.**

**Дзевяць апошніх гадоў свайго жыцця А. Грачанікаў праправаў галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць", а першым яго намеснікам быў тады Генрых Далідовіч. Пра сумесную працу, пра сяброўства з Анатолем Сымонавічам і расказаў цяперашні галоўны рэдактар "Маладосці".**

**Удава паэта Нэла Іванаўна падзякавала ўсім прысутным за добрую памяць пра Анатоля Сымонавіча, з якім, як яна сказала, "пражыла трыццаць адзін год, як трыццаць адзін дзень". Для яе А. Грачанікаў быў вялікім беларускім паэтам пры яго жыцці і такім ён застаецца для яе і сёння.**

**На вечарыне гучалі вершы паэта ў выкананні артыстак Тамары Мікалаевай і Ларысы Грынько. Вёў вечарыну старшыня СБП Уладзімір Някляеў.**

**В. Ш.**

## Беларускі "Іменнік"

**Кніга пад такой назвай з'явілася ў Гомелі. У выхадных дадзеных пазначана, што гэта даведачнае выданне, што выдавец яго — Гомельскі "Калегіум Сарматыкум". Наклад усяго 600 асобнікаў, а аўтар, складальнік і карэктар — Альгерд Чыж. У прадмове выдання канстатуецца вяртанне незалежнасці Беларусі, пачынаючы з вяртання імён беларусаў, узгадваецца, што беларуская антрапанімічная сістэма фармавалася ўжо напрыканцы XVIII стагоддзя, адзначаюцца яе асаблівасці, падаюцца унікальныя звесткі па гісторыі ўтварэння і існавання беларускіх імёнаў. Месціцца ў кнізе спіс выкарыстаных крыніц і абгрунтоўваецца патрэба ў стварэнні дадзенага "Іменніка".**

**На думку складальніка, галоўнай задачай было сабраць тыя імёны, што тычацца гісторыі ці культуры Беларусі і могуць выкарыстоўвацца сучаснай грамадою. У прыватнасці, як выбар імя дзіцяці. Таму па-за ўвагай засталіся непрывабнагучныя імёны, не ўключаны ў "Іменнік" таксама імёны, сёння шырокавядомыя. Іх паходжанне досыць тлумачыцца ў іншых выданнях.**

**Беларускі "Іменнік" утрымлівае 355 мужчынскіх і 188 жаночых імёнаў з тлумачэннем іх этымалогіі і апісаннем варыянтаў. Пазначаны ў кнізе і выбітныя асобы Беларусі, якія гэтыя імёны насілі.**

**Выданне, без сумневу, можа стаць карысным падарункам для беларусаў і тых, хто імі цікавіцца.**

**Андрэй МЕЛЬНІКАЎ**

ВІНШУЕМ!

# Талент абавязвае

## Таццяне ШАМЯКІНАЙ — 50



Якія якасці неабходны крытыку? Пытанне, здавалася б, больш чым рытарычнае. Канечне ж, патрабавальнасць, аб'ектыўнасць, добразычлівасць, нягледзячы на тое, высокамастацкі твор ці слабы, падабаецца табе ці твая душа яго проста не прымае. Як быццам, гэтага і дастаткова, каб станавіцца суровым суддзёй іншых. Але дастаткова, калі зыходзіць з нашых сённяшніх рэалій, бо ёсць яшчэ адна немалаважная, а мо і галоўная, якасць, без якой крытык не можа быць сапраўдным крытыкам. А гэта нішто іншае, як любоў да літаратуры. І не трэба ўсміхацца, пачуўшы падобнае сцвярджэнне. Не трэба, бо акурат такой якасці многім нашым крытыкам і не стае. Канечне, яны больш-менш рэгулярна сочаць за літаратурным працэсам, адгукаюцца і на асобныя творы, не кажучы пра кнігі, але робіцца гэта так, што адразу адчуваецца — не ляжыць душа да таго, пра што піша аўтар. І не важна, хваліць ён твор ці крытыкуе.

А вось у Таццяны Шамякінай, як у нямногіх, любоў да літаратуры дамінуе. І, відаць, не ў апошнюю чаргу на гэтым сказалася выхаванне. Не кожнаму выпадае гадавацца ў сям'і, у якой пануе культ кнігі, літаратуры. І тым больш сям'і па-сапраўднаму ўсенародна любімага пісьменніка.

Любоў да літаратуры і прывяла Таццяну Іванаўну на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Скончыўшы яго ў 1971 годзе, яшчэ тры гады вучылася ў аспірантуры. Кандыдацкую дысертацыю "Асноўныя стылявыя кірункі сучаснай беларускай прозы" абараніла ў 1975 годзе, ужо працуючы выкладчыкам альма-матэр.

Аднак Т. Шамякіна не засталася толькі, калі можна так сказаць, "акадэмічным" навукоўцам: ёсць у нас такая катэгорыя, прытым немалая, кандыдатаў і дактароў філалагічных навук, якія ў друку выступаюць радка, а калі і робяць гэта, дык толькі для таго, каб мець неабходную колькасць публікацый. Яе ж рэцэнзіі пачалі змяшчацца падчас вучобы ў аспірантуры. Першая, дарэчы, была апублікавана на старонках "ЛіМа". У нумары за 21 ліпеня 1972 года Т. Шамякіна рэцэнзавала кнігу М. Гроднева "Заручыны". Праз некаторы час у тым жа "ЛіМе" з'явілася яе другая рэцэнзія. Гэтым разам аб'ектыўна разглядалася тэтралогія А. Васілевіч "Пачакай, затрымайся..."

А сапраўдную вядомасць Таццяне Іванаўне як крытыку, літаратуразнаўцу прынесла кніга "На лініі перасячэння", што выйшла ў 1981 годзе (між іншым, першая яе кніга). Сваіх вартасцяў яна не страціла і па сённяшні дзень. Кнігу склалі тры літаратурна-крытычныя артыкулы, па сутнасці міні-манаграфіі, героямі якіх з'яўляюцца такія слынныя майстры прозы, як Міхась Стральцоў, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў. Ужо гэта выклікала цікавасць да кнігі. Аднак навідавоку і іншае: глыбіня пранікнення ў сутнасць прозы кожнага з гэтых пісьменнікаў, уменне адчуць іх адметнасць і непаўторнасць, што выяўляецца ў яркай мастакоўскай індывідуальнасці кожнага, і разам з тым здолець паказаць, наколькі ўсе яны адносяцца да аднаго творчага пакалення — пакалення дзяцей вайны.

Аднак цяпер, на адлегласці часу, усё ж трэба вылучыць артыкул "Пафас жыццесцвярджэння", у якім гаворка ідзе пра набыткі І. Пташнікава. Па той прычыне, што Т. Шамякіна, гаворачы пра гэтага самабытнага пісьменніка, не толькі пацвердзіла высокія ацэнкі, дадзеныя яму В. Палтаран, В. Бечыкам, С. Андраюком, а й зазірнула яшчэ глыбей у сутнасць пташнікаўскай прозы. Нельга не заўважыць, што сама Т. Шамякіна творчасць І. Пташнікава любіць (якасць, пра якую ішла гаворка ў пачатку гэтага артыкула). Адсюль — заканамернае жаданне крытыка як мага больш сказаць і пра мову пісьменніка, і пра асаблівасці яго стылю, і пра адданасць сваёй "малой радзіме".

Разважаючы пра творчасць М. Стральцова, Т. Шамякіна прыводзіла вытрымку з яго кнігі "Загадка Багдановіча": "Мусіць, і "кліч продкаў", і талент, і воля маюць значэнне тады, калі іх прыводзіць у рух вялікая, пагрfounded... 

Галоўная на сённяшні дзень яна і ў творчасці самой Т. Шамякінай, якая, аналізуючы сучасную літаратуру, адначасова слухае і той час, у якім гэтая літаратура развіваецца. Аднак, слухаючы час, яна ўслухоўваецца і ў саму вечнасць. І не толькі ў пераносным сэнсе. У выдавецтве "Мастацкая літаратура" чакае сваёй чаргі рукапіс кнігі Т. Шамякінай "Знакі вечнасці", што мае падзагаловак "Беларуская міфалогія ў кантэксце сусветнай".

Нараджаўся гэты рукапіс з артыкулаў, якія пад рубрыкай "Знакі вечнасці" публікаваліся ў часопісе "Роднае слова" з шостага нумара 1994 года на працягу паўтара гадоў.

КНІГАРНЯ

# Шлях адзін — адраджэнне

"Цяжкі шлях да адраджэння" — так назвалі сваю кнігу, выпушчаную ў Брэсце выдавецтвам С. Лаўрова (пра выхад яе "ЛіМ" паведамляў у адным са сваіх нумароў), Станіслаў і Эдуард Дубянецкія. Бацька і сын. Дарэчы, абодва чытачу добра вядомы, у тым ліку і па лімаўскіх матэрыялах, напісаных як паасобку, так і разам. Станіслаў Фёдаравіч загадвае рэдакцыяй філасофіі, эканомікі і права выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, а Эдуард Станіслававіч працуе старшым навуковым супрацоўнікам аддзела беларусазнаўства Скарынаўскага цэнтра, выкладае ў Інстытуце сучасных ведаў, з'яўляецца намеснікам рэдактара інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня "Кантакты і дыялогі".

Змест кнігі склалі артыкулы, што перад гэтым публікаваліся ў "ЛіМе", а таксама ў "Настаўніцкай газеце", тых жа "Кантактах і дыялогах", часопісе "Адукацыя і выхаванне". А пра што разважаюць аўтары, што трывожыць іх, над чым задумваюцца яны, выразна відаць з назваў гэтых артыкулаў — "Свабода думкі ці насілле?", "Выйсці з нацыянальнага анабіёзу", "Нашчадкі Шавэна", "Сіндром беларусафобіі", "Цяжкі шлях да адраджэння", "Беларускі нацыянальны характар: спроба даследавання", "Нацыянальная самасвядомасць беларусаў у мінулым і сёння", "На мяжы дэнацыяналізацыі", "Ментальнасць грамадзян Беларусі ў сучасны перыяд".

Наўмысна не называем, хто з Дубянецкіх канкрэтна аўтар той ці іншай публікацыі, а які з артыкулаў імі напісаны сумесна. Не называем па той простай прычыне, што гэта не істотна, бо перад намі цэласная кніга. Кніга двух аўтараў, якія па сутнасці развіваюць аднолькава, мысляць у адным рэчышчы, бо абодва нястомна працуюць на ніве нацыянальнага Адраджэння і для абодвух гэтая справа стала справай жыцця. І абодва выносяць свае развагі на чытацкі суд з адной думкаю, пра што нагадваюць у невялікім уступе "З верай у будучыню": "Верыцца, што Беларусь зможа пераадолець наступствы рэвалюцыйнага і духоўнага Чарнобыля і з годнасцю ўвайсці ў сям'ю еўрапейскіх народаў, агульначалавечую супольнасць".

Аўтары менш за ўсё схільныя для абагульнення добра вядомага. Як правіла, для абгрунтавання свайго разумення складанага шляху, якім здаўна ідзе Беларусь і ўхабы на якім мусіць пераадольваць сёння, яны выкарыстоўваюць звесткі, факты, лічбы малавядомыя, а калі і вядомыя, дык толькі спецыялістам-навукоўцам. А гэта дазваляе чытачу атрымаць карціну таго, як беларусы жылі, як жывуць сёння і як павінны жыць, каб застацца народам, нацыяй.

У якасці эпіграфа да зборніка ўзяты радкі Янкі Купалы:

*Хай Беларусь, мая старонка,*
*Уваскрэсне к вольнаму жыццю!*

А каб уваскрэснуць, найперш трэба выразна зразумець, усвядоміць, хто мы на гэтай зямлі і адкуль мы. У сувязі з гэтым канцэптуальны характар набывае артыкул "Беларускі нацыянальны характар, спроба даследавання", апублікаваны ў свой час на старонках часопіса "Адукацыя і выхаванне" (1995, N5), да якога цесна прымыкае наступны — "Нацыянальная самасвядомасць беларусаў у мінулым і сёння", змешчаны ў той жа "Адукацыі і выхаванні" (1996, N 3).

У першым падаецца абагульнены партрэт беларуса: "Фарміраванне асноў беларускага характару", "Станоўчыя рысы беларускай душы", "Адмоўныя якасці характару беларусаў". Кожны з падраздзелаў дае падставы для больш дэталёвага даследавання згаданых праблем. Але і сказанага досыць, каб атрымаць уяўленне аб беларусах як народзе, нацыі. І, як падагульненне, падаецца выснова: "....дасягнуць светлых ідэалаў новага Адраджэння можна толькі ў тым выпадку, калі будуць уважліва аналізавацца, улічвацца і выкарыстоўвацца ў практычнай дзейнасці найлепшыя станоўчыя рысы і адначасова пераадольвацца "адмоўныя" бакі беларускага нацыянальнага характару".

Для гэтага, як вядома, павінны існаваць спрыяльныя ўмовы. Аднак ці ёсць яны на

# Паэзія, філасофія, Беларусь...

У серыі "Бібліятэка "Фрагментаў", заснаванай Цэнтрам еўрапейскага супрацоўніцтва "ЕўраФорум", выйшла ўжо некалькі кніжак, якія выклікаюць цікавасць у аматараў прыгожага пісьменства і філасофскай думкі.

Адзін з аўтараў "бібліятэкі" Валянцін Акудовіч вядомы як філосаф-культуролаг і літаратурны крытык з арыгінальным, парадаксальным мысленнем. Зборнік яго артыкулаў і эсэ мае назоў, сугучны з іміджам "беларускага апостала постмадэрнізму": "Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека". У зборнік уключаны такія артыкулы (хаця вызначэнне формы тут можа быць толькі ўмоўным), якія ў свой час пасля надрукавання ў перыядычным друку выклікалі бурныя спрэчкі: "Архіпелаг Беларусь", "Дыялогі з богам", "Горад, якога няма" і іншыя. У раздзеле "Апошнія людзі" прадстаўлены эсэ пра найцікавых мысліцеляў апошняга стагоддзя, да ўсяго ў кантэкст сусветных імён уведзены імёны найноўшай беларускай літаратуры. Ставіцца да светапогляду В.Акудовіча можна па-рознаму, вельмі многае ў кнізе выклікае, мякка кажучы, сумніў, але, напэўна, аўтар і сам не разлічвае, што кожны чытач стане яго апалагетам. Ды, безумоўна, бліскучае валоданне словам і выбітная інтэлектуальнасць аўтара паспрыяюць таму, што кожны з тых, каго вабяць новыя веды, захоча ці пагадзіцца, ці паспрачацца з ім, а значыць, В. Акудовіч выканаў сваю місію філосафа — абуджаць уласнай думкай думкі іншых.

У зборнік Сяргея Дубаўца "Дзённік прыватнага чалавека" ўвайшлі апавяданні, імпрэсіі, эсэ, напісаныя на працягу 1989—1998 гадоў. С.Дубавец вядомы як літаратар, крытык, грамадскі дзеяч. Менавіта ён узначальвае адноўленую "Нашу ніву". Стыль С. Дубаўца-празаіка, эсэіста, крытыка цяжка зблытаць з чыімсьці іншым. Неаднойчы так было, калі невялікая публікацыя пісьменніка з віртуозна сфармуляванай, здавалася б, усім вядомай праблемай рабілася штуршком да бурных дыскусій, стымулявала літаратурнае жыццё. Думаецца, "Дзённік прыватнага чалавека" не павінен пакінуць раўнадушным беларускага чытача, незалежна ад таго, з'яўляецца ён прыхільнікам ідэй, якія прапаведуе аўтар "Дзённіка", ці не.

Свой першы зборнік малады паэт Міхась Баярын назваў "Шалёны вертаградар", і, відаць, як алюзію на прысвячэнне Максімам Багдановічам "Вянка" Сяргею Палуяну, зазначыў, што "Шалёны вертаградар" — "вянок на магілу Еэзфа Кнэхта". А можа, аўтар і не жадаў такой алюзіі, бо іх і без таго багата ў вершах. Уласна кажучы, сама паэзія кнігі можа ўмоўна называцца алюзійнай. Але гаварыць пра паэзію ў некалькіх фразах не

## "Беларусь", N 9

Сугучны нашым цяперашнім рэаліям артыкул А. Гібка-Гібкоўскага "Трывожны месяц верасень": "Каб мы маглі наш сённяшні гарачы імпэт скіраваць найперш на стварэнне, а не на самавынішчэнне, то тады можна было б гаварыць пра нейкія перспектывы нацыі. Але беларусам пакуль па розных прычынах цяжка аб'яднацца і вызначыць адзіную мэту. Прычым як афіцыйную, так і для апазіцыі. Апазіцыя, якая безумоўна ёсць (ды і павінна быць!) у грамадстве і якая, як бы ні хацелася некаму, не абмяжоўваецца "кучкай крыкуноў". Апазіцыя, думку якой любая ўлада проста абавязана ўлічваць... Як жа нам неабходна сёння тая агульная мэта — рэальная, пазбаўленая таннага прапагандысцкага ажыятажу! А пакуль што кожны з надыходзячых новых месяцаў года прыносіць нам новыя праблемы. У тым ліку і трывожны, але такі прыгожы і плённы заўсёды месяц верасень..." Па-свойму працяг гэтай тэмы — і ў выступленні М. Жэбрака (у 1993—1997 гадах ён працаваў пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры статутных і іншых органах СНД) "Бомба" пад Прэзідэнта", што мае падзагаловак "Дзеля дасягнення палітычнай згоды ў грамадстве неабходна ўсяляк умацоўваць згоду нацыянальную", а таксама ў падборцы матэрыялаў "Нацыянальная эліта і дзяржаўная ўлада".

А. Кароль ("Крок першы, крок апошні") разважае ў сувязі са 100-годдзем I з'езда РСДРП. У нумары — вершы С. Грахоўскага, апавяданне "Маці" Я. Скрыгана, рэцэнзія "Я. С." на кнігу Л. Лыча "Назвы зямлі беларускай", інтэрв'ю А. Лысаконя з міжнародным гросмайстрам па шахматах В. Купрэйчыкам ("Забіяка"), згадка пра Я. Пясецкага ("І фотамайстра, і паэт..."), уражанні аб Беларусі лідэра таварыства дружбы Паўночны Трандэлаг (Нарвегія) — Мінск (Беларусь) С.-Дж. Валстадсве ("Беларусь — у маім сэрцы..."), расказ А. Ціхвінава пра мастака А. Шастакова ("Прыгажосць — сінонім простасці"), маналог мастака Ю. Рудэнкі ("Прызы і сюрпрызы"), аповед У. Мархеля пра вяртанне творчай спадчыны Я. Чачота ("Сялянскія песенькі", аздобленыя нотамі, вярнуліся да свайго першаадкрывальніка"), гутарка Я. Сіпакова з аўтарам беларускага "Буквара" А. Клышкам ("З чаго пачынаецца школа...") і іншыя матэрыялы.

## "Нёман", N 8

Адкрывае нумар аповесць У. Паўлава "Пад схіленым дрэвам". Змешчаны падборкі вершаў Н. Мацяш, У. Арлова, Л. Галубовіча, Б. Спынчана, заканчэнне рамана В. Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў", "Калымскія былі" Ф. Шкірманкова, дакументальны аповед У. Гніламёдава, што мае падзагаловак "З сямейнай хронікі" — "У Амерыцы, на ферме". А. Ждан гутарыць з доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, намеснікам дырэктара Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі Я. Кенігзбергам ("Адзін на адзін з бядой") і з доктарам медыцынскіх навук, прафесарам В. Зубовічам ("Радыенукліды ў крыві дзяцей"). Матэрыялы аб'яднаны назвай "Пакуль зямля стане чыстай" і прапануюцца ў раздзеле "Публіцыстыка". Аб праблемах аўтарскага перакладу разважае ў артыкуле "Непадобныя двайнюкі" Н. Дзянісава. "Космас чалавечай душы" — так гаворыць Г. Ануфрыеў пра творчасць мастака Ю. Кур'яновіча, з рэпрадукцыямі работ якога можна пазнаёміцца на другой і трэцяй старонках вокладкі.

## "Рыцар свабоды"

Пад такою назваю з'явілася новае выданне ў Баранавічах. Пакуль што гэта толькі бюлетэнь культурна-асветніцкага накірунку на васьмі старонках накладам у 299 асобнікаў.

Чытачы выдання змогуць даведацца, навошта і каму сёння спатрэбіўся ў Баранавічах Звяз беларускіх рыцараў. Дзякуючы А. Бакачу і У. Гундару пазнаёмяцца з учарашнім і сённяшнім днём уніяцкай царквы на Беларусі і ў горадзе, з жыццёвым і творчым лёсам руплііўца беларушчыны, нашага земляка і сучасніка Міхася Берната. У нумары ёсць гарадскія музычныя і спартыўныя навіны, загадкі і крыжаванка, а таксама — міні-віктарына і жарты нашых продкаў.

Рэдагуе і выдае бюлетэнь Уладзімір Гундар.

Ян САВІЦКІ

ПАЭЗІЯ

Міра ЛУКША



# "Калі вяртаемся ў вобраз..."

●

*сівы чалавек у гарнцу*
*нёс агмень у мой дом*
*пастаўлены на скрыжаванні дарог*
*вятроў*

*адзін вецер дзьме і агонь гасне*
*другі — акрыляе полымя*
*і яно з яго дыхам расце ў пажар*
*а ён прагна корміцца тым*
*што ў мяне варушыцца ў грудзях*
*і я ў полымі ўзлятаю над домам*

*дом быў — я бачу —*
*з дошчак*
*рупліва адна да адной*
*пазбіраных складзеных*
*але на дарогах вятроў*
*якія ведае толькі Бог*

●

*Ці трэба слоў салому*
*церушыць на ахвярны касцёр?*
*Матылькі агню шугаюць*
*ў іскрыстае зоркамі неба,*
*чорнае, як дно акіяна;*
*ён гнецца і вагаецца,*
*з марай пераліцца цераз край*
*паветра, і хваля за хваляй*
*роўна зліцца з нязмераным,*
*мнагалікі ў кроплях;*
*кладуцца на чыстую хвалю.*
*Ссыпаемся ў існасць*
*былога разам.*
*У россыпе хваль і хвіль*
*знаходжу сябе зоркай,*
*каменьчыкам,*
*смакам жыцця жыхара ракавінкі,*
*самотай гары і пясчынкі,*
*якімі ты ёсць і будзеш.*

●

*Ломяцца мае рукі.*
*Ці то цяжар завялікі,*
*як на жанчыну?*
*Я, здаецца,*
*хлопчыкам нарадзілася,*
*а вырасла, бач, якая.*
*Добра быць*
*жанчынай —*
*цікава. Пакутна.*
*Проста і звычайна.*
*А той хлопчык,*
*што ўва мне*
*не ўмёр,*
*усё на ручкі хоча.*
*А рукі ломяцца.*

●

*Ноч закалыхвае нас,*
*наймілейшых ёй*
*сёння, заўтра.*
*І Месяц спрыяе*
*нам сёння.*
*Пан Твардоўскі*
*з яго ўсміхаецца.*

*Калі памру,*
*папросіш,*
*каб прывёў мяне*
*ён на хвіліну назад —*
*разам яшчэ раз пасмяёмся*
*з выпадковасці*
*выпадкаў*
*у падкаваных коней,*
*якія губяць падковы*
*на шчасце*
*невыпадковае.*

*Ці я конікам была*
*калісьці*
*ў сне, ці наяве.*
*І ўсе падковы*
*аддала*
*жанчынам*
*з чорнымі вачыма*

*і пабегла*
*басанож*
*па сваё шчасце,*
*а яго ўжо былі разабралі*
*на мурагах*
*у трыдзевятым царстве.*

●

*я зайздросная за Месяц*
*які глядзіць табе ў вочы*
*а ты песціш яго жоўты бок*
*і асацыюеш смак яго вуснаў з мёдам*

*і за фіранку-зайздростку*
*я раўную:*
*датыкаецца нахабніца*
*тых таямнічых месцаў*
*якія належаць толькі мне*

*і якім правам*
*яны забіраюць цябе*
*калі я ёсць месяц і мёд*
*заслона і адкрытасць*
*у дрогкі космас*

### Вобраз

*іголкай ільду рысуецца вобраз прасторы*
*крохкай хвіліннасці і вечнага паўтарэння*
*дасканаласці крышталю і невыпадковасці*
*рысы*

*не няма выпадковых сустрэч*
*няма трэшчын у часе і хібаў*

*расколваем першым крыкам паветра*
*і шчыліна зачыняецца за намі*

*як маланка*

*калі вяртаемся ў вобраз*
*нарысаваны іголкай у Майстравай далані*

●

*Следам ідзе, што ў прасторы*
*пракладзены і цёплы яшчэ ён; звініць*
*падкаваны бот, суха шоргае па пяску*
*даўно перасыпаным босы ступак,*
*слова і цень ягоны ў матэрыю*
*і з матэрыі перакінутае, з гуку і*
*з прыску ў зерне, з якога хлеб*
*кладзецца на язык лустай, прычасцем*
*і выбухам смаку, сямізвонам думкі —*

*Следам ідзе мой след*
*па намагнічанай лініі,*
*па струне святла і шчылінай мораку*
*перабягае тое што наперадзе.*

### Няміга

Сяргею КІРУШЧАНКУ

*Ці да Айчыны дакрануся,*
*Калі з гарачым сэрцам еду,*
*Бягу навыперадкі з лёсам,*
*Цераз стагоддзі гублю вочы,*
*Пасланцаў высылаю ранкам зведаць*
*З крыніцы мне якой напіцца,*
*Дзе акунуцца з галавою,*
*Душу дзе з ветрам ў перагонкі*
*Рыссю пусціць, а дзе сабрацца*
*З сябрамі ля кастра пад колам...*

*Было мне добра. Ветрам гнаная,*
*Адчула пад стапой Нямігу.*
*Ліхтар глядзеў мне ў вочы ясна,*
*Метал машыны енкнуў з болю.*
*Пляму крыві ці ржу стагоддзяў*
*З вуснаў сухіх я смакавала.*
*Сяргей Іванавіч русінскі,*
*Белагаловае дзіцятка,*
*Ў магутным целе нёс ахвяру:*
*Зямлі счарнелай кроплю фарбы —*
*Спатолю, радасць і змаганне.*
*І кроплі падалі ў разоры,*
*Ў зморшчыны памяці і твараў,*
*У трэшчыны і жылы тратуару,*
*Сплывалі ціха па званіцах*
*І гучна стукаліся ў Свіслач.*
*А я стаяла на Нямізе,*
*Урослая ў камень. Рукі — лісце.*
*Вочы пялёсткі агню.*

*З кіёчкам падышоў Драздовіч,*
*І з яго вуснаў шпак заціўкаў:*
*Ці да Айчыны дакрануся,*
*Дзе акунуся... Дзе ўтаплюся...*
*— Як нам тут вызваліць Нямігу,*
*Што волавам пячэ нам знізу?*
*— Нам трэба вызваліць Нямігу.*
*Сама ж не вырвецца на волю.*
*Словам не вырвацца з-пад бруду,*
*Каменных ідалаў гісторыі.*

*Стукаў Язэп у мур кіёчкам.*
*Здзёр да крыві Сяргей далоні.*
*А я нямела... і нямела...*
*Бо слоў не мела... І не чула...*

*(І стукае мне ў сэрца попел*
*З кіёчка, што спалілі ўнукі).*

*На сэрцы попел. Пасыпаю*
*Я галаву і плечы. Каюся.*
*Усіх грахі бяру. Ліхтар*
*Трапечацца ў імгле. Стаіць*
*Язэп з бяздомнымі вачыма.*
*У святле вясёлка пылу ўецца.*
*Сяргей ідзе спаць у майстэрню,*
*Вялікі sclavus, ён стаміўся.*

*Дрыжу. Ссыпаюся ў ваду*
*Тым попелам, і іскрамі, і болем*
*Праз мур, пясок, іржу і гліну.*

ПРОЗА

### 1. Адзінарог

Перасыпаю хвіліны з далані на даланю. Яны блішчаць і пяшчотна шаргочуць, быццам перліны. У паўпразрыстым цэнтры кожнай — вострая зрэнка вечнасці. Можа быць, гэта сапраўды проста перліны.

Сёння зноў перад замкам праязджалі *гэтыя*. Нешта крычалі, ці то клікалі з сабою, ці то пагражалі. Страусавыя пёры ківаліся на іх капелюшах бела-ружовымі аблачынкамі, а на скураных пальчатках здалёк паблісквалі жалезныя заклёпкі. Я ніколі не звяртаю ўвагі на тых, хто праязджае паўз замак. Гэта непрыстойна.

Хвіліны ссыпаюцца на аксаміт зусім бязгучна. Але часам яны саслізгваюць з маіх каленяў і б'юць па каменных плітах падлогі звонкім дажджом. Я не люблю дождж. Калі пад маім вакном згасаюць апошнія кветкі шыпшыны, дождж пачынае ісці кожны дзень. Праз яго шэры вэлюм праглядаюцца толькі цёмныя абрысы дрэў. Яны роспачна ломяць голле ў лахманах парадзелага лісця, і хістаюцца, і ківаюцца ў вечным маленні жывога аб жыцці. Шыпшына яшчэ не адцвіла.

— Пані, у вашым лесе з'явіўся белы адзінарог.

Чалавек нізка схіліўся перада мной, і я не бачу ягонага твару. Можа, ён і ўсміхаецца — гэтак з'едліва, куточкамі вуснаў, як умеюць усміхацца толькі верныя слугі.

— Ніхто пакуль яго не спалохаў?

— Не, пані. Яго бачылі толькі здаля, ля старой віхлы, па дарозе да возера. Але гэта дакладна адзінарог. Белы, вельмі прыгожы звер.

— Загадай сядлаць майго каня...

— Слухаюся, пані... — і зноў я не паспяваю злавіць выразу яго твару. Чамусьці я больш уяўляю, якія выразы твараў павінны быць у тых, хто побач са мной, чым сапраўды бачу гэта. Асабліва не люблю зазіраць у чужыя вочы. Мне здаецца, што тыя пляскатыя пачуцці і думкі, якія я там магу прачытаць, пяройдуць да мяне і прыліпнуць да маёй кволай душы, так што забудуся, якая я — на самай справе, дзе — маё адчуванне, а дзе — чужое.

Падымаюся з фатэля, і перліны ссыпаюцца з маіх каленяў на камень. Адна з іх коціцца доўга-доўга, я чую яе, аж пакуль не выходжу з залы.

Адзінарог сапраўды ля старой віхлы. Ён белы, як туман. Нагадвае невялікага каня з недарэчна кароткімі нагамі. Вочы ў яго вялізныя, чорныя і вільготныя, а рог над імі выглядае зусім не пагрозна. На яго наліплі травінкі.

Я гладжу адзінарога па схіленай шыі, і ён пакорліва ківае галавой. Дрэвы паціху шумяць, поўныя жыцця і лістоты.

— Ідзі адсюль, — ціха кажу я адзінарогу. — Я не магу ўзяць цябе ў свой замак. Разумееш, там — людзі. Ім уласціва глядзець міма вачэй і ўпотай пасміхацца. І тут ты не можаш застацца. Сюды рана ці позна прыедуць *тыя*. І я не абараню цябе. Я нават не заўважу, калі яны цябе пакрыўдзяць. Гэта было б непрыстойна, прабач.

Адзінарог нібыта разумее мяне, ён няўклюдна паварочваецца і бяжыць у гушчар, і я заўважаю, што на дрэвах ужо ёсць першае ссохлае лісце — адзінарог абтрасае яго з галінаў...

Мае перліны, сабраныя нечымі руплівымі рукамі, ляжаць у адчыненым куфэрку. Я не буду пералічваць, ці ўсе яны на месцы.

— Пані бачыла адзінарога?

Цяпер я, здаецца, паспяваю злавіць выраз яго твару. Чамусьці дакорлівы.

— Пані пакінула яго ў лесе?

Хіба я павінна апраўдвацца перад кімсьці? Ён разумее, што я абураная, і з нізкім паклонам выходзіць. Але я ніколі не выкажу свайго абурэння. Гэта непрыстойна.

Паўз замак зноў праязджалі *гэтыя*. Я сядзела перад акном, хвіліны з сухім шоргатам перасыпаліся з далані на даланю і былі халодныя, як кавалачкі лёду. *Гэтыя* праехалі асабліва блізка, ледзь не зачапілі кусты шыпшыны, з рогатам махалі мне і клікалі некуды — ці проста пасміхаліся. Конь першага з іх быў пакрыты белай, як туман, скурай.

А шыпшына амаль адцвіла... Трэба сказаць, каб з каморы прынеслі зялёны кілім. Калі перліны падаюць на яго, іх вельмі цяжка адшукваць у бухматай поўсці, прапахлай стогадовым пылам. Затое не чуваць, як разбіваецца мой час аб халодны камень.

### 2. Вядзьмарка

Сёння забаўлялася са срэбнай сальнічкай працы Бенвенута Чэліні. Цудоўная рэч у выглядзе ракавінкі, якую абшчаперыў маленькі хлопчык. Ракавінка

# ДЫЯРЫУШ ПАНІ

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



прыкрашаная буйнымі перлінамі, быццам пырскамі марской вады. Калі націснуць на сярэднюю перліну, створкі ракавіны прыадчыняюць хвалістыя краі — ледзь-ледзь, каб між вытанчанымі зубчыкамі маглі прасыпацца крупінкі солі. Калі ж націснуць на перліну тры разы запар, ракавінка адчыняецца ўся, і можна насыпаць туды соль. Але ніхто за апошнія сто гадоў не насыпаў солі ў гэтую прыгожанькую забаўку — яе проста прыемна трымаць у руках, глядзець на яе. Шалёны Бенвенута заўсёды пераўзыходзіў сам сябе, калі рабіў такія рэчы — у падарунак асобам, якіх моцна пакрыўдзіў. За кожным яго грэхам ці прамым злачынствам узнікаў ювелірны шэдэўр, якім майстар адкупляўся ад справядлівага гневу і духоўных, і свецкіх уладаў, і прыватных асоб. Я часта думаю, які менавіта грэх спарадзіў гэтую сальнічку — яе першай уладальніцай была жанчына. Наўрад ці гэта быў грэх кахання — іначай сальнічкай валодалі б нашчадкі тае італьянскай арыстакраткі, а не я.

— Пані, на ваш літасцівы суд прывялі вядзьмарку.

І зноў я не паспяваю злавіць выраз твару чалавека, які звяртаецца да мяне. Бачу толькі нізка схіленую спіну.

Вядзьмарку прывезлі *гэтыя*. Яны не насмеліліся зайсці ў замак, але я чую іхнія непрыстойна вясёлыя галасы і смех пад сваім вакном. Нехта з іх пачынае нават насвістваць нейкую валацужную песеньку. Гэта занадта! Пастараюся разабрацца са справаю найхутчэй.

Вядзьмарка стаіць сярод залы на маім зялёным кіліме. Яе босыя ногі па шчыкалаць патанаюць у ваўнянай пыльнай траве. Вядзьмарка адразу падалася мне падлеткам. Але я прыгледзелася і зразумела, што памылілася. Гэта дарослая жанчына прыблізна маіх гадоў, толькі невысокая і худая. Яна глядзела на мяне спадылба вузкімі зялёнымі вачыма. Я зразумела, што яе пагляд скіраваны на мае пальцы, якія націскаюць на перліны срэбнай сальнічкі, то адчыняючы, то зачыняючы яе ракавінку. Мне зрабілася непрыемна, я паставіла забаўку на столік і строга сашчапіла рукі на каленях. Увесь гэты час нехта ледзь не плачучым голасам расказваў пра злачынствы маленькай жанчыны, што стаяла перада мной. Не памятаю дакладна, здаецца, мясцовыя сяляне вінавацілі яе ў тым, што яна ўмела лётаць, выклікала вецер і дождж і выпівала чужое жыццё. Раптам я ўсвядоміла, што вядзьмарка настойліва зазірае мне ў вочы. Мяне перасмыкнула, быццам давялося пераступіць цераз жабу. Я моўчкі глядзела на свае сашчэпленыя рукі і старалася думаць пра тое, якія ў мяне прыгожыя тонкія пальцы, як неверагодна пяшчотна прасвечваюць скрозь бледную скуру блакітныя жылкі. Я сціснула пальцы трохі мацней, і жылкі набухлі, выступілі над паверхняй скуры. Не, здаецца, гэтак непрыстойна...

Я падымаю правую руку ўверх, затым рэзка апускаю яе, нібыта хачу забіць нешта дробнае. Плаксівы голас змаўкае, вядзьмарку выводзяць з залы. Кілім паглынае гукі крокаў.

Цікава, у мяне таксама вузкія зялёныя вочы. Я бяру са століка сальнічку і спрабую ў бліскучай срэбнай паверхні разгледзець свой адбітак. Сустракаю позірк вядзьмаркі і зноў стаўлю сальнічку на столік. Пад вакном загалёкалі *тыя*. Хутка тупат іх коней змоўк. Вядзьмарку яны, канешне, забралі з сабой. Але што яны з ёй могуць зрабіць, вясёлыя, злыя, бездапаможныя, і што яна захоча зрабіць з імі, тая, што выпівае жыцці?

У зале нікога няма, і я яшчэ раз паўтараю свой велічны жэст: рука — уверх і рэзка ўніз, як быццам у гэтым руху ёсць нейкі сэнс і непазбежнасць.

Хто ведае, можа, і ёсць.

— Можа, Пані жадае запаліць у зале свечкі?

Сапраўды, ужо сцямнела. На століку з'яўляецца падсвечнік з чатырма жоўтымі свечкамі. Яны разганяюць куточак цемры вакол мяне. Павольна падношу далонь да аранжавага з сінім пасачкам унутры агеньчыка. Балюча. Але я не адразу прымаю руку. Цяпер на ёй доўга застанецца пацалунак агню.

За вакном таксама цёмна, але недзе далёка з боку вёскі бачыцца цьмянае святло, нібыта запалілі вялізную свечку.

У кожнай перліне сальнічкі гарыць маленькі жоўты агеньчык і хаваецца пагляд вузкага зялёнага вока. Бадай што, я насыплю ў гэтую штуковіну солі.

## 3. Баль

Калі маё вакно завешваюць шэрым вэлюмам дажджы, я ведаю, што хутка адбудзецца баль. Кожны год, у адзін і той жа дзень, заўсёды сумны і дажджлівы. У вялікую залу ўносяцца пазалочаныя кандэлябры, каб святло разлівалася ў кожным куце. Мяне апранаюць у сукенку з такой шчыльнай, пругкай тканіны, што, калі я саджуся, тканіна згінаецца з лёгкім трэскам, нібыта ламаецца. Затое трымаешся ў такім арадзе незвычайна прама і годна. Гэта кампенсуе некаторыя нязручнасці.

Госці кожны год таксама адны і тыя ж. Іх няшмат, але ніхто ні разу не прапусціў дзень балю. Да таго ж, далучаць да свайго кола новых людзей непрыстойна.

Абавязкова прыедзе Мадам. Мне не вельмі падабаецца яе манера звяртацца да мяне, як да маленькай дзяўчынкі. Яна лічыць, што можа даваць мне парады, і робіць гэта з задавальненнем. На жаль, я не магу перапыняць яе і вымушана адказваць: "Так, Мадам... Дзякую за клопат, Мадам". Хаця калі б я мела такія тоўстыя пальцы з кароткімі тупымі пазногцямі, пукатыя травяністыя вочы і заўсёды безгустоўна падабранае яркае адзенне, я б сядзела ціхенька і слухала іншых. Але Мадам ніколі нікога не слухае. Нават Доктара. Зразумела, ён не просты кровапушчальнік. Іначай ніколі не трапіў бы ў наша кола. Ён нават з выгляду высакародны і вытанчаны. Яго вусны строга падціснутыя, а пагляд балотнага колеру вачэй востры, як ланцэт. Доктар гаворыць рэдка, але кожнае яго слова — як удар залатога дынарыя аб каменны стол. Я не заўсёды разумею яго словы, але хутчэй памру, чым прызнаюся ў гэтым. Калі Доктар гаворыць, ён ніколі ні на кога не глядзіць, нібыта лічыць роўным сабе суразмоўцам толькі сябе самога. Але мне здаецца, што ён звяртаецца менавіта да мяне, што ўва мне ён угледзеў востры нежаноцкі розум, і мне калісьці перадасць асновы сваёй таемнай навукі. У што апрануты Доктар, я нават не магу ўспомніць. Ён заўсёды ў нечым цёмным.

Зразумела, прыедзе і Кузіна. Яна сапраўдная дурніца. Шараговая прыгожанькая ідыётка з вялізнымі смарагдавымі вачыма і маленькім ружовым ротам. Кузіна мяне абагаўляе. Вось ужо ў чыёй любові не адчуваю патрэбы. Яна б вельмі хацела са мной паразмаўляць, вось толькі, небарака, не ведае, пра што. Лупіцца на мяне сваімі смарагдавымі вачыма, міла ўсміхаецца, часам вымаўляе птушыным галаском нейкія банальнасці. Яе асоба не цікавіць нікога, акрамя Блазна і Брэцёра. Гэта я прыдумала ім такія мянушкі. Блазан і Брэцёр — два браты. Блазан, нязграбны і кірпаносы, перапоўнены нейкай шчанюковай верай у добраўпарадкаванасць свету і богападобнасць яго насельнікаў. Ён страшэнна хоча быць усім карысным, усім падняць настрой, зазірае кожнаму ў вочы, без канца жартуе — вельмі тупа, дарэчы, — і, здаецца, ад замілавання круціць нябачным хвастом. Кузіне ён падабаецца, бо яго жарты ёй зразумелыя. Але хаця Блазан траціць найбольш свае досціпы перад Кузінаю, я ведаю, што яго ўвага скіравана ў іншы бок, і каб я хоць раз усміхнулася ў адказ на яго намаганні, ён, мабыць, памёр бы ад шчасця на месцы, як згублены сабака, якога нарэшце прылашчыла рука доўгашуканага гаспадара.

Брэцёр — поўная супрацьлегласць брату. Яго цёмна-зялёныя вочы заўсёды насмешна прыжмураны, чорныя валасы зачасаны назад гладка-гладка, ад гэтага твар набывае проста разбойніцкі выраз. Брэцёр падмячае кожнае недарэчна сказанае іншым слова, у адказ на любую фразу ў яго загатоўлена з'едлівая рэпліка. Найвялікшая насалода для Брэцёра — вывесці субяседніка з раўнавагі, выклікаць раптоўную нянавісць да свае персоны, і ў крытычны момант зрабіцца мілым нявінным прасцячком — а чаго вы раптам гэтак раззлаваліся, панства? Адзіныя, каго Брэцёр не здольны зачапіць, гэта Блазан — той проста не заўважае крыўднага, лічыць, што брат ласкава апякуецца ім, — і Кузіна. Нягледзячы на ўвесь знешні цынізм Брэцёра, нельга не заўважыць, што ён закаханы ў гэтую дурніцу, выбачайце за каламбур, як апошні дурань. Але яна, як і належыць асобе з яе разумовымі здольнасцямі, анічога не заўважае і баіцца Брэцёра, як звяглівай сабакі.

Яны з'едуцца ў адзін час, хвіліна ў хвіліну. Я нават ведаю, якія размовы будуць весціся за доўгім сталом. І ведаю, што нехта абавязкова скажа паўшэптам: "Панове, а ці чулі вы, што *гэтыя* зноў пад'язджаюць зусім блізка..."

Размова на хвілю сцішыцца, а пасля ўсе пачнуць усхвалявана расказваць, хто што пачуў апошнім часам пра *гэтых*. Такія размовы непрыемна хвалююць мяне. Гэта непрыстойна.

Раз'едуцца ўсе таксама ў адзін час, дождж паглыне цьмяныя сілуэты іх экіпажаў, у расчыненыя вокны ўварвецца восеньская раніца і выветрыць рэшткі няшчырых усмешак, гучных слоў і зласлівага шэпту. І раптам падасца, што нікога тут і не было.

Я не ведаю, для чаго кожны год учыняецца гэты баль. Не думаю, што камусьці ён прыносіць асалоду. На ім не гучыць музыка, не рыхтуюцца дзівосныя стравы. Па праўдзе кажучы, нават не памятаю, з чаго складаецца ўрачысты пачастунак. Бо калі ёсць стол, павінен быць і пачастунак. Але я ніколі нічога за гэтым сталом не ем.

Пасля балю з падсвечнікаў дастаюць недагарэлыя свечкі, старанна саскрабаюць воск з пазалочанай бронзы і падлогі і ўсё гэта зляпліваюць у вялікі васковы брудны шар, каб скарыстаць для нейкіх гаспадарчых патрэб.

Хутка будзе баль.

## 4. Пошасць

Увесь замак прапах гаркавым пахам зёлак. Іх паляць у маленькіх свяцільніках, жмутамі кідаюць у каміны, падвешваюць снапкамі пад столлю. Кабеты носяць на грудзях паркалёвыя мяшэчкі, набітыя тымі ж зёлкамі. Часам разам з зёлкамі ў мяшэчкі кладуцца свяшчэнныя рэліквіі — частачкі мошчаў якогась Божага Угодніка, трэсачкі ад Крыжа Гасподняга ці пёрка Святога Духу. Але я заўважаю, што адчай прымушае людзей шанаваць зусім іншыя прадметы, і нярэдка побач з кіпарысавым крыжам і мяшэчкам з зёлкамі на грудзях прыгожанькай маладзіцы можна пабачыць высушаную лапку жабы ці кажана, ці яшчэ нешта падазронае, цёмнае, зморшчанае, падобнае на сухі грыб.

Я, акрым святога крыжа, не надзяваю нічога, нават упрыгожванняў. Падчас пошасці гэта непрыстойна.

Звычайна пошасць прыходзіць летам, калі ад балотаў падымаюцца атрутныя выпарэнні, ці ўвосень, калі халодныя дажджы ператвараюць глебу ў суцэльную смярдзючую калатушу. Цяпер зіма. Людзі кажуць, вельмі кепска, калі пошасць прыходзіць гэткаю пароjudging. Значыць, яна такая моцная, што не баіцца самых лютых маразоў.

Напэўна, вельмі цяжка паміраць пад скавытанне завірухі, у задушлівай хаце, а потым нехта мусіць дзяўбсці каменную прамерзлую зямлю, каб схаваць у яе тваё адубянелае цела, і не станецца ў яго сілы на добрае слова аб няўчасным нябожчыку.

Праўда, падчас пошасці людзі вяртаюцца да паганскіх звычаяў, сцягваюць сваіх памерлых у кучу і спальваюць. Я бачу праз вакно далёкі дым ад гэтых пачварных вогнішчаў.

Я не баюся пошасці. Я добра ведаю яе. Яна не злосная, толькі вельмі галодная. Цяжка кагосьці вінаваціць за тое, што ён спатольвае свой голад. Чалавек, які растаптаў мурашнік, вінаваты нашмат больш. Калі б пошасць мела такую прагу разбурэння і неміласэрнасць, як чалавек, яна даўно знішчыла б апошняга прадстаўніка людскога роду.

Але пошасць заўсёды канчаецца. І апусцелыя мястэчкі і вёскі зноў напаўняюцца вясёлымі і звяглівымі галасамі.

Добра ўжо тое, што падчас пошасці ніколі не прыязджаюць *гэтыя*. Наўрад ці яны баяцца. Мусіць, ім проста робіцца тут сумна.

Час ад часу з боку вёскі далятае жалобны гук званоў. Ім адклікаецца ўрачыстым басам звон нашага замкавага храма. Ад яго голасу дробна дрыжаць крышталёвыя кубкі і звініць пакладзены на край талеркі нож.

Я кладу на сябе знак крыжа. Дзве кабеты, што стаяць за маёй спіной, пакуль я вячэраю, робяць тое самае. Пасля адна з іх падыходзіць да каміна і сыпле ў агонь прыгаршчы зёлак. З'едлівы пах расцякаецца па пакоі. Звон усё б'е, недзе падгалошвае яму звон на вясковай званіцы, і не чуваць ні людскога голасу, ні плачу.

Са стала прыбіраюць посуд, і я застаюся адна. У маіх пальцах — сухая кветка. Яна ўпала са снапка, падвешанага пад столлю. Напэўна, калісьці яе пялёсткі былі сінія. Зараз яны бледныя, як папера, толькі на самых кончыках захаваўся бляклы сіні колер. Кветка лёгкая і цвёрдая. Я сціскаю яе ў пальцах, але яна чамусьці не крышыцца. Толькі пераломваецца напалам тонкае сцябло. Я адчуваю, што пакалола пальцы, і кідаю кветку на падлогу. Мёртвае заўсёды варожае жывому. Нават калі гэта кветка. Няўжо людзі думаюць, што забітыя імі ж расліны будуць ратаваць сваіх забойцаў?

Званы сціхаюць. Чуваць спеў завірухі. Ён то ўздымаецца да непрыемнага скавытання, то амаль сціхае, быццам нехта ходзіць пад вокнамі замка і не наважваецца пастукаць. Але сцішылася. Снегавая мітульга асела на зямлю, і чорны аксаміт неба працялі вострыя зрэнкі зор. Гэта добра, што зоры глядзяць на зямлю. Няхай іхні пагляд халодны да болю, гэта ўсё-ткі вочы Анёлаў. І я ведаю, што хутка пошасць спатоліць свой голад і засне. На нейкі, не тут вызначаны, час. Загалёкаюць на лясных дарогах дзікія паляўнічыя, і з-пад капытоў іхніх коняў будуць уздымацца снежныя фантаны. Вандроўныя музыкі зноў будуць прасіцца ў замак — павесяліць пані і адагрэцца, ад'есціся пасля зімовай дарогі (на жаль, лепшыя з іх зімой не вандруюць — ім ахвотна даюць прытулак да вясны ў любым замку, з увагай на доўгую чараду цёмных вечароў, да якіх так пасуюць старажытныя балады).

Зёлкі дагараюць у каміне, іх колкія сцябліны курчацца і згінаюцца ў агні. Заўтра загадаю дастаць куфэрак з маімі ўлюбёнымі перлінамі.

## 5. Хрэсьбіны

Калі блізу дня маіх народзінаў у вёсцы нараджаецца дзяўчынка, мяне просяць быць хроснай маткаю. Я не павінна адмаўляцца. Такі звычай.

Хрышчэнне адбываецца ў замкавым храме. Я прыходжу туды ў белай сукенцы з вялікім карункавым каўняром, які падымаецца над маімі плячамі, падобна накрухмаленым крылам. Мне даюць трымаць невялікі паркалёвы скрутак, у якім можна разгледзець толькі маленечкае чырвонае падабенства чалавечага твару. Я трымаю на руках чалавечае дзіця і, як магу, зычу яму ў думках шчасця,

(Працяг на стар. 12)

## Справаздача мастака



**21 верасня 1998 года ў галерэі "Мастацтва" адкрылася выстава вядомага беларускага мастака Віктара Альшэўскага, якому споўнілася 45 гадоў. Гаворыць, што ў мужчын у гэтым узросце — гэта ўзлёт усяго: творчасці, любові, натхнення. Усё гэта ў мастака ўжо ёсць, — яго ведаюць як высокапрафесійнага творцу ў Беларусі, Галандыі, Германіі, Турцыі, Польшчы, Канадзе, ЗША, Іспаніі, Францыі і іншых краінах свету. Другі раз у гэтай галерэі выстаўляе ён свае творы. Першая выстава прайшла з поспехам у 1997 годзе. Гэтым разам выстаўлены карціны, напісаныя ў апошні час, і глядач яшчэ іх не бачыў. Як і папярэднія, яны прымушаюць пастаяць, падумаць, асэнсоўваючы, прачытваючы іх па-свойму. Бо мастака цікавяць не толькі пластычныя камбінацыі, сюжэтныя матывы, але і тэхніка жывапісу. Часам ён запазычвае вобразы і ідэі папярэдніх эпох, але — у асабістай інтэрпрэтацыі. На палотнах В. Альшэўскага — ненатуральныя сітуацыі і бязладная спалучэнні прадметаў, якія ў карціне знаходзяць уяўную рэальнасць і даставернасць. Палотны — розныя па стылях, ад рэалістычных да сюррэалістычных. Мастак поўны сіл, энергіі, як адзначыў акадэмік Акадэміі выяўленчага мастацтва Ф. Янушкевіч — у форме баявой. Творы яго напоўнены любоўю да сваёй зямлі, Бацькаўшчыны, яны, выпраменьваюць святло любові і цеплыні.**

**Выстава праходзіць у год 60-годдзя Саюза мастакоў Беларусі і як бы лічыцца справаздачай мастака.**

**Галія ФАТЫХАВА**

*На здымку: В. Альшэўскі з дачушкай у час адкрыцця выставы.*

*Фота А. ДРЫБАСА*

## "Ночной гонец" — беларускія сюжэты

**Серыю кніг "Ночной гонец" распачало выдавецтва "Лекцыя". Адметнасць яе ў тым, што ў гэтай бібліятэчцы пабачаць свет гістарычныя аповесці і дэтэктывы, пабудаваныя на беларускім матэрыяле. Першынцам у "Ночном гонце" стала кніга Кастуся Тарасава "Залатая горка", якую склалі тры аповесці пісьменніка, што даўно цікавіцца гістарычнай праблематыкай і завяваў прыхільнасць у чытача. У прыватнасці, некалькі выданяў вытрымала кніга гістарычных нарысаў і эсэ К. Тарасава "Память пра легенды". У аповесці "Чорны шлях" падзеі адбываюцца на Ашмяншчыне. Дынамізм дзеяння спалучаецца з вострым сюжэтам, гэтаксама як рэальнасць суседнічае з тым, што знаходзіцца на мяжы фантастыкі. Аповесць жа, якая дала назву кнізе, узнаўляе сучасныя рэаліі, дзеянне твора адбываецца ў сталічным Мінску, у раёне, дзе стаіць касцёл святога Роха, а раён гэты, як вядома, атрымаў назву Залатая горка. Адметная сваёй тэматыкай трэцяя аповесць "Сцежка Каіна". Пазнаёміўшыся з гэтым творам, чытач перанясецца ў 1654—1667 гады, калі ў выніку вайны загінуў кожны другі беларускі жыхар.**

ВЫСТАВЫ

# Тайвань — востраў прыгажосці

Я НІКОЛІ НЕ БЫЛА на Тайвані і, магчыма, ніколі не буду. Але вельмі хацелася б наведаць гэтую экзатычную і сучаснейшую краіну...

Маракі, якія адкрылі Тайвань у XVII стагоддзі, назвалі гэты востраў "Ihla Formosa" — прыгожы. Тайвань — сапраўды востраў прыгажосці. Прырода была для яго шчодрай на экзотыку. З чым параўнаць пейзажы Нацыянальнага парку Янміншан каля Тайбэя з яго велічэзным вулканам, загадкавым возерам Сонца і Месяца, з ружовымі крачкамі, скальнымі макакамі, фармозскімі чаплямі, з блакітнымі сарокамі, аленямі, ласосем мацу... Чалавек не сапсаваў сваім сучасным умяшальніцтвам гэту першародную прыгажосць. Ён вельмі жыва ўпісаў чырвоныя перакрыцці хуткаснага моста ў горы Гуаньмінь. Ну, а архітэктура шыкоўнага грантэатэля на Юйшанэ (Тайбэй) ці Культурнага цэнтра імя Чан-Кай-шы захоўвае тыповыя рысы кітайскай традыцыйнай архітэктуры, такой характэрнай для прыроднага ландшафту краіны. Увогуле, старажытныя традыцыі моцна прыжыліся на Тайвані. Там адзначаецца свята ліхтароў (юаньсяо), калі ў небе запускаецца сімвал улады — тыгр, свята вясны (абрад пакланення продкам), штогодні абрад багіні мора Мацзу...

Тайвань — востраў сучасных тэхналогій, востраў развітой эканомікі, высокага ўзроўню жыцця і той з'явы, што мае цяпер назву "тайваньскага цуду". Тайвань займаецца імпартам тэкстылю, электронных тэхналогій, на яго тэрыторыі перакрыжоўваюцца сусветныя марскія і авіяцыйныя шляхі (грузавы порт у Гаосюне — трэці па апрацоўцы кантэйнераў у свеце, напрыклад).

Тайвань — востраў, дзе надаецца вялікая ўвага культуры, навуцы, адукацыі. Абавязковая дзевяцігадовая адукацыя, дзяржаўныя школы, спансіраванне ўрадам праграм павышэння прафесійна-тэхнічнай падрыхтоўкі працоўных і праграм занятасці насельніцтва — толькі частка дзяржаўных мерапрыемстваў. Вядома, што, ратуючыся і ратуючы нацыянальныя каштоўнасці ад японскай акупацыі, Чан-Кай-шы прывёз на Тайвань большую частку імператарскай калекцыі з Палацавага музея ў Пекіне. А цэнтральны палацмузей Тайваня Гугун пры ўсіх аб'ёмах будынка мае магчымасць выставіць толькі 1% сваёй калекцыі.

Спадар Туан Пей-Лунь, прадстаўнік Тайбэйскай гандлёва-эканамічнай місіі ў Мінску, на прэс-канферэнцыі перад адкрыццём выставы вельмі карэктна адказваў на пытанні аб адносінах Тайваня і кантынентальнага Кітая. Мы не можам уздзейнічаць на жыццё Кітая, настолькі розныя сталі за сорак год раздзяленага існавання дзве часткі сённяшняй краіны, сказаў ён. Спадар Туан пакінуў Кітай ў дзесяць год і ніводнага разу туды не вяртаўся. Адна вядомая тайваньская пісьменніца вырашыла паехаць на кантынентальны Кітай, каб памерці на радзіме. Але, не знайшоўшы там адпаведнага ўзроўню догляду за сабою, вымушана была вярнуцца на востраў. Адзінае спадзяванне, зазначыў спадар Туан, што праз пэўны час узровень жыцця Кітая падцягнецца да ўзроўню Тайваня ці Ганконга, а не наадварот.

Я не была на Тайвані. Але ўпершыню я пабачыла такую калекцыю фотаздымкаў, якая дала сапраўды поўнае, аб'ёмістае, жывое ўяўленне пра краіну і яе развіццё, пра традыцыі і звычаі жыхароў, эканоміку і фінансы, сістэму адукацыі, дасягненні прамысловасці і навукі, прыгажосці прыроды. Фотавыстава ўключае каля 140 работ, яна штогод аднаўляецца і дэманструецца ў розных краінах свету. Гэта фотавыстава разам са старажытнакітайскім мастацтвам з калекцыі Нацыянальнага музея гісторыі Тайбэя, сучасным жывапісам тайваньскага мастака Лан-Сіун Вана і яго 39 вучняў экспанавался ў Мінску ў Музеі сучаснага мастацтва. Адсюль яна распачынае сваё падарожжа па абласных цэнтрах Беларусі. Арганізатарамі выставы выступілі Міжнародны фонд эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж Мінскам і Тайбэем, Тайбэйская гандлёва-эканамічная місія ў Мінску, Тайбэйска-маскоўская каардынацыйная камісія па эканамічным і культурным супрацоўніцтве і Музей сучаснага мастацтва Беларусі.

Выстава прадстаўляе рэпрадукцыі (а дакладней — копіі) твораў кітайскага традыцыйнага жывапісу на світках, а таксама рэчаў дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. У калекцыі — знакамітая кітайская бронза перыядаў Шан (Інь) XIV—XII стст. да н.э. і эпохі Чжоу XII—III стст. да н.э., творы керамікі і парцэляны перыядаў Тан, Мін і Цын (ад 618 да 1911 гг.). Выстаўлены і глазураваныя рытуальныя рэчы, і блакітна-зялёныя парцэлянавыя вазы, і чашы перыяду праўлення дынастыі Сун, вядомыя за межамі Кітая, і пяціколеравы роспіс эмалевымі фарбамі (так званая "барацьба колераў" альбо "сапернiцтва фарбаў"), і перагародчатыя эмалі дынастыі Мін — сведкі віртуознай тэхнікі і высокага мастацкага густу кітайскіх майстроў.

Не менш уражвае і традыцыйны кітайскі жывапіс. Мастацтва роспісу вадзянымі фарбамі па шоўку ці паперы "го-хуа" вядома ў Кітаі з V—III стст. да н.э. Прадстаўлены ўсе асноўныя жанры традыцыйнага жывапісу — партрэты, пейзажы, "кветкі і птушкі" — майстроў мінулага і сучасных мастакоў. Гэта надзвычай прывабная частка экспазіцыі, вытанчанасць і віртуознасць прымушае ўглядацца ў такія работы падоўгу.

Ці не найбольш цікавая частка экспазіцыі — жывапіс сучаснага тайваньскага мастака прафесара Лан-Сіун Вана. Ён адзін з найбольш вядомых маладых тайваньскіх мастакоў, прызнаны на радзіме як прапагандыст і прадаўжальнік школы традыцыйнага кітайскага жывапісу. Цытую яго: "прырода гаворыць з намі праз традыцыі". На думку суайчыннікаў, ён перанёс класічны стыль у сучаснасць, ствараючы творы, поўныя лёгкасці і вытанчанасці. Прафесар Ван надаў традыцыйнаму кітайскаму жывапісу еўрапейскія рысы, надзіва гарманічна пяяднаўшы тыпова-ўсходнія адносіны да выгляду прыроднага ландшафту з законамі колеразнаўства, перспектывы і іншымі чыста еўрапейскімі элементамі мастацтва. Ён стварыў свой стыль і новы накірунак у сучасным кітайскім жывапісе. Прафесар Ван не замыкаецца ў студыі, ён атрымлівае натхненне непасрэдна ад прыроды, падарожнічае, бавячы час у сузіранні прыроды Азіі, Еўропы, Амерыкі. Упершыню свае творы Лан-Сіун Ван прадэманстраваў, калі яму споўнілася дваццаць год. З таго часу ён шмат выстаўляўся ў Германіі, Галандыі, Карэі, Кітаі, ЗША, Тайвані, Францыі, Японіі. Праходзіла яго выстава і лекцыя ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

Выстава "Тайвань учора і сёння" з'яўляецца сумесным беларуска-тайваньскім праектам, здзейсненым у межах праграмы абмену паміж двума бакамі ў галіне культуры і мастацтва. Пра гэта гутарка з віцэ-прэзідэнтам Міжнароднага фонду эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж Мінскам і Тайбэем Аляксандрам Чабатарэўскім.

— Прадстаўленая ў Музеі сучаснага мастацтва Беларусі выстава "Тайбэй учора і сёння" — гэта ўжо не першае дзецішча фонду. Раней фонд плённа супрацоўнічаў з Нацыянальным мастацкім музеем, цяпер, у сувязі з прыходам новага дырэктара, вырашаюцца некаторыя персанальныя пытанні, аднаўляюцца былыя сувязі. Дырэктар жа Музея сучаснага мастацтва мастак Васіль Шарангові — сябра праўлення нашага фонду і тайваньская выстава — адна з найбольш яркіх і значных экспазіцый, якая прайшла тут за невялікі час яго існавання. А новаму музею трэба напрацоўваць аўтарытэт.

У Нацыянальным мастацкім музеі працуе зараз выстава традыцыйнага кітайскага мастацтва. Хачу падкрэсліць асабліва, што на тайваньскай выставе прадстаўлена, акрамя іншага, таксама менавіта традыцыйнае кітайскае мастацтва. Гэта не датычыць асаблівасцей унутранага дыялога паміж Тайванем і Кітаем як дзвюма часткамі адной краіны. Калі пяцьдзесят год таму на востраў Тайвань пераехаў цэнтральны ўрад Кітая, ён прывёз з сабой вялікую колькасць экспанатаў з кітайскіх музеяў. За апошні час яны значна папоўнены набытымі творамі і творамі сучасных мастакоў.

Хачу сказаць, што ўвага на Тайвані да мастацтва і ўвогуле да культуры вялікая. Чан-Кай-шы — адукаванейшы чалавек, ён узвёў тры сферы — навуку, адукацыю, культуру — у абсалют. Таму і адносіны да людзей гэтых прафесій заўжды вельмі паважлівыя. Ім забяспечана дзяржаўная падтрымка, дзяржаўны ўзровень многіх мерапрыемстваў.

Міжнародны фонд эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж гарадамі Мінскам і Тайбэем зарганізаваўся таксама з ініцыятывы і зацікаўленасці не толькі беларускага боку. Ён узнік як грамадская арганізацыя і за час свайго існавання (з 1995 года) правёў нямала сумесных мерапрыемстваў. Калі супрацоўніцтва Беларусі з кантынентальным Кітаем ідзе на афіцыйным узроўні, то з Тайванем, як і ў большасці краін свету, — у грамадскім, культурным, эканамічным, экалагічным, адукацыйным плане. Фонд існуе на складкі фізічных і юрыдычных асоб, як беларускіх, так і тайваньскіх. Натуральна, што для правядзення мерапрыемстваў, якія асабліва звязаны з пералётамі з Тайваня на Беларусь ці наадварот, мы знаходзім спонсараў.

Фонд забяспечвае магчымасці дзелавога супрацоўніцтва. Беларусі важна вывучыць незалежны вопыт эканомікі Тайваня, якая за пяцьдзесят год стала 19-й эканомікай свету, 6-й эканомікай па канкурэнтаздольнасці, 3-й — па валоданні золата-валютнага запасу ў свеце. Тайвань мае велізарны вопыт знаходжання новых падыходаў у арганізацыі камунікацый, фінансавай дзейнасці, мартэцінгу, насычанасці транспарту і г. д. І гэтаму не перашкаджае няпэўнасць палітычнага статуса Тайваня. Зрэшты, менавіта Тайвань з'яўляецца інвестарам нумар адзін у эканоміку Кітая.

Ужо неадназова фонд наладжваў паездкі беларускіх бізнесменаў на Тайвань, прывозіў тайваньскія прамысловыя выставы, прадстаўляў зацікаўленым тайваньскім партнёрам інфармацыю па эканоміцы Беларусі. Фонд супрацоўнічае з Інстытутам індустрыяльных тэхналогій, які праводзіў у галіне навуковых даследаванняў семінар, дзе былі выяўлены 32 супадзенні ў эканамічнай галіне для далейшага магчымага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Тайванем. Фонд атрымаў эксклюзіўныя правы ад Тайваньскага



*Сю-Ін Ян, "Сады Су Цоу"*



*Дынастыя Тан, "Фігуркі спяваючых дзяўчат"*



*Чжун-Пі Хуан (1898 г.), "Горы"*

савета садзеяння знешняга гандлю (CETRA) на пераклад і выданне кнігі "Займіцеся бізнесам з Тайванем" (такога перакладу няма нават у Расіі). CETRA дэлегуе фонду свае паўнамоцтвы прадстаўніцтва на Беларусі. І хоць сапраўдныя ўкладанні ў нашу эканоміку зараз амаль што не ідуць (гэтаму перашкаджае цяперашняя крызісная сітуацыя), але Беларусь мае ўсе магчымасці заняць нішу прамысловай выставачнай актыўнасці Паўднёва-Усходняй Азіі. Беларусь інтэгравана з Расіяй, мае нават агульную эканамічную прастору з ёю, таму можа стаць месцам для тайваньскай экспансіі на рынкі СНД.

Думаю, што Беларусь і Тайвань маюць многа агульнага. Па-першае, гэта геапалітычнае становішча Беларусі паміж краінамі заходняй Еўропы і ўсходнімі шляхамі. Тайвань таксама знаходзіцца на раздарожжы марскіх і авіяцыйных шляхоў, і яго вопыт наладжвання экспарту прадукцыі можа быць нам вельмі прыдатны. Па-другое, варта прыгледзецца да развіцця Тайваня як грамадства ўсеагульнай культуры, дзе галоўнае — базавая падрыхтоўка, школа, усеагульная граматнасць. Ну, а вынік — на Тайвані даход на душу насельніцтва на дадзены момант трынаццаць тысяч долараў. Беларусь таксама мае моцную базавую падрыхтоўку спецыялістаў, што асабліва заўважна ў культурнай галіне. І яшчэ: і тайванцы,і беларусы — цярплівы і пакладзісты народ. На Тайвані ваеннае становішча было адменена толькі пятнаццаць гадоў назад сынам Чан Кай-шы, можна гаварыць, што дэмакратычнае грамадства стала фарміравацца толькі нядаўна.

У працы фонду на дадзены момант найбольш распрацаваны культурны блок мерапрыемстваў. Нядаўна на Тайвань паехала калекцыя дзіцячага малюнка з мастацкіх школ Мінска і Гомеля на міжнародны штогодні конкурс дзіцячага малюнка. Летам прайшоў першы міжнародны лагер для студэнтаў музычных спецыяльнасцей. У будучым плануецца правядзенне такіх лагераў у іншых галінах культуры, напрыклад, балета, выяўленчага мастацтва, дзе Беларусь мае выдатную школу падрыхтоўкі. З 13 па 27 ліпеня 14 тайваньскіх студэнтаў знаходзіліся на Беларусі. Індывідуальныя заняткі праводзілі з імі вядомыя беларускія музыканты Алоўнікаў, Кузьменка, Кучынскі і іншыя. Студэнты атрымалі сертыфікаты, пасведчанне аб наведаных майстар-класаў. Мінск тайваньскім студэнтам спадабаўся. Пасля заканчэння летняга лагера яны правялі некалькі дзён у Вене. Натуральна, гарады не параўнаеш. Але там тайваньскія студэнты, па іх жа словах, адчувалі сябе азіятамі, Мінск жа аказаўся для іх больш адкрытым і шчырым у адносінах.

Наш дэвіз: да эканамічнага супрацоўніцтва праз праекты ў галіне культуры. Мы ўжо наладзілі ў Мінску дні Тайбэя, мяркуем у бліжэйшы час правесці і ў Тайбэі дні Мінска. Рыхтуем вялікую фотавыставу Э. Станкевіча, дзе ён параўноўвае Мінск стары і цяперашні, выставу беларускай графікі В. Шаранговіча і яго вучняў. Дапоўняць выставы лекцыі па сістэме мастацкай адукацыі на Беларусі (В. Шаранговіч), па музейнай справе (У. Пракапцоў), па харэаграфічнай падрыхтоўцы (Л. Каробкіна), па музычнай адукацыі (М. Казінец), па эканоміцы (П. Нікіценка). Выпускнікі харэаграфічнага каледжа дадуць канцэрт.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота К. ДРОБАВА*

ЮБІЛЕІ

# Любоў адзіная — тэатр

## Арсеню ЛАБОВІЧУ — 75

Ён належыць да кагорты тых руплі́ўцаў, якія самааддана працуюць на ніве беларускай культуры шмат гадоў.

Творчы шлях А. Лабовіча пачаўся ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры, дзе ён выступаў пасля заканчэння ў 1949 годзе акцёрскага факультэта Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Даследчыцкай працай Арсень Аляксандравіч пачаў займацца на пачатку 60-х гадоў, калі прыйшоў у Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. Пасля заканчэння аспірантуры і абароны кандыдацкай дысертацыі (1966 г.) ён працаваў тут спачатку старшым навуковым супрацоўнікам, а затым вучоным сакратаром. У гэты перыяд ён даследуе беларуска-польскія тэатральныя сувязі, вывучае праблемы ўвасаблення твораў А. Астроўскага, М. Горкага на беларускай сцэне, выступае ў друку па пытаннях сучаснага тэатральнага жыцця.

У тыя гады выйшлі ў свет яго манаграфіі "Тэатр змагання" (1969 г.) і "П'есы А. Астроўскага на беларускай сцэне" (1971 г.).

Плённа працаваў А. Лабовіч на пасадзе загадчыка рэдакцыі культуры і мастацтва ў БелСЭ, загадчыкам кафедры ў Рэспубліканскім інстытуце павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры. З 1991 года ён — старшы навуковы супрацоўнік Рабочай групы па стварэнні Дзяржаўнага музея гісторыі тэатра і музыкі Беларусі. Тут ён узначаліў групу супрацоўнікаў па стварэнні пашыранай тэматычнай структуры экспазіцыі, зараз прымае актыўны ўдзел у распрацоўцы навуковай канцэпцыі будучага музея, з'яўляецца старшынёй навукова-метадычнага савета.



*У гасцёўні Галубка. Юбіляр — леваруч Стэфаніі Міхайлаўны Станюты. 1994 г.*

Свае энцыклапедычныя веды ў галіне не толькі беларускага, але і сусветнага тэатральнага мастацтва ён аддае справе выхавання творчай моладзі. Больш за дзесяць гадоў А. Лабовіч — дацэнт Мінскага універсітэта культуры, дзе выкладае гісторыю тэатра. Як тэатразнаўца актыўна супрацоўнічае з Саюзам тэатральных дзеячаў, прымае актыўны ўдзел у выязных семінарах па праглядзе і абмеркаванні спектакляў народных тэатраў Беларусі.

Здароўя і творчага натхнення вам, Арсень Аляксандравіч!

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ**

*Фота Т. САРАКАЧ*

## Алена ТРАФІМЕНКА:

# "Мне за сваё кіно не сорамна"

Свой новы сезон клуб аматараў кіно "Профіль", які працуе ў кінатэатры "Піянер", пачаў з прэм'еры. Прэм'еры не толькі поўнаметражнага фільма для дзяцей, але і маладога беларускага кінарэжысёра Алены Трафіменкі. Яе творчы вечар сабраў надзіва шматлікую аўдыторыю, большасць з якой — моладзь. А яе, згадзіцеся, не так ужо часта пабачыш на праглядзе чагосьці іншага, чым "Тытанік". Безумоўна, нельга наракаць на ўсіх маладых людзей адразу. Ёсць — і нямала — сярод іх тых, хто шчыра цікавіцца зусім іншым кіно. Такім, якім бачыць і стварае яго выхаванка славутай майстэрні Віктара Турава.

Алена Трафіменка — мінчанка, прыгожая мініяцюрная жанчына. Ёй крыху больш за трыццаць, але яна ўжо шмат чаго паспела. Яе творчая біяграфія прыйшлася на час перабудовы, час пошуку і разбурэння ўсіх сацыялістычных канонаў. Час, які вастрэй, чым калі-небудзь, паставіў рэжысёраў перад выбарам: або прагматычнае штампаванне дэтэктыўна-прыгодніцкіх стужак, або ўласная творчасць. Як паведаміла, прадстаўляючы рэжысёра, філосаф Святлана Савіна, Алена выбрала апошняе, цудоўна разумеючы, што на гэтым шляху можна набыць толькі імя, але не залатыя горы. Яе карціны маюць ярка выражаны філасофскі, гуманістычны напрамак. Што такое жыццё і смерць? Дзеля чаго ўсё гэта? Адвечныя пытанні, на якія няма і не можа быць адназначнага адказу. Яны чырвонай стужкай праходзяць праз яе фільмы-прытчы, фільмы-споведзі. Ужо ў першай яе працы, кароткаметражцы "Жыццё" (89-ы год), прасочваецца спецыфічнае бачанне сваёй тэмы. Вось як ахарактарызавала яе С. Савіна:

— Алена распавядае пра будзённае жыццё звычайнага грамадзяніна. Прамежак часу, што завецца жыццём, кожны пражывае па-свойму. У гэтай нямой стужцы нічога не сказана, але які прастор для думкі! У гэтай штодзённасці выяўляецца вялікая духоўная праца чалавека. Алене ўдалося паказаць гэта і тым самым запрасіць кінагледача да размовы.

Другая яе стужка была створана ў 91-м годзе сумесна з аператарам Ігарам Белакапытавым. Фільм "І яшчэ спяваюць птушкі..." — зусім кароценькі: усяго пяць хвілін. У цэнтры ўвагі — зноў жыццё чалавека. Можна гаварыць пра расплывістасць сюжэта, пра нестыкоўку асобных частак, але асноўная думка праглядвае даволі выразна: птушкі, неба, аблокі і дзеці будуць заўсёды, гэта вечныя каштоўнасці, на якія дарослыя часта забываюцца ў жыццёвай мітусні.

Алена Трафіменка вельмі любіць творы Ф. Дастаеўскага. Менавіта ягоная творчасць і з'явілася ідэйным падмуркам для двух наступных яе фільмаў: "Пекла — гэта..." па п'есе Ж.П. Сартра "За зачыненымі дзвярыма" і "Прыгавор" па аднайменным апавяданні Ф. Кафкі.

Сем кругоў пекла, Чортава кола... На вобразе замкнёнага кола, у якога няма ні пачатку, ні канца, пабудавана першая з гэтых стужак. На аглядным коле сустракаюцца трое: баязлівец, забойца і бязлітасная жорсткая жанчына. Проста здзіўляешся, як Алене ўдалося ператварыць гэты любімы дзецьмі атракцыён у нешта злавесна-безнадзейнае, у пачварную прыладу для катавання. Варта было толькі запусціць гэтае кола ноччу, у час бязлюддзя. Але не бязлюддзе ператварае ў пакуту знаходжанне тут. Наадварот, пекла — гэта... іншыя. Ад іх нікуды не дзенешся, нават смерць больш не дапаможа. А Брамнік пускае толькі ў адзін бок... Уявіце сабе: у вечнасці побач з табой будуць іншыя, не любімыя табой людзі — хіба гэта не пакаранне? Ці не пакаранне зазірнуць у люстэрка і ўбачыць, "якое яно пустое, люстэрка, у якім цябе няма"? Вось як разважае на гэтую тэму сама Алена Трафіменка:

— Сартр і Камю спрачаліся адзін з адным. Камю сказаў, што "пекла — гэта я", а Сартр яму адказаў: "Не, пекла — гэта іншыя". Але і Сартр, і Камю былі атэістамі, што ж да мяне, дык я веруючы чалавек. Кожны з нас — носьбіт і раю, і пекла адначасова. Я не веру ў станоўчых герояў ад пачатку да канца. Ідэальнага ўвогуле нічога не бывае. У прыродзе ёсць карлікавая бяроза, але яна не менш прыгожая, чым тая, што сягае ў нябёсы. Я імкнулася перадаць у карціне, што пакуль мы жывыя, мы здольныя на пачуцці і эмоцыі. Хай яны будуць станоўчыя, хай будуць адмоўныя — не ў гэтым справа. Гэтыя, мёртвыя, не здольныя на эмоцыі — вось што жахліва. Нават сярод нас ёсць падобныя на іх, людзі-зомбі. Яны не адчуваюць, не думаюць, не кахаюць, не ненавідзяць. Такія людзі мяне палохаюць.

"Прыгавор" — адно з самых любімых Алениных апавяданняў Кафкі. Апавяданне, як і аднайменная стужка, пра тое, што кожны з нас на жыццёвым шляху вызваляецца з-пад улады бацькі, які стаіць над намі. Бацькі не толькі і не столькі біялагічныя. Гэта можа быць настаўнік, калега, чалавек, які нас чаму-небудзь навучае. Асоба пачынаецца толькі тады, калі яна адольвае волю такога бацькі. Фільм пабудаваны ў форме тэлевізійнай экранізацыі тэатральнага спектакля. Безумоўным плюсам фільма з'яўляецца выбар акцёраў. Фактура Алега Ганчаронка (дарэчы, ён іграў адну з галоўных роляў і ў папярэднім фільме Алены) як мага лепей адпавядае літаратурнаму матэрыялу. А Генадзь Гарбук стварыў проста выбітны вобраз бацькі: ён варты жалю, бездапаможны стары і адначасова страшны дэспат.

Першая поўнаметражная карціна маладога рэжысёра задумана і створана зусім у іншым настроі. "Падзенне ўверх" — стужка надзіва светлая, чыстая, празрыстая, насычаная яркімі колерамі, прыродай, музыкай і прыгажосцю. Прыгажосцю не толькі знешняй, але і ўнутранай. Як кажа сама Алена (яна ж, дарэчы, і аўтар сцэнарыя): "Гэта фільм аб тым, што мы можам марыць, ствараць лепшы свет, перамагчы ўсё". І не трэба лічыць, што гэта занадта складаная тэма для юнага гледача. Сама Алена супраць падзелу кіно на мужчынскае, жаночае, дзіцячае. Дзіцячае — гэта каб меней думаць? Хіба таго ж "Тома і Джэры" можна назваць фільмам для дзяцей? Алена не робіць скідак на прыдуманую дарослымі дзіцячую някемлівасць.

"Падзенне ўверх" — гісторыя маленькага хлопчыка, якога аўтамабільная аварыя выхапіла са звыклага кола жыцця, зрабіўшы сіратой і адабраўшы магчымасць хадзіць. Апынуўшыся ў адзіноце, ён не падае духам і сам стварае свет, у якім яму цікава жыць. Ён сябруе з Ветрам, ён сябруе з вялікім прыгожым лабрадорам Крузам, якія могуць размаўляць і думаць. Як людзі. Хлопчык вандруе па свеце, ператвараючыся ў вялікі рознакаляровы шар. Але рэальнае жыццё часам аказваецца да яго бязлітасным. Ён хоча сябраваць, але — сустракаецца з эгаізмам. Ён паверыў, што сам можа ўсяго дасягнуць, а яму кажуць: "Выбачай, малы, калі ў цябе няма патрэбных сувязяў, тваё месца — на сметніку". Дарэчы, мінская звалка здалася Алене вельмі кінематаграфічнай, нават прыгожай (як гэта ні парадаксальна) фактурай. І скарысталася яна гэтай фактурай вельмі ўмела. Чаго варта хаця б кадр з кучай паламаных лялек, якая асацыіруецца з незапатрабаваным дзяцінствам, якое выкінута на сметнік. Увогуле, эпізоды са звалкай шакіруюць. Больш за ўсё ўражваюць яе насельнікі: не крумкачы, а "гордыя марскія птушкі" чайкі. Яны шыкоўна ўладкаваліся тут, штодзень спраўляюць свой баль. Людзі спраўна забяспечваюць іх ежай. У спалучэнні з музыкай кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча ўсё гэта нагадвае дэманічную вакханалію.

Як адсюль выбрацца? Канешне, з дапамогай мары! Яна не толькі вызваляе з жыццёвай звалкі. У крытычнай сітуацыі хлопчык з ёю перамагае нават сваю інваліднасць, спяшаючыся на дапамогу іншым. Ён робіць першыя, галоўныя крокі. У гэтай упартасці, нязломнасці героя ўжо нельга адрозніць ад акцёра. Бо і сам Саша Захарэвіч менавіта такі. Ён адразу запаланіў Алену, якая шукала хлопчыка на галоўную ролю, сваёй сур'ёзнасцю. Яна зразумела, што маленькі чалавечак са станцыі Пціч вытрымае. І сапраўды, нягледзячы на вельмі складаныя ўмовы здымак, Саша вытрымаў. Калі бачыш на экране поўны давер паміж ім і вялікім лабрадорам, проста не верыш, што на самай справе Саша ўвесь час хавае сваю боязь.

Можна з упэўненасцю сказаць: гэтая стужка — не аднадзёнка. Яна не састарэе, не надакучыць. Яе можна глядзець шмат разоў і кожны раз знаходзіць нешта новае.

— Мне за сваё кіно не сорамна. Фільм каштуе 200.000 долараў, і я ганаруся, што за такую мізэрную суму здолела зрабіць камп'ютэрную графіку і анімацыю, камбінаваныя і пакадравыя здымкі, — кажа Алена Трафіменка. — Я намагалася паказаць, што марыць трэба. Больш за тое: трэба быць вольным у сваёй мары — яна можа змяніць усё наша жыццё. Марце і будзьце вольнымі!

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

УГОДКІ

# "Паэзія — маё жыццё..."

Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння выдатнага крытыка і даследчыка беларускай паэзіі Рыгора Бярозкіна. З гэтай нагоды 15 верасня ў Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы адбыўся літаратурны вечар. Гасцінны Дом Купалы сабраў родных і сяброў Рыгора Саламонавіча, тых, хто ведаў і шанаваў яго. Шмат было сказана цёплых слоў у адрас таленавітага крытыка.

Пачалася імпрэза паэтычнымі радкамі народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, які вёў мерапрыемства. Ён прачытаў верш, прысвечаны Бярозкіну. З высокай ацэнкай таленту Рыгора Саламонавіча выступіў член-карэспандэнт НАН Беларусі, старшыня бюро секцыі крытыкі і літаратуразнаўства Саюза пісьменнікаў Міхась Мушынскі. Сваё ўдзячнае слова пра вядомага крытыка сказалі акадэмік Віктар Каваленка, прафесар Эмануіл Іофе, сябры-пісьменнікі Валянцін Тарас, Рыгор Рэлес, Аляксандр Дракахруст, Уладзімір Мехаў, Вельмі шчымлівымі былі ўспаміны ўдавы Рыгора Бярозкіна Юліі Канэ (яна прыехала ў Мінск з Ізраіля, дзе цяпер жыве).

Невыпадкова менавіта музей Янкі Купалы аб'яднаў шчырых прыхільнікаў таленту крытыка. Рыгор Бярозкін пісаў амаль пра ўсіх сваіх сучаснікаў, у якіх бачыў агеньчык паэтычнага таленту. Крытык такой эрудыцыі і маштабу не мог не звярнуцца да класічнай паэтычнай спадчыны. Таму значнае месца ў творчай дзейнасці Рыгора Бярозкіна заняў Янка Купала. Ён высока ацаніў паэзію Купалы, адкрыў у яго спадчыне новыя ідэйныя і мастацкія глыбіні, што, безумоўна, стала новым крокам у купалазнаўстве: "Існуе велізарны і непаўторны ў сваім харастве свет, які завецца светам Янкі Купалы... Лёгкая, чыстая і задушэўная песня непрыкметна саступае месца напружанаму маналогу ці палымянаму публіцыстычнаму закліку. Усё ў руху, у кіпені, у гатоўнасці стаць новым і іншым. Складаны, бурны, рознагалосы свет..."

Пісьменнікі наведалі магілу Рыгора Бярозкіна і ўсклалі кветкі.

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,**
**навуковы супрацоўнік**
**музея Янкі Купалы**



*Фота К. ДРОБАВА*

# Жыццё і лёс Рыгора Бярозкіна

Лёсу пажадалася, каб апошняя крытычная праца Рыгора Саламонавіча Бярозкіна была пра вайну. Па заказе выдавецтва ён у Каралішчавічах пісаў закрытую рэцэнзію на рукапіс кнігі былога начальніка аднаго з армейскіх клубаў Іллі Клаза. Пісаў нервова, — выхопліваючы і чытаючы "сакавітыя" цытаты, працягваючы рукі да неба і ярасна лаячыся.

Таму што пад пяром начклуба вайна прадстаўлялася чымсьці накшталт батальнага спектакля са стралковымі ротамі, якія ідуць на поўны рост, палітрукамі, якія крычаць "За Родину! За Сталина!", і карцінна паміраючымі героямі. Бярозкіна, які ведаў па ўласным вопыце, што такое сапраўдная вайна — з крывёй і вошамі, беспаспяховымі атакамі і бясконцымі трупамі, злымі мацюгамі і штрафнымі ротамі, нудзіла ад гэтай густой і ліпкай лажы.

Ён спачатку стрымліваўся, але потым даў сабе волю і, амаль не адрываючыся, накатаў паўтара аркуша. Гэта была не рэцэнзія, а бліскучая літаратуразнаўчая работа, даследаванне, у якім супастаўляліся два тыпы ваеннай прозы — клазаўская (зусім не рэдкая ў той час, бо так — з той ці іншай мерай таленту — прынята было пісаць) і сапраўдная — някрасаўская, быкаўская. Нават не сіманаўская, — з якой ён спрачаўся.

Чытаючы ўголас гэтую рэцэнзію, Бярозкін кіпеў і абураўся. І гаварыў пра тое, што хацеў бы напісаць грунтоўную кнігу пра ваенную прозу, пра "акопную праўду", каб даць чосу пульхным тамам, у якіх у духу сацыялістычнага рэалізму падносілася казённая хлусня пра вайну.

Думка пра гэта не пакідала яго.

"Так, добра было б напісаць такую кнігу, — паўтарыў Рыгор Саламонавіч, калі мы прагульваліся па памятнай усім, хто піша, алеі ў доме творчасці. — Але, ведаеце, я ўжо, здаецца, больш нічога не напішу..."

Мяне ўразілі і глыбока ўстрывожылі гэтыя словы. Аднак у адказ на мае пытанні ён пажартаваў і загаварыў зусім пра іншае. Быццам сам стараўся адагнаць нечакана выказанае меркаванне.

Напэўна, у такіх натур — тонкіх і чуйных — ёсць нейкі дар прадчування. А можа, яго проста бясконца змучылі цяжкія і працяглыя працэдуры ў Бараўлянах, сама абстаноўка той бальніцы, дзе ён доўга ляжаў і дзе, на жаль, вее дух трагічнай безнадзейнасці.

Ён не паддаваўся гэтаму духу. Ён на нашых вачах у дзень свайго шасцідзесяцігоддзя атрымаў запэўненне ўрача, які яго лячыў, што ў яго "ўсё ў парадку". Але нервовая сістэма ўжо гранічна напружылася. І твар яго выяўляў пакуту і непераходнае напружанне.

Пазней, зноў трапіўшы ў шпітальную палату, ён, здавалася, увесь час у штосьці ўзіраўся спыненымі вачамі і — крычаў. Страшэнна крычаў!

Хто ведае, што ўяўлялася яму? Якія малюнкі ўзнікалі ў ягоных ахопленых гарачкаю мазгах? Магчыма, целы салдат, якія разрываюцца асколкамі? Можа, вышкі і зэкі, якія замярзаюць на лагерных нарах і лесапавалах? Можа, невысокі сумятлівы чалавечак, які спачатку здрадзіў яму, а потым усё астатняе жыццё набіваўся да яго ў сябры?

Гэты крык, гэты стогн чалавечай душы, які ўжо не стрымаць воляй, я не забуду ніколі!

Лёс, жорстка выпрабоўваючы Бярозкіна, досыць доўга ашчаджаў свайго абранніка. Яго не забілі чэкісцкія кулі (гісторыя расстрэлу зняволеных на жалобнай дарозе адступлення добра вядомая), не скасілі нямецкія кулямётныя чэргі, не зламаў фізічна і не растаптаў маральна сталінскі лагер.

У нечалавечых умовах захаваў ён душу жывой, захаваў свой ясны розум, свой незвычайны крытычны талент! Але, падобна на тое, як вайна "даганяе" параненых салдат, і ГУЛАГ у рэшце рэшт "дагнаў" яго. Аднак, нягледзячы ні на што, ён так шмат паспеў! Так шмат зрабіў! (Хоць, на жаль, у цягамотнай і задушнай атмасферы застою не напісаў тых кніг, якія мог і хацеў напісаць).

Дзякуючы свайму таленту, свайму нястрымнаму тэмпераменту, свайму характару, які не прымаў ідэалагічных догмаў камуністычнага рэжыму, здолеў ён вырвацца "з-пад глыбаў" (як некалі з-пад куляў), стаць адным з дзейсных шасцідзесятнікаў, рыцарам нацыянальнай культуры, аўтарытэтным вытлумачальнікам і папулярызатарам беларускай паэзіі. Не, не той, вядома, якая "нацыянальная па форме, а сацыялістычная па змесце", — паэзіі сапраўднай!

Шчырая ўлюбёнасць у яе спалучалася ў Бярозкіна з найвысокай патрабавальнасцю, адточаным прафесіяналізмам. Ён аддаваў перавагу і адстойваў паэзію арганічную, непарыўна звязаную з народнымі каранямі, прапушчаную праз "магічны крышталь" сапраўднага таленту. І знаходзіў гэтую арганіку ў такіх розных майстроў, як Аркадзь Куляшоў, Сяргей Дзяргай, Аляксей Пысін. І пісаў пра гэта ярка, вобразна, пераканаўча.

Рыгор Саламонавіч заўсёды быў верны талстоўскаму запавету, які складаўся з таго, што задача крытыка — адкрыць і паказаць у творы прамень святла, прамень праўды, без якіх ён — нішто. Ён не толькі адкрываў і паказваў — ён патрабаваў ад літаратараў гэтай праўды, гэтага святла. Высокай мастацкасці і вострай сацыяльнасці.

Сяброўскія стасункі не ўладныя былі над яго крытычнай думкай. Ён аднолькава патрабавальна падыходзіў і да творчасці пачынаючых, і да твораў вядомых, асабіста блізкіх яму паэтаў.

Так, Бярозкін сябраваў з Аркадзем Куляшовым! Але і яму гаварыў ён часам строгія і непрадузятыя словы. Іх спрэчкі выходзілі за рамкі спраў чыста паэтычных. Чалавек, які прайшоў турмы і лагеры, спрачаўся са спеваком камуністычнай эпохі. Спеваком таленавітым і па-свойму шчырым. У нечым пераконваў яго. Ва ўсялякім выпадку, прымушаў сур'ёзна і глыбока задумацца. Ва ўсіх на памяці спавядальны "Маналог", поўны сардэчнага болю "Варшаўскі шлях".

Я стаў міжвольным сведкам таго, як яшчэ ў канцы сямідзесятых у размове са старым паэтам, чыя творчасць была "ідэйна вытрыманай" і зусім "прахадзімай", Бярозкін катэгарычна і жорстка сказаў: "Труха! Няўжо ты не бачыш, што — труха?"

Трэба аддаць належнае гэтаму паэту. Ён, — вядома ж, глыбока пакрыўджаны, — не стаў спрачацца. Болей за тое! Ён, адзіны з усіх нас, праводзіў Рыгора Саламонавіча дадому (размова была ў бары) і ні разу не папракнуў яго за прамату і рэзкасць. А, мяркуючы па вершах, напісаных у апошнія гады жыцця, па-мойму, штосьці зразумеў...

Але Бярозкін умеў не толькі крытыкаваць ва ўсеўзбраенні свайго цяжкага жыццёвага вопыту, бездакорнага густу і тонкага разумення паэзіі. Ён, як ніхто другі, умеў захапляцца і радавацца з'яўленню ў ёй усяго свежага і таленавітага. Падобна Стасаву, які ўсклікнуў пасля шаляпінскага дэбюта ў Піцеры: "Радасць невымерная!", Рыгор Саламонавіч у сваіх артыкулах, выступленнях, асабістых гутарках гучна загаварыў аб незвычайнасці таленту маладога Рыгора Барадуліна, прадказаў яму яркі паэтычны лёс. Бурна падтрымаў ён і першыя крокі ў паэзіі цяпер шырокавядомага Ігара Шклярэўскага. Убачыў яркую з'яву ў перакладзе "Песні пра зубра", зробленым Язэпам Семяжонам. Міма яго ўвагі не прайшла ніводная хоць колькі значная падзея ў беларускай паэзіі.

Адным з першых разгадаў Бярозкін даволі своеасаблівы паэтычны талент Мішы Стральцова, нашага цудоўнага празаіка.

Я помню працяглую гутарку ў тых Каралішчавічах пасля таго, як Міша даволі нясмела прачытаў яму некалькі вершаў. Рыгор Саламонавіч па сваёй звычцы зрабіў шэраг крытычных заўваг, а потым настойліва пераконваў Стральцова прадаўжаць паэтычныя доследы — "У вас павінна атрымацца! Павінна!"

І сапраўды, у яго атрымалася. І яшчэ як!

●

...У канцы кожнага года — І снежня — мы, сябры Грышы, прыходзім на ягоную магілу. У апошні раз нам усім здалося, што яго бронзавы твар пастарэў. Што ж, гады бяруць сваё. І ўсё-ткі ўвесь ён — з яго кнігамі, думкамі, тэмпераментам, яго душой, раскаванай і патрабавальнай, — ён сярод нас, у нашым нялёгкім сённяшнім часе.

Ёсць штосьці сімвалічнае ў тым, што юбілей Бярозкіна мы адзначаем у доме Купалы (тое, што не змаглі зрабіць гэта ў Доме літаратара, — другое, хваравітае і вострае пытанне, якое па-свойму характарызуе гэты час). Бо Купала — спрадвечная і гарачая любоў Рыгора Саламонавіча, а яго творчасць — прадмет грунтоўных даследаванняў і штудый крытыка. Ён нямала зрабіў дзеля таго, каб раскрыць складаны, шматгалосы і шматколерны свет Купалы, каб яшчэ ў гады перамогі хлуслівых канцэпцый і замоўчвання ісціны падвесці ўдумлівых чытачоў да разумення трагедыі народнага песняра, які задыхаўся ў ідэйным ГУЛАГу.

Справядліва кажуць, што гісторыя не ведае ўмоўнага ладу. Не ведае гэтага ладу і закончанае чалавечае жыццё. Але чалавек, які шчодра аддаваў сябе людзям, заплаціў невымерна высокую цану за вернасць сваім дэмакратычным перакананням і незалежным поглядам, за ўсё, што было для яго дарагім і святым, — нібы праецыруе гэта сваё жыццё на шмат гадоў наперад. Ён — нават пайшоўшы ад нас — прадказальны з вышэйшай ступенню верагоднасці.

Так, можна ўпэўнена сказаць: Бярозкін ведаў бы і цяпер, "в каком идти, в каком сражаться стане". Ён рашуча і бескампрамісна (ні пра што і ні ў каго не просячы) змагаўся б за адраджэнне і сцвярджэнне беларускай нацыянальнай культуры і кідаў бы меткія крытычныя стрэлы ў яе праціўнікаў, — бо душу сваю паклаў за тое, каб літаратура наша вызвалілася з жорсткіх ідэалагічных і адміністратыўных путаў, набыла свой свабодны, чутны паўсюдна голас. Ён не стрываў бы, каб літаральна праз дарогу ад яго дома адкрыта, нахабна і зусім беспакарана прадавалі гнюсныя, адкрыта прафашысцкія, прапітаныя ядам чалавеканенавісніцтва і махровага антысемітызму лісткі — усе гэтыя "Лимонки", "Русские вестники", "Черные сотни"... Ён цвёрда выказаў бы сваю думку з нагоды грубых нападак органа Камароўскага рынку, які на сваёй базарнай мове вось ужо другі раз у гэтым месяцы аплёўвае паважаных і сумленных беларускіх пісьменнікаў (некаторыя з іх былі заўважаны і падтрыманы яшчэ Бярозкіным!), якія ўдзельнічалі ў гадавіну нараджэння Алеся Адамовіча ў семінары на вельмі актуальную для нашай інтэлігенцыі тэму: "Свабода і адказнасць". І ўжо напэўна ён, былы франтавік, не прыніжаючыся да палемікі, выказаў бы сваю агіду гэтаму ж органу, які выступае супраць тэлеперадач Валянціна Тараса, у якіх той гаворыць праўду пра мінулую вайну, — цяжкую, часам вельмі хваравітую для ўсіх нас праўду, але такую неабходную маладым ды й старым душам.

Адна з кніг Рыгора Саламонавіча называецца "Постаці". "Назваўшы гэтым словам сваю кнігу, — сказана ў прадмове, — аўтар мае на ўвазе абодва яго значэнні: постаці беларускіх паэтаў розных часоў, а таксама іх месцы на той гістарычна "доўгай" ніве, што завецца беларускай культурай".

На гэтай сімвалічнай ніве я бачу і нашага сябра. З узнятай горда галавой, з непаўторным святлом у разумных, журботных вачах, якія бачылі далёка, з характэрным яму натуральным і прыцягальным артыстызмам...

Без гэтай высокай "постаці" ніва беларускай культуры была б няпоўнай.

**Аляксандр ДРАКАХРУСТ**

ЛіМ ЧАСАПІС

# Знайсці сваю жар-птушку

**Здавён славілася наша Падняпроўе сваімі ўмельцамі. Усе лепшае, што створана іх залатымі рукамі, — гэта сапраўдныя самацветы мастацтва. На жаль, многія рамёствы не захаваліся ў сваім першапачатковым выглядзе. Але ўсё тое, што адраджаецца і ўжо жыве, можа сказаць пра сябе: "Яшчэ ёсць порах у парахаўніцах!".**

**Дзякуючы абласному цэнтру народнай творчасці (у прыватнасці, вядучаму спецыялісту па дэкаратыўна-прыкладным мастацтве Л. Весяловай) ствараюцца і плённа працуюць у вобласці дамы і цэнтры народных рамёстваў, праводзяцца выстаўкі лепшых работ народных майстроў. Цяпер на агляды прадстаўляюцца амаль усе віды народнага мастацтва: вышыўка і ткацтва, разьба па дрэве і бяросце, драўляная скульптура, пляценне з саломкі і лазы, карункапляценне, інкрустацыя саломкай, тэкстыльная мазаіка, ганчарства, мастацкая кераміка, мастацкая апрацоўка дрэва і каменя, жывапіс наіўнага мастацтва. Так, напрыклад, на апошняй абласной выстаўцы было прадстаўлена больш за 370 такіх работ.**

**— Вельмі прыемна, — адзначыла Ларыса Васільеўна, — што на выстаўках усё часцей праходзяць прэзентацыі майстроў, якія ўпершыню ўдзельнічаюць у такім шырокім паказе.**

**Вось і на апошняй выстаўцы былі новыя імёны. Адно з іх — Аляксандр Пракоф'еў з Клімавіч. Гэты майстар займаецца разьбой па бяросце. Яго шкатулкі, сальнічкі, падсвечнікі ўпрыгожаны розным раслінным арнаментам, нібы карункамі. Цікавыя работы А. Пракоф'ева з бярозы-чачоткі. Яны маюць вельмі прыгожую тэкстуру.**

**Нельга ўявіць ганчарнага рамяства на Магілёўшчыне без бабруйчан Паула Вялічкі, Сяргея Лугіна і Юрыя Боўды. Апошняму за мастацкую кераміку быў прысуджаны "Гран-пры" на сёлетнім "Славянскім базары ў Віцебску".**

**Глыбокія і слаўныя традыцыі на Магілёўшчыне разьбы па дрэве. Цікава працуе ў гэтым жанры магіляўчанін Леанід Грышын з сынам Ігарам. Нядаўна да разьбы далучыўся дваццацігадовы Руслан Еўстраценка, але на апошнюю выставу ён прадставіў шматабяцаючыя работы: куханны набор, а таксама цудоўную раму для люстэрка.**

**Цэласнасцю і гарманічнасцю адзначаны работы разбяра з Магілёўскага раёна Аркадзя Рослава. Вядомы ён і як аўтар драўляных скульптур.**

**Адным з яркіх жанраў у вобласці з'яўляецца саломапляценне. Прыцягальная сіла ў работ, якія стварыла Марыя Расланоўска. Асабліва запамінаюцца яе кампазіцыі "Сям'я" і "Лебядзінае возера". Па-ранейшаму плённа працуюць старэйшыя саломапляцельшчыцы Падняпроўя магіляўчанкі Кацярына Арцёменка, Надзея Панцялеева і Таццяна Хадановіч. Яны выкарыстоўваюць вобразы каня і птушкі — асноўныя вобразы фальклору і народнага мастацтва.**

**У іншым плане працуе майстрыха з гарадскога пасёлка Круглае Ганна Саланінка. Яе работы блізкія да наіўнага, інсітнага напрамку ў мастацтве. Работы Г. Саланінкі лёгка пазнаеш па той свабоднай пластыцы, якая характэрна толькі для яе творчасці. Майстрыха ўдала звяртаецца да так званай прапрацоўкі рук. Яе кампазіцыя "На сенакос" выклікала ўсеагульнае захапленне.**

**Вялікай папулярнасцю карысталіся работы майстроў Магілёўшчыны і на рэспубліканскай выстаўцы, якая праходзіла ў рамках фестывалю "Беларусь - мая песня". Шэсць з іх сталі лаўрэатамі. Гэта тая ж Ганна Саланінка, разбяр Пётр Мароз з Мсціслава, магілёўская саломапляцельшчыца Надзея Панцялеева, лозапляцельшчык Станіслаў Афонькін з Быхаўскага раёна і Тамара Багдановіч з Горак і краснапольскі мастак Аляксандр Луцук, які захапляецца наіўным мастацтвам.**

**Кожны з іх і многія іншыя ўжо здабылі пяро жар-птушкі ў сваёй творчасці. А той, хто знайшоў пяро, можа зславіць і самую цудоўную птушку.**

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

ВАНДРОЎКІ

# Палову зямлі і палову неба...

## Аўтабан

— Дзіўны народ, гэтыя немцы, — даносіцца з аўтобуснага мікрафона. — Спачатку яны будуюць масты, а пасля падцягваюць да яго дарогу.

Мы няспешна рухаемся па трэцяй, крайняй паласе аўтабана (ад *Bahn* — дарога). Першая для тых, хто імчыцца з хуткасцю пад 200 і болей, па другой едуць "умераныя", недзе пад 150 км у гадзіну. Германія — адзіная ў свеце краіна, дзе ёсць участкі шашы з неабмежаванай хуткасцю руху, і адна з нямногіх, дзе вадзіцель за рулём можа дазволіць сабе два куфлі піва. Еўрапейская супольнасць неадназначна ставіцца да такой свабоды.

Наш аўтабан з'яўляецца часткай трасы Парыж—Берлін—Брэст—Мінск—Смаленск—Масква. На нямецкай тэрыторыі то там, то тут вядуцца будаўнічыя работы. Утрымліваць свае дарогі ў ідэальным стане — гэта, здаецца, "пункцік" германскіх уладаў.

— Праз 200 метраў вы ўбачыце рэшткі мяжы паміж дзвюма Германіямі, — працягвае экскурсавод. — З боку Усходняй тут былі мінныя палі і аўтаматычныя кулямётныя ўстаноўкі, выкарыстоўваліся нават радыеактыўныя сродкі праверкі грузаў, і хворыя вадзіцелі цяпер падалі ў суд, патрабуюць кампенсацыі...

Калі захоўваць дакладнасць, то ў нас няма экскурсавода; яго функцыю ўзяў на сябе рэферэнт Міжнароднага адукацыйнага цэнтра (IBB). І едзем мы ў Зямлю Паўночны Рэйн-Вестфалія зусім не на экскурсію. У зручным турыстычным аўтобусе размясціліся дзве групы. Адна — з пажылых людзей, запрошаных у Мюнстэр на адкрыццё выставы, прысвечанай злачынствам Вермахта (гэта былыя вязні, якія дзецьмі зведалі жахі гета і канцлагераў). Другую складаюць жанчыны (у тым ліку і карэспандэнт "ЛіМа"), а сфарміравала яе старшыня Хрысціянска-дэмакратычнага жаночага руху, дырэктар Жаночага адукацыйна-кансультацыйнага цэнтра пры IBB *Людміла Пеціна*.

Падсуседзілася да нас і моладзь — юныя сацыял-дэмакраты ехалі па абмене. А тэлегрупа з маскоўскай праграмы "Совершенно секретно" (ОРТ) мела намерам зняць сюжэт пра нямецкага пісьменніка Курта Клейна, які чатыры гады адбыў ваеннапалонным у адным з сібірскіх лагераў, а пасля шмат гадоў працаваў у ідэалагічнай службе Бундэсвера.

Такім чынам, наш аўтобус прадстаўляў амаль усе ўзроставыя пласты грамадства. Тэлевізійнікі адразу за польскай мяжой у гонар знаёмства выставілі скрыню піва і прапанавалі паглядзець відэафільм "Союз нерушимый". З яго вынікала, што Савецкі Саюз развалілі ЦРУ і Р. Рэйган. Піва толькі бліснула, а вось фільм да канца так і не даглядзелі: вельмі ж далёкімі і неактуальнымі падаліся нам праблемы "аб'яднальнікаў".

Віктар Фёдаравіч Балакіраў, кіраўнік старэйшай групы, між тым працягвае сваю імправізаваную лекцыю:

— Славутыя нямецкія аўтабаны — крывяносныя сасуды Германіі, па іх адбываецца 70 працэнтаў усіх грузаперавозак. Паабапал вы бачыце высокія суцэльныя агароджы; яны паглынаюць дарожны шум і тым аберагаюць спакой жыхароў блізразмешчаных сёл. Вы ўяўляеце, якія грошы патрачаны на тое, каб спакойна спалі баўэры?

Баўэраў, праўда, нідзе не відаць. Адзін праехаў на падводзе, другі араў трактарам палетак, а ў асноўным на дагледжаных палях поўнае бязлюддзе. Яшчэ не выбраны буракі ды не звезены качулкі высушанага сена. Непаўторнасць пейзажу надаюць беласнежныя спічастыя ветракі — альтэрнатыўныя крыніцы энергіі. Ёсць, дарэчы, план адзін такі вятрак устанавіць у Мінску на тэрыторыі IBB.

Збоку застаўся Берлін. Федэральны прэзідэнт ужо перабраўся сюды, а для федэральнага канцлера лепшыя архітэктары краіны стварылі праект асобнага квартала, так што "пярэбары" адбудуцца пазней. Сталіца ФРГ аж на тысячу кіламетраў наблізіцца да Мінска. Кажуць, што нашы ўжо шукаюць там асабнячок для дыпламатычнай службы. Галоўнае, каб за гэты час у асабнячку не адпала патрэба: нямецкі пасол, як і іншыя, пакуль што "на вакацыях", а беларускага з Бона "папрасілі".

## Жанчыны ў палітыцы: 20 год актыўнасці

Германія рыхтавалася да выбараў у Бундэстаг. І паблізу шашы, і ў самім Дортмундзе віселі аднаго ўзору каляровыя партрэты кандыдатаў. Усмешлівыя, упэўненыя ў сабе, камунікабельныя людзі — так выглядалі усе, хто змагаўся за дэпутацкі мандат. Сярод іх нямала жанчын. Для іх сацыял-дэмакратычная (SPD), вядучая партыя Германіі, устанавіла саракапрацэнтную квоту. У Саюза хрысціянскіх дэмакратаў (CDU) квота таксама ёсць, але меншая. "Зялёныя" пайшлі далей за ўсіх: яны прытрымліваюцца прынцыпу "маланкі", г. зн. адзін на адзін. Раўнапраўе мужчын і жанчын у грамадстве абвешчана Канстытуцыяй 1949-га года, у 94-ым было запісана, што дзяржава павінна садзейнічаць ф а к т ы ч н а м у раўнапраўю.

З дэпутатам ландтага ад Дортмунда Гердай Кенігер мы сустрэліся ў самім будынку зямельнага парламента ў Дзюсельдорфе. Агромністы сучасны комплекс на беразе



Рэйна паспелі ўзвесці да аб'яднання, калі эканамічная сітуацыя была больш стабільнай. Фрау Кенігер рыхтуецца ўзначаліць камісію па справах жанчын ад SPD. Яна *расказвае*, што да нядаўняга часу існавала адпаведнае міністэрства, але пасля змены кіраўніка ўрада адбылася рэформа, з 12-ці дэпартаментаў засталося 8, і да жаночай праблематыкі далучылі дзяцей і моладзь. Адстойваць правы жанчын стала складаней, тым не менш, работа ў гэтым кірунку не спыняецца. Кожная абшчына лікам звыш 40 тысяч выбірае свайго дэпутата-жанчыну, кожнае міністэрства мае ўпаўнаважаных, якія кантралююць пытанні працаўладкавання і прадстаўніцтва жанчын ва ўладных структурах. Асноўныя кірункі дзейнасці згаданай камісіі Ландтага на сённяшні дзень — жанчына ў тэхнічнай сферы і адаптацыя перасяленцаў. Сацыяльная падтрымка насельніцтва структуравана: існуе цэлы комплекс мер па падтрымцы жанчын. Сярод іх жаночыя прытулкі, начлежкі і кансультацыйныя цэнтры. Усё гэта на 90 працэнтаў фінансуецца з федэральнага бюджэту і *знаходзіцца пад апекай* царквы.

Хтосьці з нашай групы задаў пытанне наконт бамжоў, якія даволі часта трапляюцца на вочы (і досыць камфортна пачуваюць сябе на газонах, ахінуўшыся коўдрамі). Аказалася, што людзі без пастаяннага месца жыхарства могуць у любым горадзе, дзе б ні знаходзіліся, атрымліваць штодзень дапамогу. Іншая справа, што грошы больш трацяцца на алкаголь і наркотыкі, чым непасрэдна на жыццё.

Цікавіла нас і тое, як выпрацоўваюцца жаночыя праекты — на аснове вопыту іншых краін ці самастойна. Дэпутатка спаслалася на пекінскую платформу і не адмовіла факту вучобы ў іншых. Скажам, прадстаўніцы камісіі выязджалі ў ЗША, каб азнаёміцца з вырашэннем праблемы занятасці. Доказам эфектыўнасці працы камісіі і іншых такога роду структур з'яўляецца тое, што ў рэгіёне маюць месца скаргі дужай паловы, якая звычайна цалкам задаволена сваім становішчам і не жадае змен.

Адносна клопату пра фактычнае раўнапраўе прывядзём такую вось цікавую дэталь: па лініі зямельнага міністэрства культуры ёсць рашэнне ў любое журы абавязкова ўводзіць жанчын. Кожныя два гады праводзіцца жаночы базар у Дортмундзе (так *званы* ТОП). *Шырока* адзначаецца і суправаджаецца шэрагам грамадскіх акцый свята 8 Сакавіка — Фраўэнтаг. Праводзяцца таксама тыдні жаночага кіно. Апошняя інфармацыя найбольш зацікавіла нашых "кіношніц" — стваральніц жаночай кінастудыі "Таццяна", аўтараў звыш 50-ці фільмаў Элу Мілову і Ірыну Пісьменную. Яны не толькі ўдзельнічалі ў размовах, але і старанна занатоўвалі на плёнку ўсе нашы сустрэчы.

Фрау Кенігер, як чалавек заняты, часцяком пазірала на гадзіннік: яна пакінула дзеля нас нейкае паседжанне. Нашмат больш часу ўдзяліла актывісткам жаночага руху з Беларусі старшыня парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр. Гэта была неафіцыйная сустрэча ў Райна, дзе прысутнічала мясцовая адміністрацыя.

Сутонела. На стале гарэлі свечкі, што стварала нейкую асаблівую, сцішана-ўрачыстую атмасферу. Мы чакалі гэтай сустрэчы, як ніякай іншай, і разумелі яе значнасць. *Фрау Фішэр праявіла цікавасць не толькі да* хрысціянска-дэмакратычнага жаночага руху, але і да тых, хто ўваходзіць у склад групы. Можа, таму інтэлектуальны ўзровень, кампетэнтнасць і нават аратарскія здольнасці маіх таварышак там выявіліся як нідзе. Вялі рэй Л. Пеціна, І. Бугрова, І. Багдановіч. Л. Фішэр з нечым пагаджалася, пра нешта мела сваю думку і не хацела яе мяняць. Усё сказанае гэтай незвычайнай жанчынай сведчыла пра поўную абазнанасць адносна палі-

тычнай сітуацыі ў Беларусі. Яна не мае ілюзій наконт бліжэйшай будучыні маладой еўрапейскай суседкі і лічыць, што два парламенты — гэта ненармальна. Мы са свайго боку нагадалі, што, акрамя дзяржаўных, у нашай краіне існуе шэраг грамадскіх арганізацый, якія ўспрымаюцца ўладамі як апазіцыйныя і не маюць спрыяльных умоў для дзейнасці. Варта параўнаць: у Беларусі 20 недзяржаўных жаночых арганізацый, і да іх ставяцца з насцярожанасцю, а ў адным толькі Дортмундзе такіх арганізацый 160, і гэта ў парадку рэчаў.

На развітанне Л. Фішэр падаравала нам сцяг Еўропы, і гэты момант быў "увекавечаны" на здымку.

Уразіла нас і яшчэ адна жанчына-палітык — бургамістр Менгедэ, аднаго з раёнаў Дортмунда. Рут Йокінг — шакаладнага загару прыгажуня з іскрынкамі сівізны ў смольнай грыве, маці дзвюх дачок, фізіятэрапеўт па прафесіі. Па яе прызнанні, яна лёгка сыходзіцца з людзьмі, што лічыць сваім плюсам. Рут у SPD адносна нядаўна, з 92-га года, але ўжо зрабіла кар'еру — узначальвае акружны савет раёна.

— Што прывяло вас у палітыку? — пытаемся мы. — Мяркуючы па нашых рэаліях, у палітыку ідуць, каб вырашаць уласныя праблемы або праблемы пэўных груп.

— Ёсць людзі, якія жывуць адно для сябе, якія прывыклі браць. З цягам часу я і па сабе стала заўважаць, што належу да кола спажыўцоў, як і многія мае аднагодкі. Яны па сутнасці не ведаюць, што рабіць з падарункам дэмакратыі. Так што мяне прывяло ў палітыку пачуццё адказнасці за тых, хто толькі расце і каму належыць будучыня Германіі. Палітыка ў вачах грамадскасці занадта ананімная, абязлічаная, — працягвае фраў Рут. — Роля лідэра важная тым, што за ім ідуць людзі.

Рут Йокінг расказала пра "сціплую муніцыпальную палітыку", пра структуру і функцыі акружнога савета, пра тое, як прымаюцца і праводзяцца ў жыццё рашэнні і размяркоўваюцца бюджэтныя сродкі.

Шмат увагі савет удзяляе ўзроўню жыцця, колькасці месцаў у дзіцячых садах і школах, жыллёвым умовам, праблемам перасяленцаў — туркаў, якія жывуць і працуюць тут дзесяцігоддзямі, не атрымліваючы грамадзянства, і "рускім немцам" з былога СССР. Паміж партыйнымі фракцыямі савета нярэдка ўспыхваюць дыскусіі. Напрыклад, калі адна прапануе штосьці будаваць, то другая — часцей "зялёныя" — паўстае супроць знішчэння дрэў. Пра "зялёных" многія гавораць з пэўнай доляй скепсісу; тыя не баяцца экстравагантных мер барацьбы за экалогію: у паляўнічых хатак падчас сезона падпілоўваюць апоры.

Нямногія з мужчын, з кім выпала сустрэцца, аказаліся якраз прадстаўнікамі гэтай партыі. Сярод іх прафесар Кенлайн, спецыяліст па ўздзеянні на арганізм малых дозаў радыяцыі, і афіцэр Бундэсвера Петэр Маслоф, які ўзначальвае антыядзерны рух акруга Штайнфурт.

Увогуле ж наша праграма была скіравана ў феміністычны бок, і паехалі мы не на "агледзіны", як пісала адна маладая журналістка, а дзеля знаёмства з жаночымі арганізацыямі Германіі, дзеля вучобы, дзеля будучых кантактаў і сумесных праектаў. Па ўзроўні свядомасці і становішчы ў грамадстве мы адстаём ад нямецкіх сяброўак гадоў на трыццаць. Як сказала адна з іх, "калі з намі лічыцца дзяржава, то не таму, што яна такая добрая; мы дабіліся гэтага за 20 год актыўнасці". Будзем жа памятаць, што пад ляжачы камень вада не цячэ...

## Цэнтры, саюзы, школы. Ініцыятыва знізу

Апавешчанае заканадаўствам раўнапраўе полаў існавала б у ФРГ толькі на паперы, калі б не былі створаны спецыяльныя дзяржаўныя інстытуты, у тым ліку так званыя Жаночыя бюро. Звыш дзесяці год існуе такое і ў Дортмундзе. Складаецца яно з шасці супрацоўніц, падпарадкоўваецца адміністрацыі мэрыі і мае ў ратушы — Ратхаўзе — свой офіс. Узначальвае бюро ўпаўнаважаная па справах жанчын, спрыяць іх актывізацыі ў сферы ўпраўлення — вось мэта ўстановы. Дзеля гэтага распрацавана спецыяльная праграма. У склад камісій, якія праводзяць конкурсы на вакантнае месца, заўсёды ёсць прадстаўніцы бюро. Яно ж вывучае колькасныя паказчыкі. Згодна з імі, з 95-га года пайшла ўгару лічба ўдзелу жанчын ва ўпраўленчых структурах горада. 21 — працэнт, на першы погляд, невялікі, але і такога дасягнулі цаной значных намаганняў. Абудзіць самасвядомасць жанчыны, растлумачыць яе правы і магчымасці, даць веды, павысіць прафесійны ўзровень — адным словам, дапамагчы знайсці сваё месца ў соцыуме — справа не простая. Гэтай мэце служаць разнастайныя цэнтры, школы, курсы, грамадскія саюзы. Усе яны падтрымліваюцца дзяржавай і толькі часткова самаакупныя.

Жаночы цэнтр у рабочым раёне, які наведала дэлегацыя, навучае ўсіх жадаючых прафесіі "догляд за сям'ёй". Нязвыкла для нашага вуха, праўда? Між тым прафесія гэтая існуе ў ФРГ з 48-га года і адрэгулявана на заканадаўчым узроўні. Уявім такую сітуацыю: цяжка захварэла маці траіх дзяцей, трэба класціся ў бальніцу, а мужа няма, родзічы далёка. Хворая звоніць у цэнтр, адтуль прысылаюць работніцу, якая дагледзіць, пакорміць дзяцей, дапаможа падрыхтаваць урокі, прыбярэ ў доме, закупіць прадукты. Разлік з ёй адбываецца праз бальнічную касу (сістэма медыцынскай страхоўкі). Калі ёсць патрэба, тры такія работніцы зменяць адна адну на працягу сутак.

Мы пацікавіліся, як узнікла задума падобнага цэнтра. "Вельмі проста, — адказалі нам. — Сабраліся прыяцелькі, стварылі саюз, узялі ў арэнду былую краму і адкрылі курсы". Накірунак дзейнасці з цягам часу змяніўся, праект быў падтрыманы і стаў ажыццяўляцца ў рамках федэральнай праграмы па стварэнні новых працоўных месцаў. Цяпер у цэнтры адначасова і вучаць, і працаўладкоўваюць, г. зн. прымаюць заказы на догляд за хворымі, суправаджэнне старых, апеку ў доме састарэлых і да т.п. плюс кансультацыі для беспрацоўных і ўсемагчымыя гурткі тыпу "Зрабі сам" альбо "Язда на веласіпедзе". (Апошняе, да слова, стала папулярным, і ровараў на вуліцах вялікае мноства.) Падлічана, што догляд траіх дзяцей у дзіцячым доме (у выпадку, калі адзін з бацькоў пазбаўлены правоў) каштуе за месяц 20 тысяч ДМ, а ўтрыманне сацыяльнага работніка "цягне" на 5 тысяч.

Іншага плана навучанне ажыццяўляецца на курсах пры універсітэце Дортмунда. Гэта своеадметны, адзіны ў сваім родзе праект. Расказвае кіраўніца курсаў Гізэла Шцімут:

— Да нас ідуць жанчыны ва ўзросце ад 30 да 50 год, якія маюць вопыт практычнай работы ў грамадскіх арганізацыях, партыях, царкоўных абшчынах. Мы прымаем без экзаменаў, плата адносна невысокая. Каб навучэнкі паядналі практыку з тэорыяй, навучанне ідзе ў трох кірунках:

1/. Аналіз феміністычнай літаратуры, крытыка патрыярхальнага ладу і навукі з пункту гледжання жанчыны;

2/. Веды ў галіне культуры і палітыкі;

3/. Навучанне арганізацыйнай рабоце (менеджмент).

Пытанняў да фраў Шцімут найбольш паступіла ад выкладчыцы Жаночага недзяржаўнага інстытута "Энвіла", заснавальніцы гендэрнага цэнтра пры ім Ірыны Чыкалавай. Яна прапанавала школе супрацоўніцтва і абмен вопытам.

На перадапошні дзень візіту прыпала гутарка ў Цэнтры па падтрымцы занятасці жанчын. Цэнтр працуе з тымі, хто па той ці іншай прычыне страціў кваліфікацыю, альбо з жадаючым завесці ўласную справу.

— Пачыналі з двух пакояў, — апавядае Альма Вальтэр, — а зараз камп'ютэрамі запоўнены два памяшканні. Штодзённа не менш 8-10 жанчын звяртаюцца па дапамогу. Хаця пра нас па першым часе і гаварылі, што тут "п'юць каву і балбочуць"...

За 15 год існавання цэнтр даказаў сваю эфектыўнасць. Сярод шматлікіх яго платных і бясплатных праграм самая доўгатэрміновая "Жанчыны і бізнес". Існуе курс уводзінаў у прафесію. Жанчын вучаць упэўненасці ў сабе, камунікабельнасці — што, згадзіцеся, не лішне ва ўмовах росту беспрацоўя. Цэнтр падтрымлівае сувязі з біржай працы, з фірмамі і прадпрыемствамі. Установа гэта дабрачынная, і мець прыбытак ёй не дазваляецца.

## Як вярнуць Еву ў рай?

Так называецца адна з частак трылогіі згаданых Э. Міловай ды І. Пісьменнай, і назва гэтая як нельга лепш пасуе да таго, пра што пойдзе гаворка ніжэй. Нямецкае грамадства цярпліва працуе не толькі з маламаёмаснымі і няпоўнымі сем'ямі, але і з маргіналамі. З жанчынамі, як вы зразумелі, — асобна. Доказам таму — існаванне спецыяльных прытулкаў і начлежак. Жаночыя прытулкі строга засакрэчаны, пра іх месцазнаходжанне, кажуць, не ведае нават сам бургамістр. Сюды можа сысці маці сямейства (адна ці з дзецьмі), калі з яе здзекуецца муж. Максімальны тэрмін пражывання — два месяцы. За гэты час сітуацыя даследуецца псіхолагамі і юрыстамі, спадае напружанасць канфлікту, вымалёўваюцца перспектывы на будучае.

Начлежкі для бяздомных выглядаюць куды прэстыжней, чым нашы рабочыя інтэрнаты. Там чысціня і парадак, халадзільнікі з секцыямі і пральныя машыны. Тут ахвочая да перамены месца (часта з псіхічнай паталогіяй) кабета можа адпачыць, памыцца, набрацца сіл для новага кідка "ў нікуды".

Варта распавесці і пра так званую Паўночную місію. Справа ў тым, што да ўласнай гадоўлі "жрыц кахання" далучыліся шматлікія ваяжоркі з блізкага замежжа (у пераліку краін часцей фігуруюць Польшча і Украіна). Пра гэтую праблему нам падрабязна расказалі ў адпаведным аддзеле дортмундскай паліцыі. У кампетэнцыі аддзела з 15 супрацоўнікаў абодвух полаў — гандаль жанчынамі, гвалт над дзецьмі, дамаганне непаўналетніх ды іншыя падобныя злачынствы. Па новым законе — яшчэ і насілле над жанчынай у сям'і. У ахоўнікаў парадку клопатаў хапае. У адных толькі афіцыйных бардэлях горада працуе да 200 прастытутак у тры змены, не кажучы ўжо аб прытонах (часта пад выглядам масажу) і розных спецыфічных клубах, куды заглядваюць нават сямейныя пары. Прадстаўніц самай старажытнай прафесіі судзіць немагчыма, адно што "нелегалак" можна, дапытаўшы, дэпартаваць на "гістарычную радзіму". Прастытуткі з Усходняй Еўропы, якія трапілі ў паліцыю, звычайна маўчаць і нікога не выдаюць. Тыя ж з мясцовых, што раскаяліся і выступаюць як сведкі на судовых працэсах, якраз і трапляюць пад апеку Паўночнай місіі. Ім дапамагаюць набыць прафесію і працаўладкавацца.

## Кірхентаг адрадзіў Германію

Тое ж балючае пытанне — фактычная роўнасць полаў — хвалюе і прадстаўніц евангелічнага кліра, толькі ўжо на вышэйшым, багаслоўскім узроўні. Дыскрымінацыя жанчын як з'ява нідзе мо не выяўляецца так выразна, як у царкве. Жанчыне дазвалялася быць пакутніцай, манашкай і святой, дапусціць яе да набажэнства — не, гэта ўжо занадта. Толькі ў 20-ых гадах нашага стагоддзя жанчынам дазволілі вывучаць тэалогію і выкладаць яе ў школах, але вікарыят для іх яшчэ доўга быў закрыты. У 30-ых гадах царква Германіі раскалолася. Адна частка духавенства пайшла за нацыянал-сацыялістамі, другая стала ў апазіцыю да гітлераўскай улады. Менавіта другая, прагрэсіўная частка лютэранскай царквы і прызнала, што падрыхтаваная жанчына мае права працаваць пастарам. Пасля Другой сусветнай вайны, калі з фронту вярнуліся свяшчэннаслужыцелі, удзел жанчын у набажэнстве сфармулявалі так: п р ы н е а б х о д н а с ц і. Акрамя таго, пастаркам доўга не дазвалялася выходзіць замуж, ім менш плацілі. Афіцыйна раўнапраўе ў гэтай сферы прызнана толькі 20 год таму.

Гісторыю пераадолення грамадскіх прымхаў мы пачулі ў жаночым аддзяленні евангелічнай царквы Вестфаліі ад пастарак Хані Бертхальд і Хэйкі Шэрэр. Нашы выкладчыцы вышэйшай школы, як заўсёды, "капалі глыбака".

— Ці існуюць супярэчнасці ў канцэптуальнай аснове хрысціянства, якія спрыялі прыніжанаму становішчу жанчыны ў сям'і і грамадстве? — пацікавілася палітолаг Ірына Бугрова.

Ёй адказалі, што ў Святым Пісанні ёсць моманты, якія традыцыйна трактуюцца скажона. Міф пра Адамава рабро прыдуманы, несумненна, мужчынамі. Жанчыны-багасловы спецыяльна адшукваюць і вывучаюць такія моманты. "Насілле супроць жанчыны" — адна з тэм, якія абмяркоўваюцца ў евангелічнай царкве. Існуе тры ўзроўні вырашэння праблемы: дыяканічны (канкрэтная дапамога); унутрыцаркоўны (заўважаны выпадкі, калі святары злоўжывалі сваім службовым становішчам) і тэалагічны (даследаванне таго, калі хрысціянства дапусціла магчымасць дыскрымінацыі жанчыны). Выпускаецца газета *"Бэзавыя старонкі"*. (Бэзавы колер — гэта колер феміністычнага руху.)

Мае веды пра Лютэра і створаную ім царкву папоўніла Альмут Зайферт — пастарка, у якой мне выпала кватараваць. Яе муж Рудзігер служыць па суседстве ў кірсе Св. Варфаламея, адна з дачок вывучае багаслоўе ў Амстэрдаме. Сама Альмут працуе пры бальніцы, а таксама кантактуе з рускамоўнымі перасяленцамі. Рускую мову, як і англійскую, французскую, яна ведае няблага, неаднаразова прыязджала на Беларусь з дабрачыннай місіяй. Летась пабывала на Нарачы, але зусім не дзеля адпачынку: там на сродкі лютэран будуецца жыллё для чарнобыльскіх перасяленцаў. Аказвалася дапамога і мінскай царкве Усіх Смуткуючых Радасць, якая толькі ўзводзіцца. Евангелічная царква, як стала вядома, спрычынілася і да будаўніцтва Мінскага IBB. Мясцовы, дортмундскі філіял, выглядае куды сціплей: некалькі пакояў на верхатуры. З ім супрацоўнічае яшчэ адна пастарка, апякунка нашай дэлегацыі Юдзіт Пальма. Гэтая сінявокая дзяўчына рассяляла нас па кватэрах, апоўначы чакала з выездаў, развозіла па дамах, хвалявалася за кожны пункт праграмы. Часам мы падводзілі яе, за што шчыра выбачаемся. Праўда, Юдзіт у штоніках на веласіпедзе і Юдзіт у святочным пастарскім адзенні падчас сінаідальнай службы неяк не злучаюцца ў адну. Мо таму, што нашы святары — асобы строгія і з прыхаджанамі трымаюць дыстанцыю, а псіхалагічныя ўстаноўкі — рэч учэпістая... Думаецца, што інстытут жаночага пастарства ў Германіі дасць свае плады. Самаахвярныя, годныя, сціплыя прадстаўніцы кліра ўплываюць не толькі на бліжэйшае атачэнне, а на ўвесь грамадскі клімат краіны.

...На Кірхентаг у горад Уну паехалі не ўсе, бо пра гэтае царкоўнае свята мала хто з групы ведаў. Звычайна яно ладзіцца раз на два гады ў Ляйпцыгу як агульнагерманскае, гэтае ж мела рэгіянальны характар. Ігнаруючы дажджы, на галоўнай вуліцы горада віраваў народ. Тут дзяўчынак вучаць народнаму танцу, там прадаюць антыкварныя дробязі і ўласныя вырабы (грошы пойдуць на патрэбы царквы), з летняй эстрады гучыць музыка. Але не гэта складае сэнс свята. Галоўнае адбываецца ў памяшканнях: падрыхтавана вялікая праграма дыскусій, і ўдзельнікі групуюцца па інтарэсах. Не менш года ідзе падрыхтоўка Кірхентага, і не падумайце, што на ім можна пабачыць нецвярозых...

Сутнасць і значэнне царкоўнага дня коратка абмалявала Юдзіт Пальма:

— Пасля вайны нямецкі народ застаўся на руінах, ён быў разгублены і дэмаралізаваны. Усе надзеі ўскладаліся на царкву, і менавіта царква выпрацавала прыдатную форму грамадскіх зносін — дзень яднання канфесій, дзень грамадзянскага сумоўя.

Феномен ачышчэння гэтага народа, мне здаецца, у нас як след не ацэнены і не асэнсаваны. Народ, які здолеў пакаяцца, змяніў сябе. (*Пакаянне* — недакладны пераклад грэчаскага слова *метанойя*, што азначае "змяні сябе".) Нагадаю, што для ахвяр фашызму на Беларусі — вязняў канцлагераў і дэпартаваных на працу — Германія выдзеліла 200 мільёнаў марак, пераважная большасць з іх выплачана. І хай не кажуць пра нераўназначнасць кампенсацыі. Савецкі Саюз і ўласным ахвярам не аплаціў належнага...

## "Мы прыехалі працаваць!"

Так раз-пораз напамінала наша кіраўніца, калі мы пачыналі скардзіцца на стому і завялікую шчыльнасць праграмы. Сама яна, трэба прызнаць, з усёй адказнасцю паставілася да нашай місіі. Адзінае, чаго не хапала (прынамсі, мне), дык гэта культурнай праграмы; яе нават не планавалі. Засталася невядомай мясцовая гісторыя, ніводная легенда не прабілася цераз паток дзелавых звестак, ніводнае нямецкае песні не давялося пачуць. Край вуглездабыльнай і сталеліцейнай прамысловасці, славуты Рур не захацеў адкрыцца "з першага погляду". Тым не менш, нам пашчасціла пабываць у фантастычна прыгожым Кёльнскім саборы (цяпер каталіцкім), адведаць на рамесніцкім — пад Сярэднявечча — рынку нейкай безназоўнай смакаты. У сталіцы зямлі Дзюсельдорфе мы любаваліся засмужанай панарамай Рэйна прама з вокан Ландтага, а потым гулялі па набярэжнай. У чынным офісным Боне пабачылі славутае сямігор'е і бюст "бацькі" хрысціянскіх дэмакратаў Адэнаўэра. А яшчэ мы там доўга шукалі малавядомы Музей жанчын, які на самай справе аказаўся мадэрновай мастацкай галерэяй, дзе выстаўляюцца творы выключна прадстаўніц прыгожага полу. На тыя дні галерэя прадстаўляла творы кітаянак (пераважна інсталяцыі), дзве пераважалі фізіялагічныя асацыяцыі і панавала досыць спецыфічная атмасфера.

У акрузе Штайнфурт па жылым, а не музейным палацы-замку нас вадзіла сама яго ўладальніца. Графіня, як і ўсе немкі, сціпла выглядала і проста трымалася. Затое на яе старажытны палац мы патрацілі ўсе свае фотаплёнкі, а яго скляпенні, галерэі, габелены, люстры і бібліятэка рарытэтаў дасюль стаяць перад вачамі.

Пабывалі мы і ў гасцях у архітэктара Ірыны Заслаўскай, каму група абавязана і экскурсіяй, і ўвогуле яркімі ўражаннямі дня. Ірына і яе муж-мастак Берхард Алерс — з тых захопленых рамантыкаў, для каго не існуе нерэальных планаў. Іх праект дзіцячай вёскі для Беларусі стаў прызёрам міжнароднага конкурсу 95-га года. У аснову праекта пакладзены малюнкі нашых дзяцей-сірот, яны ж змайстравалі макет. Пад гэты сумесны нямецка-беларускі праект выдзелена нават зямля пад Ждановічамі, затрымка за грашыма. Пакуль што не знайшлося фундатара, і ў дзівосным, падобным на ступеньчатую гару комплексе жывуць адно мары нашай зямлячкі...

А перад самым ад'ездам напаткала нас яшчэ адно свята, мясцовае. Справа ў тым, што Дортмунд складаецца з цэнтра і прылеглых вёсак. Наша мае назву Лютгендортмунд, што азначае "Маленькі Дортмунд" (мы жылі там з медычкай Тамарай Камаровай). Выйшаўшы позна вечарам з эсбана, наземнага метро, мы падумалі, што не туды заехалі: уся плошча і вуліцы былі застаўлены павільёнамі, вагончыкамі, палаткамі, каруселямі, ля якіх мітусіліся гандляры. Маленькі Лютген гуляў раз на год, але не слаба: чатыры дні, з пятніцы па панядзелак уключна. "Будзе шумна", — папярэдзіла нас фраў Зайферт. А пачаўся фэст экуменічнай службай у кірсе: вялі яе па чарзе ксёндз з пастаркай. На жаль, "шумна" нам было толькі адзін вечар. Ужо назаўтра гаспадыня павезла нас у Менгедэ, дзе чакаў родны аўтобус.

А паколькі гісторыя нашай паездкі — гэта ўсё-такі жаночая гісторыя, закончу я свае нататкі паэтычным выказваннем занятай дэпутаткі: "Жанчыны хочуць для сябе палову неба, палову зямлі і палову ўлады. А мужчыны атрымаюць палову зямлі і палову ўлады, палову ж неба ім давядзецца заваяваць".

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
*Дортмунд — Мінск*

ФЕСТЫВАЛІ

**Сёлета ўпершыню творчасць беларускіх кампазітараў была прадстаўлена ў праграме Міжнароднага фестывалю новай музыкі ў Кракаве. Прапануем увазе чытачоў нататкі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Галіны Гарэлавай, якой пашчасціла на некалькі дзён апынуцца ў фестывальнай атмасферы і — у палоне чароўнага горада...**

# У музычным палоне Кракава

Мая любоў да Кракава пачалася даўным-даўно з вершаў Канстанты Ільдэфонса Галчынскага, дзе гэты загадкавы горад прысутнічаў заўсёды. У рускіх перакладах яго паэмы "Зачараваны фіякр" (а адзін з іх належыць Іосіфу Бродскаму) Кракаў паўставаў "серебрянокрышим", "ночным и зеленоватым" і "лился свет притушенный с Мариацкой башни". І казачнай музыкай гучалі для мяне словы: Вавель, Сукеніцы, Барбакан, Марыяцкі касцёл. І мроіўся старадаўні кракаўскі фіякр, сапраўды нібыта зачараваны, якім кіруе які-небудзь пышнавусы і фанабэрысты пан Аношка.

І вось, як нечаканы чарадзейны падарунак лёсу, — запрашэнне з Кракава ад пана Ежы Станкевіча (старшыні кракаўскіх кампазітараў) на фестываль новай музыкі. І запрашэнне не толькі прысутнічаць, але і ўдзельнічаць, бо ўпершыню за дзесяцігадовую гісторыю кракаўскага фестывалю ў яго межах ладзіўся канцэрт з твораў беларускіх кампазітараў.

Канешне, гэты падарунак не зваліўся нам з нябёсаў. Рэч у тым, што ў студзені пан Ежы (па запрашэнні Ігара Лучанка) быў госцем з'езда кампазітараў Беларусі, чуў нашу музыку. А канцэрт, які даваў цудоўны піяніст Алег Крымер, наш польскі госць вырашыў цалкам "перанесці" ў Кракаў, ды яшчэ пашырыць іншымі беларускімі творамі. Такім чынам наш піяніст і некалькі чальцоў беларускага кампазітарскага саюза трапілі ў старажытны горад Кракаў.

Музыка — чароўная, разнастайная — паланіла нас з той самай хвіліны, як падэшвы нашых ног дакрануліся да камянёў кракаўскай бруканкі. Таму што менавіта ў Кракаве разумееш цалкам слушнасць знакамітага выслоўя: архітэктура — гэта застылая музыка. Ды ў Кракаве яна і не застылая — яна жывая: як яна гучыць! І раскошныя саборы, і старажытныя будынкі, і вежы Вавеля, і скляпенні Сукеніц, і каменны пояс Барбакана — гэта цудоўныя акорды велічнай партытуры, слухаць якую і перагортваць старонкі якой хочацца бясконца. А партыю сола ў гэтай партытуры выконвае, зразумела ж, трубач, які кожную гадзіну, і ўдзень і ўночы, з самага высокага акенца Марыяцкай вежы дасылае гораду кранальную ў сваёй прастаце і архаічнасці мелодыю. І ўсе, хто яе слухае, пераносяцца ў тыя далёкія часіны, калі на гарадскіх вартавых вежах ставілі караульных, абавязкам якіх было папярэджваць горад пра набліжэнне небяспекі сігналам трубы. Варожая страла напаткала калісьці трубача Марыяцкай вежы, і ён не дайграў сваю мелодыю. Але ў яго ны гонар і да гэтай часіны гучыць з-пад вытанчаных каменных карункаў вежы меланхалічная самотная мелодыя.

●

Але ж першы дзень гасцявання ў Кракаве падараваў нам і іншую музыку — музыку фестывалю.

"З карабля на баль" мы трапілі на творчую сустрэчу з лідэрам сусветнага кінематографа, польскім рэжысёрам Кшыштафам Занусі. Ён прадэманстраваў два музычныя фільмы: пра кампазітараў Вітальда Лютаслаўскага і Войцаха Кілары і вытанчаную, дасціпную чатырохвхвілінную стужку пра два партрэты пэндзля Леанарда да Вінчы: "Мона Ліза Джаконда" і "Дама з гарнастаем". Паставіўшы ў гэтым мініяцюрным шэдэўры, здавалася б, дзіўнае пытанне: хто прыгажэй — Мона Ліза ці Дама з гарнастаем, рэжысёр праз дасціпныя і нечаканыя (з дапамогай камп'ютэрнай тэхнікі) параўнанні падводзіць рахунак. А менавіта — прыгажэй Дама з гарнастаем. Але таму, што яна знаходзіцца не ў Луўры, як Мона Ліза, а ў Кракаве (у музеі Чартарыйскіх), сімвалам жаночай прыгажосці лічыцца Джаконда. А значыць няма рацыі ў прымаўцы, што, маўляў, не месца робіць прыўкрасным чалавека.

Што ж да фільмаў пра Лютаслаўскага і Кілары, мы яшчэ раз пераканаліся: талент вырашае ўсё, нягледзячы на час, сацыяльныя варункі і геаграфічнае становішча, хаця пан Занусі спрабаваў даводзіць, нібыта ўсё вырашае сацыяльная свабода. Але мне падалося, што не ўсё...

Потым нам пашчасціла трапіць на вельмі цікавы канцэрт электраакустычнай музыкі маладых кампазітараў. Асабіста мяне найбольш уразілі тыя опусы, дзе камп'ютэрныя вынаходніцтвы і электраакустыка спалучаліся з галасамі "жывых" інструментаў. Можна было толькі пазайздросціць, што маладыя польскія музыканты маюць такія цудоўныя магчымасці для творчых пошукаў, якія дае студыя камп'ютэрнай музыкі. А ці будзе гэта калі-небудзь у нас?

Апошні канцэрт гэтага дня ладзіўся ўжо а 22-й гадзіне — гэта было вельмі дзіўнае выступленне швейцарскага трыо "мультыінструменталістаў" пад агульнай назвай "велька форма імправізавана". Дзіўным канцэрт цудоўных швейцарскіх выканаўцаў падаўся ў сэнсе стылю. Вядома, што авангардны джаз сёння даволі цесна злучыўся з сучаснай камернай музыкай. Дык вось адваротны працэс мы назіралі на канцэрце швейцарскага трыо, калі музыканты (а кожны з іх іграў на некалькіх інструментах, у тым ліку на электравіяланчэлі і кантрабаскларнеце), пачаўшы як выканаўцы камернай музыкі, дайшлі ў сваёй імправізацыі да такога экстазу, які пасуе хутчэй джазу. Але менавіта гэта давяло ўсю публіку да гранічнай ступені захаплення, хаця пераканала далёка не ўсіх.

●

Глыбока ўражвала сама атмасфера фестывалю. Атмасфера элітарнасці, шчырага пакланення высокаму мастацтву, атмасфера найвышэйшага прафесійнага майстэрства панавала тут і прымушала нас адчуваць сябе ў іншай цывілізацыі. Якімі дзікунскімі падаліся б у гэтай атмасферы нашы тутэйшыя спрэчкі: дык усё ж патрэбна валодаць майстэрствам ці дастаткова толькі каб "душа спявала"? Тут усё зусім інакш. Афішамі з праграмамі канцэртаў фестывалю — канцэртаў камернай, сімфанічнай, электраакустычнай музыкі былі абклееныя ўсе рэкламныя тумбы і шчыты горада. І было відавочна, што ў гэтыя 10 дзён няма тут падзеі больш важнай, чым паказ новай музыкі кракаўскіх кампазітараў. Ды не толькі кракаўскіх. На афішах імёны Месіяна, Пендэрэцкага, Шнітке, Канчэлі, Губайдулінай... Інакш і быць не магло. Сама старажытная цывілізацыя горада, яго велізарныя культурныя традыцыі сфармавалі гэтую атмасферу.

У дні фестывалю на Кракаў абрынулася такая спёка, якой жыхары не памяталі ўжо дзесяцігоддзі. І было вельмі дарэчы, што ўсе канцэрты праходзілі ў залах старадаўніх будынкаў, у касцёлах, музеях, на прыгараднай віле, дзе атулялі прахалода і спакой стагоддзяў. Здзіўляла абсалютная гармонія архітэктурнай даўніны і сучаснай музычнай мовы. Рабілася адразу зразумелым, што глыбінная сувязь сапраўднага мастацтва існуе па-над часам. І асабліва відавочна гэта было на сімфанічным канцэрце ў велічным, нават грандыёзным саборы Святой Катажыны.

Выконваліся там два творы: Пятая сімфонія Кшыштафа Пендэрэцкага — яркая, эфектная, адметная вялізным майстэрствам і твор француза Аліў'е Месіяна "Узыходжанне". Твор Месіяна, напісаны яшчэ ў 30-я гады, — гэта шэраг велічных харалаў — высокіх, узнёслых, якія імкнуцца ўвышыню — да Бога. І сама архітэктура сабора Святой Катажыны ўзмацняла ўздзеянне гэтай музыкі. Дзіўнае спалучэнне залатой раскошы галоўнага алтара і аскетызму белых і голых сцен; велічныя, імклівa скіраваныя ўверх скляпенні і грувасткія крэслы для заможных магнатаў, што прыходзілі сюды на імшу; нейкая амаль дэманстратыўная грандыёзнасць усёй пабудовы гэтага велізарнага храма і адмысловасць найдрабнейшых дэталяў яго аздаблення. Але самым дзіўным было тое, што ўвесь час, пакуль гучала музыка Месіяна, высока-высока, пад светлым купалам сабора лёталі, мітусіліся, шчабяталі дзесяткі ластавак, і іх галасы настолькі ўдала ўліваліся ў партытуру вялікага французскага майстра, быццам бы ён сам пажадаў-задумаў гэта. Бо вядома ж, што адной з найярчэйшых старонак творчасці Месіяна былі менавіта опусы, звязаныя з ягонымі запісамі птушыных галасоў: шматлікія "Каталогі птушак", яго дразды, шпакі і розныя экзатычныя прадстаўнікі птушынага царства.

На кракаўскім фестывалі ўражваў стылістычны і тэхналагічны дыяпазон прадстаўленай музыкі. Асабіста я была ўпэўненая, што патрапілю на фестываль авангарднай накіраванасці, але ўсё аказалася інакш. Прагучалі і опусы класікаў, такіх, як вельмі шануемы нашымі гаспадарамі Ігнацы Падэрэўскі — піяніст, кампазітар, знакаміты рэдактар твораў Шапэна і ў нейкі час нават прэм'ер-міністр Польшчы. Прагучалі і творы маладых кампазітараў — лаўрэатаў вельмі прэстыжнага конкурсу імя Тадэвуша Бэрда, і творы студэнтаў, сярод якіх былі даволі цікавыя.

Трэба сказаць, што нават прадстаўнікі аднаго пакалення вылучаліся музыкай самых розных стылістычных напрамкаў і эстэтычных уяўленняў. Так, з кампазітараў старэйшага пакалення сучасную кракаўскую музыку прадстаўлялі Юліуш Луцюк, Збігнеў Буярскі ды Хрысціна Машуманьска-Наззр. Юліуш Луцюк паказаў вытанчаныя, напоўненыя водарам польскіх садоў і кветак мініяцюры "Вікліна" для струннага ансамбля, заснаваныя на фальклорных польскіх мелодыях. Твор Збігнева Буярскага "Павана" для аркестра пераконваў у фундаментальнасці кракаўскай кампазітарскай школы. А пані Машуманьска-Наззр паказала музыку зусім іншую — заснаваную на самых смелых адкрыццях музычнага мастацтва XX стагоддзя. 74-гадовая кампазітарка надзвычай уразіла мяне: і сваім шляхетным выглядам — высокая, зграбная, танклявая, прыгожая, з неверагодным пачуццём уласнай годнасці (такой і ўяўлялася мне сапраўдная арыстакратка-полька), і сваёй музыкай, якая засведчыла віртуознае валоданне кампазітарскай тэхнікай, неверагодную фантазію, вынаходлівасць і самую высокую ступень майстэрства.

●

Канцэрт беларускай музыкі адбыўся ў апошні дзень фестывалю. Ён уключаў у асноўным творы двух апошніх гадоў: Санату Вячаслава Кузняцова, фартэпіянны цыкл Уладзіміра Дарохіна, Санату для альта Яўгена Паплаўскага, Санату-сарабанду Алега Соніна, творы аўтара гэтых радкоў — фартэпіянныя "Пейзажы" і "Самотную ідылію" для кларнета. У выкананні ўдзельнічалі кракаўскія музыканты: альтыст Міхал Ферэнс ды кларнетыст Анджэй Годэк (ён, дарэчы, сёлета з поспехам выступаў у Мінску). Іх цудоўнае выкананне, адносіны польскіх музыкантаў да нашай музыкі кранулі бязмежна. Гэта быў самы высокі ўзровень выканаўчага майстэрства! А наш Алег Крымер іграў так натхнёна, так дасканала, выклікаў такое захапленне слухачоў, што яго адзначылі ў наміналіцы лепшых выканаўцаў кракаўскага фестывалю. Дадам, што музыка наша гучала ў шыкоўнай зале 17 стагоддзя, аздобленай неверагоднай прыгожай ляпнінай, старадаўнімі партрэтамі на сценах і такімі ж старадаўнімі люстэркамі ў бронзавых рамах. Прыём беларускай музыкі публікай даў нам падставу спадзявацца, што яна знайшла водгук у сэрцах слухачоў.

Цудоўна, калі мары здзяйсняюцца. Цудоўна, калі, пабачыўшы тое, што шмат гадоў жыло ў тваёй душы і ў тваім уяўленні, не толькі не расчароўваешся, але захапляешся яшчэ больш. Так і было ў маім спатканні з Кракавам. Яго прыгажосць і гармонія, яго чарадзейнае прасякнутае музыкай паветра перасягнулі ўсе мае фантазіі. На развітанне хацелася бясконца паўтараць: "Кракаў — любоў мая!".

**Галіна ГАРЭЛАВА**



*Пасля канцэрта беларускай музыкі: Алег КРЫМЕР, Галіна ГАРЭЛАВА, Анджэй ГОДЭК.*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, ахоўы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)
Індэкс 63856.
Наклад 3631
Нумар падпісаны ў друк 1.10.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 5814/Г
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12